ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЕВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 20

30-е КАСТРЫЧНІКА 1934 г.

## ЗМЕСТ

*Стар.*

**Перадавы**—Марксісцка-ленінскую вучобу—на ўзровень задач партыі . . . . . . . . . . . 2

**Н. Леўкова**—З гісторыі Окцябрскіх дзён на Беларусі. 9

**Л. Рудзіцкі**—Асноўныя прынцыпы совецкай выбарчай сістэмы . . . . . . . . . . . . . 31

**С. Міллер**—Перабудова партработы—аснова масавага прыліву ў калгасы . . . . . . . . . . . 46

**В. Кірылаў** — Асенне-зімовыя перавозкі—важнейшая задача транспарта . . . . . . . . . . . 56

**С. Анціпенка** — Усебеларускі з'езд рабселькораў — справа ўсіх партарганізацый . . . . . . . . 62

**А. Валабрынскі**—Мендэлееў і дыялектычны матэрыялізм. . . . . . . . . . . . . 70

**КАНСУЛЬТАЦЫІ**

**А. Гарэлікаў**—Узорна арганізаваць зімоўку жывёлы . 83

**Крытыка і бібліяграфія**

**Г. Ерафееў і Н. Сырэц**—Таптанне на месцы . . . 90

**Кніжная паліца** . . . . . . . . . . . . . 94

**ПАСТАНОВЫ ЦК КП(Б)Б** . . . . . . . . . 98

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.





# Марксісцка-ленінскую вучобу—на ўзровень задач партыі

Рэволюцыйная тэорыя заўсёды была найвастрэйшаю зброяй у барацьбе партыі за перамогу пролетарскай рэволюцыі, за пабудову соцыялістычнага грамадства.

Указанні Леніна і Сталіна на тое, што «без рэволюцыйнай тэорыі не можа быць рэволюцыйнага руху», што «ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавою тэорыяй», што «тэорыя дае практыкам сілу арыентыроўкі, яснасць перспектывы, упэўненасць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы»—партыя заўсёды па-большэвіцку праводзіла і праводзіць у сваёй штодзеннай рабоце.

Гістарычныя перамогі партыі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне ёсць найвялікшы трыумф рэволюцыйнай тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, яркі довад правільнасці генеральнай лініі нашай партыі, яе палітычнага і арганізацыйнага кіраўніцтва.

Тав. Сталін на XVII партз'ездзе гаварыў:

> «Гляньце на вакольныя краіны: ці многа вы знойдзеце кіруючых партый, якія маюць правільную лінію і праводзяць яе ў жыццё? Уласна, такіх партый няма цяпер у свеце, бо ўсе яны жывуць без перспектыў, блытаюцца ў хаосе крызіса і не бачаць шляхоў для таго, каб выбрацца з твані. Толькі наша партыя ведае, куды весці справу і вядзе яе наперад з поспехам. Чаму абавязана партыя гэтай сваёй перавагай? Таму, што яна з'яўляецца партыяй марксісцкай, партыяй ленінскай. Яна абавязана таму, што кіруецца ў сваёй рабоце вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна. Не можа быць сумнення, што пакуль мы застаемся вернымі гэтаму вучэнню, пакуль мы ўладаем гэтым компасам,—будзем мець поспех у сваёй рабоце».

XVII з'езд партыі прыняў грандыёзную праграму работ ў справе пабудовы бясkласавага соцыялістычнага грамадства.

Аднак, трэба памятаць, што ажыццяўленне задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясkласавага соцыялістычнага грамадства—будзе праходзіць ва ўмовах абвострання класавай барацьбы. Разгромленыя, але яшчэ недабітыя рэшткі капіталістычных класаў, замаскавана, тоячыся, мяняючы сваю тактыку і формы барацьбы, скарыстоўваючы ўсякія слабасці і недахопы нашай работы, слабасць-

і недастатковасць рэволюцыйнай пільнасці некаторых работнікаў, імкнуцца «ціхаю сапай», усякімі шляхамі і спосабамі затармазіць пераможны ход соцыялістычнага будаўніцтва і сарваць нашу работу на паасобных участках.

Для паспяховай барацьбы з супраціўленнем рэштак капіталістычнага класа і яго агентурай кожны комуніст павінен умець своечасова выявіць шкодную работу класава-варожых элементаў, ускрыць усялякія антыпартыйныя апартуністычныя і варожыя пролетарыяту і яго партыі вылазкі, своечасова выкрыць работу разбітага, але яшчэ недабітага мясцовага контррэволюцыйнага нацдэмакратызма, як галоўнай небяспекі ва ўмовах БССР на даным этапе, весці барацьбу з рэшткамі вялікадзяржаўнага шавінізма і рознымі контррэволюцыйнымі нацыяналістычна-шавіністычнымі праявамі іншых колераў.

Кожны комуніст паасобку і ўся партарганізацыя ў цэлым павінны ўзброіцца марксісцка-ленінска-сталінскай тэорыяй, якая забяспечвае паспяховую барацьбу за генеральную лінію партыі, за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

На сучасным этапе соцбудаўніцтва прад'яўляюцца павышаныя патрабаванні кожнай партарганізацыі, кожнаму комуністу. Кожны комуніст павінен умець адказаць на тыя вострыя палітычныя пытанні, што ставяцца масай працоўных, павінен быць падрыхтаваным так, каб узначаліць вытворчую і палітычную актыўнасць мас, умець растлумачыць ім мэты і задачы партыі.

Ускладніліся задачы, што стаяць перад партыяй, павышаюцца і патрабаванні росту палітычнага ўзроўню комуністаў, якія ўзначальваюць барацьбу мільённых мас за рэалізацыю гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі. Таму нядзіўна, што партыя з выключнай завостранасцю ставіць зараз пытанні павышэння ідэйна-палітычнай узброенасці сваіх радоў, павышэння тэарэтычнага ўзроўню комуністаў.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе паставіў выключна агромныя задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы. Рэалізуючы іх, партыйная арганізацыя КП(б)Б дабілася палепшання пастаноўкі ідэйна-палітычнага выхавання сваіх радоў. У мінулым годзе значная частка партыйных камітэтаў як у горадзе, так і на вёсцы палепшылі кіраўніцтва партасветай. Сярод партыйных мас наглядаецца каласальная цяга да павышэння палітычнага ўзроўню. Аднак, пастаноўка марксісцка-ленінскай вучобы ў радзе партарганізацый Беларусі мае яшчэ не мала сур'ёзнейшых недахопаў.

ЦК КП(б)Б у апошнім сваім рашэнні адзначыў:

> «У рабоце па марксісцка-ленінскаму выхаванню ёсць рад недахопаў: нездавальняючы падбор і праверка работы прапагандыстаў, нізкі агульна-палітычны ўзровень значнай часткі прапагандыстаў і метадычная падрыхтоўка, нізкая якасць вучобы, нездавальняючая ступень усваення прапрацоўваемага матар'ялу, арганізацыйны бок у рабоце сеткі партасветы пастаўлен дрэнна. Значная частка раённых камітэтаў партыі, палітаддзелаў МТС і соўгасаў канкрэтна арганізацыяй работы па партасвеце на кіруюць».

Гэта большэвіцкая ацэнка сведчыць аб тым, што многія райкомы партыі яшчэ не зусім ясна ўяўляюць сабе агромнейшае палітычнае значэнне ідэйна-палітычнай узброенасці комуністаў, не перабудавалі

кіраўніцтва справай партыйнай прапаганды адпаведна з дырэктывамі XVII з'езда партыі і ўказаннямі т. Сталіна.

У Лёзне, Уваравічах, Талачыне, Асвеі, Дуброўне і інш. раёнах у мінулым годзе партвучоба была пастаўлена зусім нездавальняюча. Невыпадкова, што ў гэтых арганізацыях многія камуністы не ведаюць рашэнняў XVII з'езда партыі, не чыталі даклада тав. Сталіна.

Тав. **Максіменка**—старшыня Сталінскага сельсовета (Уваравіцкі раён) гаворыць:

> «У мінулым годзе я ні ў якой школе не вучыўся, рашэнняў з'езда партыі не прапрацоўваў, пачаў чытаць сам даклад тав. Сталіна, але так і не закончыў».

Тав. **Усевіч—старшыня** рабачкома соўгаса (Уваравіцкі раён)—заяўляе:

> «Партвучобы ў нас не было. Прымацаваны з райкома прапагандыст ні разу да нас не прыязджаў».

Тав. Усевіч не ведае рашэнняў XVII партз'езда. На пытанне аб тым, хто з'яўляецца сакратаром ЦК КП(б)Б, адказвае:—«Не ведаю».

Мы прывялі два прыклады з адной арганізацыі, але падобных ім не мала і ў радзе іншых арганізацый.

Ад гарадскіх і раённых камітэтаў, ад кіраўнікоў пярвічных партарганізацый партыя патрабуе карэнным чынам палепшыць кіраўніцтва партыйнай вучобай, і гэта патрабаванне мы павінны выканаць. Партыйныя камітэты павінны зразумець усю адказнасць за пастаноўку марксісцка-ленінскага выхавання камуністаў. Сёлета мы маем усе магчымасці не толькі знішчыць мінулыя недахопы, але і ўзорна паставіць марксісцка-ленінскую вучобу, каб стаць у радах перадавых арганізацый ВКП(б).

Сетка партасветы пачала ўжо новы навучальны год і, трэба сказаць, больш падрыхтавана і арганізавана.

Значная частка гарадскіх і раённых камітэтаў партыі, парткомы пярвічных партарганізацый правялі вялікую падрыхтоўчую работу. Пытанні разгортвання партвучобы абгаварваліся на бюро ГК, РК, партсходах. Некаторыя райкомы заслухалі на бюро даклады сакратароў парткомаў, парторгаў, школ прапагандыстаў аб падрыхтаванасці да партвучобы. Значная частка РК і ГК КП(б)Б арганізавала дакладную праверку прапагандыстаў праз спецыяльныя кваліфікацыйныя камісіі. У рэзультаце—падабраны правераныя кадры прапагандыстаў, добра ўкамплектавана сетка партасветы, школы і гурткі забяспечаны падручнікамі.

Аднак, задаволіцца гэтымі поспехамі і супакоіцца на іх мы не можам, тым больш, што і ў гэтым годзе ёсць факты, якія сігналізуюць аб буйных недахопах у пастаноўцы партыйнай вучобы, аб недаацэнцы яе.

Узяць хоць-бы Любаньскі раён. Партвучоба на вёсцы па сутнасці яшчэ не арганізавана. Работнікі райкома чакаюць, пакуль скончацца ўсе кампаніі, каб узяцца за вучобу. Так разважае і нам. сакратара Лёзненскага райкома партыі.

ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б у сваіх рашэннях асабліва падкрэслівалі неабходнасць правільнага камплектавання сеткі партасветы на аснове

дакладнага вывучэння ўзроўню кожнага комуніста, стараннага падбору і праверкі прапагандыстаў для школ і гурткоў.

Тым часам, паасобныя партарганізацыі фармальна падышлі да гэтай работы. У Талачыне, Уваравічах, Лоеве, у паасобных пярвічных арганізацыях Гомеля, Магілева школы і гурткі камплектаваліся механічна. У радзе выпадкаў несур'ёзна аднесліся да праверкі прапагандыстаў (гомельскі, магілеўскі, бабруйскі РК), а ў рэзультаце ў школах і гуртках аказаліся прапагандысты, зусім непрыгодныя для гэтай работы. Партарганізацыі павінны неадкладна выправіць гэтыя памылкі.

У цэнтры ўвагі павінна стаяць якасць партыйнай прапаганды, барацьба за чыстату марксісцка-ленінскага вучэння.

Раённыя камітэты партыі, пярвічныя партарганізацыі павінны весці нястомную барацьбу за высокую якасць вучобы, супроць механічнага зазубрывання, супроць слізгання па паверхні. Трэба так арганізаваць партвучобу, каб яна была зразумелай, цікавай, ідэйна вытрыманай, каб, павышаючы ідэйна-тэарэтычны ўзровень, яна сапраўды ўзбройвала комуністаў на барацьбу за паспяховае выкананне гаспадарча-палітычных задач на кожным канкрэтным участку соцыялістычнага будаўніцтва, раскрывала ўсе ідэйныя багацці вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна і забяспечвала глыбокае вывучэнне марксізма-ленінізма па сутнасці.

З асаблівай сур'ёзнасцю трэба аднесціся да падбору прапагандыстаў і арганізацыі работы з імі. На прапагандысцкую работу, як гэта не раз падкрэслівалася ў рашэннях ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, павінны быць вылучаны самыя лепшыя, найбольш тэарэтычна падрыхтаваныя члены партыі, асабліва з партыйнага актыва, бо прапагандыст вырашае якасць вучобы.

Адна з важнейшых форм тэарэтычнай і метадычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў—пропсемінары. Яны павінны быць арганізаваны пры ўсіх РК і ГК КП(б)Б. Рашэннем ЦК партыі адказнасць за работу пропсемінараў ускладаецца непасрэдна на сакратароў райкомаў і гаркомаў партыі.

Не гледзячы на тое, што партыйная вучоба пачалася, пропсемінары ў значнай частцы раёнаў працуюць дрэнна, не даюць глыбокіх тэарэтычных і асабліва метадычных ведаў, прапагандысты часта не здавальняюцца такімі заняткамі і наведваюць іх дрэнна. Тым часам, калі добра арганізаваць работу пропсемінараў, яны могуць аказваць агромную дапамогу ў палепшанні якасці вучобы. Вопыт Менска, Барысава і іншых раёнаў даў ужо вельмі станоўчыя вынікі. Цвёрдая дысцыпліна, тэарэтычна падрыхтаваныя кіраўнікі семінара спрыяюць таму, што кожны прапагандыст рыхтуецца да кожнага занятка як па сутнасці тэмы, так і методыкі выкладання.

Вялікае значэнне ў рабоце школ і гурткоў мае цвёрдая дысцыпліна, культурная абстаноўка—светлыя памяшканні, добрае абсталяванне, забяспечанасць падручнікамі, картамі, дыяграмамі, вучэбнымі прыладамі (алоўкі, сшыткі).

Сур'ёзна аднеслася да справы гомельская папяровая фабрыка «Герой працы». Школы працуюць у добрых памяшканнях. У пакоях чыста, утульна, цёпла. Школы забяспечаны картамі, глобусамі.

У друкарні імя Сталіна, на заводзе «Большэвік (Менск) за школамі замацаваны сталыя памяшканні. Перад заняткамі яны праветрываюцца, працаваць у іх прыемна.

Многія партарганізацыі здолелі спалучыць работу школ і гурткоў з павышэннем агульнакультурнага ўзроўню слухачоў.

У Менску арганізуецца пасля заняткаў наведванне кіно, гістарычнага музея. Вынікі абгаварваюцца потым у гуртках. У Оршы пры партгабінеце шырока ўжываюцца карта, глобус. Гэтыя пачынанні павінны стаць набыткам і іншых партарганізацый.

Асаблівае значэнне ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б надаюць рабоце партгабінетаў, якія могуць і павінны адыграць надзвычай вялікую ролю ў палепшанні якасці партыйнай прапаганды і агітацыі. На жаль, партгабінеты не спраўляюцца яшчэ са сваімі задачамі, не забяспечаны кваліфікаванымі работнікамі, добрымі памяшканнямі.

Уваравіцкі партгабінет туліцца ў адным невялікім пакойчыку. Дзве шафы, этажэрка, адна карта, два партрэты Сталіна і Молатава— вось і ўсё яго абсталяванне. Загадчык партгабінета тав. **Нядбайло**— падрыхтаваны таварыш, але за ўвесь час сваёй работы даў толькі адну кансультацыю па прапрацоўцы рашэнняў з'езда, бо заняты правядзеннем розных кампаній на вёсцы: упаўнаважаным па мясапастаўках—паўтара месяцы, па вывазцы торфу—20 дзён, па мабілізацыі сродкаў — 10 дзён. Цяпер, у перыяд разгортвання партвучобы, тав. Нядбайло паслалі ў раён па калектывізацыі.

Партгабінет талачынскага райкома знаходзіцца ў адным брудным пакоі, які нагадвае нейкі склад, літаратура раскідана па падлозе. Загадчык тав. **Варвашэня** працаваў на вёсцы ўпаўнаважаным райкома: у чэрвені—20 дзён, у жніўні—24, у верасні—19. Тав. Варвашэня сам заяўляе, што габінет месяцамі закрыт, ніякай работы не вядзе, актыў не наведвае яго.

Уздзенскі партгабінет мае нядрэнную бібліятэку ў 2.000 розных кніг, выпісвае 90 назваў перыядычных выданняў: «Большевик»— 30 экз., «Большэвік Беларусі»—30 экз., «У дапамогу партвучобе»— 30 экз., «Прапагандыст»—30 экз. і т. д. Нядрэннае памяшканне з 5 пакояў абсталявана добраю мэбляй: 50 крэслаў, 13 сталоў, 4 мяккія дываны. Умовы, такім чынам, нядрэнныя, але работа пастаўлена дрэнна. У партгабінет заходзяць пачытаць газеты 3—5 чал. з райпартактыва, нізавы актыў—прапагандысты—у габінеце не бываюць.

Загадчык тав. **Чырман** за апошнія два месяцы быў у партгабінеце не больш 10 дзён, а астатні час—у раёне **на гаспадарчых кампаніях.** На просьбу т. Чырмана даць яму магчымасць наладзіць работу габінета, сакратар РК заявіў: «Для нас зараз важней работа на вёсцы, чым партвучоба. За партвучобу не ўдараць, а за невыкананне кампаніі занясуць на чорную дошку».

Адзначаныя недахопы ў пастаноўцы партыйнай вучобы і работы партгабінетаў сведчаць аб тым, што паасобныя райпартарганізацыі недаацэньваюць значэння партвучобы, ролю партгабінетаў у павышэнні палітычна-тэарэтычнага ўзроўню комуністаў, не здолелі спалучыць і ўвязаць выкананне чарговых гаспадарча-палітычных задач і кампаній з задачамі партыйнай вучобы.

Поспехі гаспадарча-палітычных кампаній гэтага года сведчаць аб тым, што большасць раённых партыйных арганізацый, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, перабудавалі сваю работу, забяспечылі больш канкрэтнае аперацыйнае кіраўніцтва паасобнымі ўчасткамі. Гэты большэвіцкі стыль райкомы партыі павінны перанесці і на пастаноўку партыйнай вучобы, ахапіць ёю ўсіх комуністаў і спачуваючых, цесна

ўвязаць з усімі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі, лепшыя формы і метады партвучобы папулярызаваць праз раённы друк, шырока разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж гурткамі, нізавымі парт'ячэйкамі, так і ўнутры гурткоў і семінараў.

Раённыя камітэты партыі павінны ўзяць партгабінеты пад сваё непасрэднае кіраўніцтва, умацаваць іх работнікамі.

Ва ўсёй рабоце партасветы ў цэнтры ўвагі паставіць жывога чалавека. Прапагандыст павінен ведаць кожнага свайго слухача, яго жатняе жыццё, работу на прадпрыемстве, у калгасе. Толькі пры такой умове магчыма глыбокая пастаноўка марксісцка-ленінскай вучобы.

Выключнай увагі заслугоўвае вучоба комуністаў-адзіночак на вёсцы. Гэтыя людзі, раскіданыя па перыферыі, вельмі часта прадастаўлены самім сабе. У арганізацыі вучобы комуністаў-адзіночак рад райкомаў мае ўжо некаторы вопыт. У Горках адзіночкі выклікаюцца кожны месяц на два-тры дні ў раён для вучобы. У Бабруйску арганізуюцца куставыя партгабінеты, дзе праводзіцца вучоба комуністаў-адзіночак. Ужо абсталяваны і працуюць тры такія партгабінеты. Форм і метадаў ахвату вучобай комуністаў-адзіночак багата, трэба толькі ўмець іх выкарыстаць. Вучобе адзіночак павінна быць удзелена выключная ўвага. Іх увесь час трэба трымаць у курсе рашэнняў партыі, сістэматычна займацца імі, дапамагчы стаць на справе арганізатарамі калгасных мас вёскі.

На вучобу і павышэнне палітычна-тэарэтычнага ўзроўню партыйнага актыва трэба таксама звярнуць асаблівую ўвагу. На партактыў раёна партыя ўскладае выключныя задачы, актыў у першую чаргу сам павінен разбірацца ў важнейшых дакументах партыі і кіраваць марксісцка-ленінскай вучобай комуністаў. Таму ЦК КП(б)Б не раз падкрэсліваў неабходнасць правільнай арганізацыі вучобы партактыва. Ажыццяўляючы гэтыя ўказанні, рад ГК і РК партыі здолелі правесці сёлета вялікую работу. У Менску, Гомелі, Магілеве наладжаны рознастайныя віды вучобы партактыва: семінары парторгаў, сакратароў парткомаў, дырэктароў прадпрыемстваў і інш. У гэтых раёнах пачалі ўжо працаваць семінары кіруючых работнікаў—членаў бюро РК і ГК КП(б)Б. У рабоце гэтых семінараў актыўны ўдзел прымаюць сакратары гаркомаў партыі: тт. **Рыскін, Шафарэнко, Рэвінскі.** Вопыт работы гэтых арганізацый неабходна выкарыстаць усім раёнам.

Асноўнай умовай паспяховага правядзення асенне-зімовай партвучобы і палепшання яе якасці з'яўляецца сістэматычная праверка работы сеткі партасветы работы прапагандыстаў і кожнага слухача, іх паспяховасці ў вучобе.

Партыйныя арганізацыі, парткомы павінны забяспечыць сістэматычную праверку паспяховасці. Сакратары і члены парткомаў асабіста павінны цікавіцца ходам заняткаў і наведваць іх, на пасяджэннях парткомаў перыядычна заслухоўваць справаздачы школ і гурткоў прапагандыстаў.

Партарганізацыі КП(б)Б маюць усе ўмовы зрабіць гэты год годам узорнай пастаноўкі марксісцка-ленінскай вучобы, арганізаваць яе так, каб узброіць кожнага члена, кандыдата партыі, спачуваючага і комсамольца на выкананне гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі, на выкананне задач другой пяцігодкі.

У аснову гэтай вялікай і адказнай работы павінны быць пакладзены ўказанні правадыра нашай партыі тав. Сталіна:

«Узняць тэарэтычны ўзровень партыі на патрэбную вышыню.

Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі.

Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі.

Выхоўваць партарганізацыі і беспартыйны актыў, які іх акружае, у духу ленінскага інтэрнацыяналізма.

Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма.

Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

Н. Леўкова

# З гісторыі Окцябрскіх дзён на Беларусі

Вялікая Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя завяршыла перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Пад кіраўніцтвам партыі пролетарыят у саюзе з беднатою пры нейтралізацыі сярэдняга сялянства атрымаў перамогу над буржуазіяй і ўстанавіў сваю дыктатуру.

Увесь перыяд перарастання лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную—гэта перыяд, калі большэвікі ўсё больш і больш заваёўвалі на свой бок шырокія масы працоўных, падрыхтоўваючы іх да рашаючага бою з буржуазіяй.

Дэманстрацыя ў красавіку, зрыў чэрвеньскага наступлення, падзеі 3—5 ліпеня, барацьба з карнілаўшчынай—усё гэта непарыўны працэс выкрыцця большэвікамі на вопыце барацьбы саміх мас імперыялістычнай сутнасці Часовага ўрада і соцыял-здрадніцтва меншавікоў, бундаўцаў, эсэраў, БГС і іншых дробна-буржуазных партый.

І калі падзеі 3—5 ліпеня ў працэсе класавай барацьбы паклалі асабліва выразную грань паміж сіламі рэволюцыі і контррэволюцыі, то карнілаўшчына яшчэ больш узмацніла гэты працэс класавай дыферэнцыяцыі.

Ацэньваючы ліпеньскія падзеі, Ленін пісаў:

> «Цыкл развіцця класавай і партыйнай барацьбы ў Расіі з 27 лютага па 4 ліпеня закончыўся. Пачынаецца новы цыкл, у які ўваходзяць не старыя класы, не старыя партыі, не старыя советы, а абноўленыя агнём барацьбы, загартаваныя, навучаныя,ператвораныя ходам барацьбы» *).

У палітычным моманце новым было тое, што ліпеньскія дні паслужылі мяжой, калі скончылася двоеўладдзе, калі

> «Хісцкі стан улады спыніўся, улада перашла ў рашаючым месцы ў рукі контррэволюцыі» **).

К моманту работ VI з'езда партыі ўжо яўна і рэзка вызначыліся новыя класавыя суадносіны ў краіне. Пад уплывам контррэволюцыйнай палітыкі Часовага ўрада і абнаглелай буржуазіі рэволюцыйныя настроі ў рабочых не толькі не аслабявалі, а наадварот,—набывалі ўсё больш палітычна-свядомы і арганізаваны характар. Партыя вяла напружаную работу па кансалідацыі сіл рэволюцыі, няўтомна выкрываючы дробна-буржуазныя партыі і іх імперыялістычную палітыку.

---

*) Ленін, т. XXI, стар. 38.
**) Ленін, т. XXI, стар. 34.

Не гледзячы на тое, што з'езд праходзіў у атмасферы ўдушлівачорнасоценнай рэакцыі, пролетарыят уважліва сачыў за ўсёй яго работай і прысылаў бадзёрыя, поўныя веры ў сваю сілу і блізкую перамогу прывітанні. Уся работа з'езда пад непасрэдным кіраўніцтвам бліжэйшага саратніка Леніна—т. Сталіна—паказала аднадушша і жалезную волю, волю рэволюцыйнага авангарда пролетарыята, волю класа рабочых, які цвёрдым крокам набліжаецца да захвату палітычнай улады, да ўстанаўлення ў саюзе з беднатой дыктатуры пролетарыята. У цэнтры ўсёй работы з'езда стаяла пытанне аб падвядзенні вынікаў першаму этапу мірнага развіцця рэволюцыі з лозунгам «уся ўлада Советам» і вызначэнні далейшай тактыкі партыі. У цэнтры вызначэння новай тактыкі стаяла пытанне аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання. У жорсткай барацьбе супроць правых і левых была прынята пастанова, у якой давалася дырэктыва ўсім партыйным арганізацыям:

«Накіраваць усе намаганні на арганізацыю і падрыхтоўку сіл к моманту, калі агульна-нацыянальны крызіс і глыбокі масавы ўздым створаць спрыяючыя ўмовы для пераходу беднаты горада і вёскі на бок рабочых супроць буржуазіі. **Задачай гэтых рэволюцыйных класаў з'явіцца тады напружанне ўсіх сіл для таго, каб узяць дзяржаўную ўладу ў свае рукі, накіраваць яе ў саюзе з рэволюцыйным пролетарыятам перадавых краін на мір і социялістычную перабудову грамадства»** *).

Каласальная роля т. Сталіна ў падрыхтоўцы соцыялістычнай рэволюцыі выявілася на гэтым з'ездзе ва ўсёй глыбіні і паказала пролетарыям усіх краін лепшага вучня Леніна, правадыра і геніяльнага стратэга рэволюцыі.

Выступленне Карнілава ў корані змяніла палітычнае становішча краіны.

Карнілаўшчына, з аднаго боку, ўзняла магутную хвалю рэволюцыйнай барацьбы рабочых, салдат і сялян, з другога боку,—узмацніла развал і дэзарганізацыю сіл меншавікоў, эсэраў, бундыстаў і інш. дробна-буржуазных партый, што былі ў кааліцыі з імперыялістычнай буржуазіяй. Карнілаўшчына канчаткова зжыла і рассеяла ў масах дробна-буржуазныя ілюзіі гэтай кааліцыі. Хутка большэвізаваліся советы і іншыя масавыя арганізацыі.

Ацэньваючы значэнне карнілаўшчыны, Ленін пісаў:

«Гістарычнае значэнне паўстання Карнілава заключаецца іменна ў тым, што яно з надзвычайнаю сілай адкрыла масам народу вочы на тую ісціну, якая была прыкрыта і прыкрываецца да гэтага часу згодніцкай фразай эсэраў і меншавікоў, іменна: памешчыкі і буржуазія з партыяй к.-д. на чале і генералы і афіцэры, што стаяць на іх баку, з'арганізаваліся, яны гатовы зрабіць і робяць самыя нечуваныя злачынствы, аддаць Рыгу (а потым і Петраград) немцам, адкрыць ім фронт, аддаць пад расстрэл большэвіцкія палкі, пачаць мяцеж, павесці на сталіцу войска з «дзікай дывізіяй» на чале і т. д.—усё гэта дзеля таго, каб захапіць усю ўладу ў рукі буржуазіі, каб умацаваць уладу памешчыкаў у вёсцы, каб заліць краіну крывёй рабочых і сялян» **).

*) Пратаколы VI з'езда, стар. 256.
**) Ленін, т. XXI, стар. 138—139.

У сувязі з выступленнем Карнілава паўстала пытанне аб змене тактыкі партыі. **Сутнасць новай тактыкі заключалася ў прамой і непасрэднай падрыхтоўцы ўзброенага паўстання.** Ленін лічыў, што да гэтай задачы партыя надзвычай наблізілася, «што заўтра-ж падзеі могуць нас паставіць на чале ўлады».

Падыходзячы канкрэтна да гэтай задачы, у адным з лістоў у ЦК партыі па пытаннях узброенага паўстання—«Марксізм і паўстанне»—Ленін пісаў:

> «Паўстанне, каб быць паспяховым, павінна апірацца не на змову, не на партыю, а на перадавы клас. Гэта па-першае. Паўстанне павінна апірацца на рэвалюцыйны ўздым народу. Гэта па-другое. Паўстанне павінна апірацца на такі **пераломны пункт** у гісторыі нарастаючай рэвалюцыі, калі актыўнасць перадавых радоў народу найбольшая, калі ўсяго сільней **хістанні** ў радах ворагаў і ў радах **слабых палавінкавых нерашучых прыяцелей рэвалюцыі.** Гэта па-трэцяе» *).

І далей, пераходзячы да канкрэтнага аналіза становішча напярэдадні Оцкябра, Ленін канстатаваў, што «перад намі ў наяўнасці ўсе аб'ектыўныя прадпасылкі паспяховага паўстання», што адмаўляцца ад паўстання ў такіх умовах «азначае здраду марксізму, здраду справе соцыялістычнай рэвалюцыі» **).

К кастрычніку жорсткая барацьба рабочых за палепшанне эканамічнага становішча, за 8-гадзінны рабочы дзень, за павелічэнне заработнай платы, супроць звальнення рабочых, супроць лакаута прадпрыемстваў, супроць беспрацоўя і голаду дасягнула асабліва вострай формы. Па ўсёй краіне адбываліся стачкі, якія часта зацягваліся на вельмі доўгі час і насілі палітычны ўпарта-абвостраны характар.

Пролетарыят Беларусі пад адзіна рэволюцыйным кіраўніцтвам большэвікоў, як і пролетарыят іншых мясцовасцей Расіі, прашоў ад лютага да Оцкябра цяжкі шлях змагання з буржуазнай контррэволюцыяй і дробна-буржуазным згодніцтвам меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў, БСГ, Паалей-цыён і т. д.

Бундаўска-меншавіцкае кіраўніцтва, захапіўшы адразу-ж пасля лютага цэлы рад профсаюзаў у Беларусі, на працягу ўсяго перыяда, ад лютага па кастрычнік, намагалася ўсімі сіламі і сродкамі правесці ў жыццё свой асноўны тэзіс, што прафесіянальныя саюзы павінны захоўваць «нейтралітэт» у галіне партыйнай палітыкі—«быць палітычна беспартыйнымі».

Зразумела, што пад гэтай шыльдай хаваліся далёка не беспартыйныя мэты. Бундаўска-меншавіцкая мэта заключалася ў тым, каб падначаліць пролетарыят інтарэсам Часовага ўрада, інтарэсам імперыялістычнай буржуазіі. Праўленне профсаюзаў у Віцебску прыняло нават пастанову, у якой адкрыта гаварылася:

> «Абвастрэнне эканамічнай барацьбы ў перыяд палітычнага будаўніцтва Расіі пры небяспецы ўзрастаючага беспрацоўя ў асаблівых умовах ваеннага часу з'яўляецца непажаданым» ***).

Як бачым, бундыстам і меншавікам непажадана была нават **эканамічная барацьба пролетарыята,** няма чаго гаварыць ужо аб ба-

*) Ленін, т. XXI, стар. 195.
**) Ленін, т. XXI, стар. 197.
***) „Известия Витебскога Совета Р і СД". № 96,

рацьбе палітычнай. Аднак, барацьба пролетарыята за соцыяльна-палітычнае вызваленне ішла насупраць гэтай класава-варожай палітыкі меншавікоў і бундаўцаў.

Вострая класавая ненавісць да капіталістаў і памешчыкаў штурхала рабочых пад большэвіцкія сцягі. Пад непасрэдным кіраўніцтвам і ўплывам большэвіцкай партыі адбывалася класавая барацьба пролетарыята супроць імперыялістычнай контррэволюцыі. Так, напрыклад, у Менску імкненням заводчыкаў у кастрычніку аб'явіць лакаут рабочым па апрацоўцы метала дан быў моцны і арганізаваны адпор.

З повады абвешчанага лакаута на сходзе дэлегатаў ад рабочых металістаў была вынесена рэзалюцыя, якая растлумачвала масам, што знішчыць разруху ў галіне прамысловасці «магчыма толькі пры новым уздыме рэволюцыі, які перадасць уладу рабочаму класу» *).

Захады контррэволюцыі спыніць дзейнасць рэволюцыйных арганізацый сустракалі арганізаваны адпор рабочых. У пастановах гэтага перыяда заяўлялася, што «ў адказ на ўсе мерапрыемствы, накіраваныя супроць рабочых арганізацый», рабочыя «толькі ўзмоцняць сваю дзейнасць, ахопліваючы па меры магчымасці ўсе бакі жыцця..., кантралюючы і каардынуючы іх дзейнасць (прадпрыемцаў.—**Н. Л.**) і на ўсё накладаючы свой арганізатарскі і аздароўчы адбітак».

У канцы верасня ўзнікла забастоўка на шкляной гуце ў Стараве, Бабруйскага павета. Соцыял-здраднікі прынялі ўсе захады, каб сарваць забастоўку і стварылі для гэтай мэты згодніцкую камісію. Аднак, не гледзячы на двухразовыя спробы спыніць забастоўку, рабочыя цвёрда стялі за свае патрабаванні і наклалі забарону на вываз з завода гатовай прадукцыі **).

16 верасня 200 рабочых ваенна-паравой хлебапякарні прынялі рэзалюцыю, якая патрабавала перадаць уладу советам, зямлю сялянству, спыніць імперыялістычную бойню. У рэзалюцыі разам з тым заяўлялася, што рабочыя аднагалосна пратэстуюць «самым катэгарычным чынам супроць загадаў, асуджаючых нашых таварышоў на катаргу і ў турму за іх палітычныя погляды, за тое, што яны грудзьмі адстойваюць інтарэсы дэмакратыі» ***).

5 кастрычніка рабочыя 116 інжынернай дружыны і абознай майстэрні прынялі рэзалюцыю з патрабаваннем аслабаніць арыштаваных пры віцебскай гаўптвахце афіцэраў-большэвікоў ****).

10 верасня рабочы камітэт майстэрань Гомельскага тэхнічнага аддзела, які аб'яднаў 1400 рабочых, адказаў магутным пратэстам на захады адміністрацыі спыніць дзейнасць рабочага камітэта, заявіўшы, што рабочы камітэт на ўсе контррэволюцыйныя імкненні адміністрацыі будзе адказваць узмацненнем сваёй дзейнасці ў кірунку згуртавання рэволюцыйных сіл рабочых *****).

Барацьба партыі большэвікоў за масы, за спалучэнне сялянскай вайны з узброеным паўстаннем пролетарыята ў горадзе была адным з рашаючых момантаў у заваяванні дыктатуры пролетарыята. Практычная дзейнасць большэвікоў Беларусі за адрыў працоўнага сялянства ад соцыял-здраднікаў эсэраўскага і нацыяналістычнага гатунку

*) „Звязда" № 16.
**) Архіў Інст. гіст. партыі, ф. 20, справа № 30, стар. 377.
***) „Известия Минского Совета" № 66 за 1 верасня 1917 г.
****) „Известия Витебского Совета" № 115.
*****) Архіў Інст. гіст. партыі, ф. 20, справа № 30.

забяспечвала перамогу пролетарскай рэволюцыі, таму работа на вёсцы была адной з важнейшых работ партыі.

Вынікі гэтай работы к Окцябру выявіліся ў росце большэвізма і большэвізацыі мас беднаты. Пад кіраўніцтвам большэвікоў нарастаў аграрны рух у вёсцы. У барацьбе з большэвіцкай «заразай» на вёсцы прадстаўнікі Часовага ўрада арганізоўвалі спецыяльныя контррэволюцыйныя органы. Так, напрыклад, у Віцебскай губерніі быў арганізован спецыяльны орган «трох», вылучаны з так званага «малога совета», куды ўваходзілі: начальнік гарнізона, павятовы камісар Часовага ўрада, старшыня ваеннай секцыі Совета Р. і С. Д. (эсэр.— Н. Л.), старшыня зямельнага камітэта, член харчовай управы, прадстаўнік земскай управы, гарадскі галава, прадстаўнік ад прысяжных паверэных і т. д. і т. д.

22 кастрычніка ўся гэта контррэволюцыйная зграя абрала выканаўчы орган «трох», якому даручыла «вырашаць усе тэрміновыя справы ў барацьбе з анархіяй у павеце і ў выпадку неабходнасці прымяняць узброеную сілу» *).

Аднак, нішто не магло спыніць барацьбу сялян за зямлю. Ходам класавай барацьбы і партыйнай работы большэвікоў вёска вызвалялася з-пад ліпкага ўплыву эсэра-меншавіцкага чаду, паступова пераходзячы пад кіраўніцтва і сцягі пролетарыята.

Побач з барацьбой супроць эсэраў за сялянскія масы большэвікам Беларусі прыходзілася змагацца з беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыяй, якая таксама прэтэндавала на «кіраўніцтва» сялянскім рухам, імкнулася падначаліць яго інтарэсам нацыянальнай контррэволюцыі.

Аднак, «соцыялістычная» фразеалогія Грамады, яе пустыя дэкларацыі аб бясплатнай перадачы зямлі сялянству ні ў якой меры не маглі скрыць сапраўднай сутнасці, сапраўднай контррэволюцыйнасці БСГ, праверанай вопытам барацьбы саміх мас сялянства.

Актыўная дапамога БСГ Часоваму ўраду ў барацьбе з сялянскай «анархіяй», яе жахлівыя заклікі, у сувязі з нарастаючым аграрна-сялянскім рухам, чакаць Устаноўчага сходу, яе непасрэдная сувязь з буржуазіяй і капіталістычнымі памешчыкамі, на грошы якіх яна сама існавала, не маглі не выклікаць у сялянства вострай ненавісці. І нават значнае паляпенне напярэдадні Окцябра фразеалогіі ў публікуемых ад імя БСГ артыкулах не магло ўжо ў якой-бы там ні было ступені прыцягнуць працоўную сялянскую масу на свой бок. З'яўляючыся прамой і непасрэднай выразніцай капіталістычнай буржуазіі і кулацтва Беларусі, асноўнай мэтай якіх было дабіцца замацавання капіталістычнай улады, БСГ у перыяд перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную немінуча змыкалася з вялікадзяржаўнай імперыялістычнай контррэволюцыяй. Большэвікі заставаліся адзінымі і непасрэднымі кіраўнікамі барацьбы мас за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

У поўнай сувязі з ростам агульнай нездаволенасці ў краіне, з абвастрэннем класавай барацьбы пролетарыята з буржуазіяй, з ростам аграрна-сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху нарастала абурэнне і ў арміі.

Рэволюцыянізаванне арміі ішло гіганцкімі крокамі. Адносіны салдат да каманднага складу ўсё больш і больш абвастраліся, салдацкія

*) П.Б.А.Ц.А. у БССР, г. Віцебск, ф. 308, стар. 7.

масы парывалі з соцыял-здрадніцкімі камітэтамі і станавіліся на бок бальшэвікоў.

Але, што асабліва важна, галоўнейшая ваенная апора контррэволюцыі—штурмавыя атрады, атрады смерці і т. д.—гэта апора, створаная рукамі вышэйшага контррэволюцыйнага каманднага складу арміі, пад уплывам агульна-рэволюцыйнага руху пачала разлагацца. І калі раней у зводках сустракаліся звесткі аб тым, што цэлы рад артылерыйскіх частак аб'яўлялі сябе штурмавікамі, то, пачынаючы з канца ліпеня і ў жніўні, зводкі і рапарты поўны былі звесткамі аб тым, што штурмавікі адмаўляюцца выконваць баявыя загады.

«У 298 пях. палку,—даносіць камандзір 2 грэнадзерскага корпуса,—24 ліпеня пяць салдат штурмавой роты, вызначаныя ў дазор у г. дв. Сташаны для аховы раёна распалажэння, самавольна пакінулі пост, матывуючы нежаданнем берагчы памешчыка *).

«У батальёне смерці,—дакладвае той-жа камандзір,—таксама быў выпадак адмаўлення пяці салдат выйсці на заняткі ў поўнай выкладцы» **).

«14 жніўня першы ўзвод 3 роты «батальёна смерці» 55 пях. дывізіі адмовіўся выйсці на паверку» ***).

Аднак, трэба заўважыць, што такія выпадкі не былі масавымі, і батальёны смерці і ім падобныя ваенныя часці ў сваёй аснове заставаліся апорай контррэволюцыі. Батальёны смерці, георгіеўскія батальёны, штурмавікі і т. д. шырока былі скарыстаны контррэволюцыяй у час Окцябрскага перавароту, як ваенная сіла контррэволюцыі, а ў перыяд грамадзянскай вайны іменна гэтыя фармаванні з'явіліся асновай белагвардзейскіх армій.

Разлажэння ў старой арміі, росту рэволюцыйнага руху сярод салдацкай масы не маглі суняць і згодніцкія, соцыял-здрадніцкія вайсковыя камітэты. Зводкі і данясенні каманднага складу поўны скаргамі на тое, што, не гледзячы на ўсе імкненні і гатоўнасць, «камітэты бяссільны змагацца з салдацкай масай».

Характэрнай з'явай гэтага перыяда было самавольнае пераабранне вайсковых камітэтаў, асабліва нізавых. Гэта кампанія праходзіла пад прамым і непасрэдным кіраўніцтвам Менскага бальшэвіцкага совета.

9 верасня, у поўнай згодзе з дырэктывамі Паўночна-Заходняй Франтовай нарады, Менскі совет склікаў нараду ротных, палкавых, камандных і іншых камітэтаў менскага гарнізона, на якой былі пастаўлены 2 пытанні: аб бягучых падзеях і аб ахове правоў салдацкіх камітэтаў. Па бягучаму моманту рабіў даклад т. Мяснікоў. Па дакладу была прынята рэзалюцыя, цэнтрам якой з'яўлялася сцвярджэнне аб правале палітыкі згоды паміж соцыял-здраднікамі, аб усё нарастаючай чорнай рэакцыі, якая рыхтуе новую карнілаўшчыну. Разам з гэтым рэзалюцыя патрабавала:

«Спыненне ўсялякіх рэпрэсій і судовых прыгавораў, накіраваных супроць рэволюцыйна-дэмакратычных арганізацый, з безадкладным аслабаненнем усіх асуджаных; безадкладная адмена кары смерцю на фронце і аднаўленне поўнай свабоды слова,

*) В. И. А. Д.№ 154-850, 130—135.
**) Там-жа.
***) Там-жа, № 292—298.

друку і сходаў як у арміі, так і ў тыле; дэмакратызацыя арміі шляхам ачышчэння яе ад контррэволюцыйнага каманднага складу і пашырэнне правоў вайсковых арганізацый» *).

Рэзалюцыя патрабавала выбарнасці камісара мясцовымі рэволюцыйнымі арганізацыямі, ажыццяўлення на самой справе праза нацый на самавызначэнне і т. д. і т. д. Па пытанню абароны правоў салдацкіх арганізацый была цалкам прынята прапанаваная нарадзе пастанова Менскага совета ад 12 жніўня. Рэзалюцыя, у процівагу загадам Керэнскага і генералітэта фронта, накіраваным фактычна на знішчэнне дзейнасці камітэтаў, патрабавала пашырэння правоў салдацкіх камітэтаў.

Рэволюцыйныя дзеянні Менскага совета адразу знашлі шырокі водгук у арміі. У першую чаргу адгукнуліся тэхнічныя часткі, расположаныя вакол Менска. Камітэты гэтых частак пераходзілі ў рукі большэвікоў. Вельмі паказальна ў гэтых адносінах рэзалюцыя агульнага сходу салдат №-армейскай пачыначнай і артылерыйскай майстэрні, вынесеная 18 верасня. Салдаты патрабавалі: Перадаць уладу Советам Р. і С. Дэп. Адмяніць кару смерцю... Безадкладна прыступіць да перагавораў аб міры, дзеля чаго звярнуцца да народаў усяго свету з адозвай аб заключэнні міру. Арганізаваць паўсямесна чырвоную гвардыю, распусціць Думу і Дзяржаўны совет, выдаць дэкрэт аб пераходзе ўсёй зямлі працоўнаму народу. Утварыць дзяржаўны кантроль над прамысловасцю. Арыштаваць усіх удзельнікаў кадэцка-карнілаўскага мяцежа і расфармаваць саюз афіцэраў арміі і флота і георгіеўскіх кавалераў, а таксама ўсе ўдарныя і смерці карнілаўскія батальёны і ўсе ваенныя часткі, прымаўшыя ўдзел у мяцежы Карнілава. Аслабаніць усіх правадыроў рэволюцыйнай дэмакратыі, арыштаваных за палітычныя погляды пасля 3—5 ліпеня; закрыць усе буржуазныя газеты і канфіскаваць друкарні, паколькі гэтыя газеты «заўсёды падаюць звесткі контррэволюцыйнага характару».

Канчалася рэзалюцыя словамі:

«Усе патрабаванні мы, салдаты №. армейскай артылерыйскай пачыначнай майстэрні, па першаму патрабаванню рэволюцыйнай дэмакратыі будзем падтрымліваць са зброяй у руках».

Зводкі каманднага складу армій гэтага часу гавораць аб тым, што салдацкая маса прымае рэзалюцыі з патрабаваннем «заключэння міру, адмены кары смерцю, адмены арыштаў людзей, якія называюць сябе большэвікамі, спынення барацьбы з прэсай накшталт «Правды», «Молот», пераабрання вайсковых арганізацый, якія не адлюстроўваюць настрою масы» і т. д. Такія патрабаванні і настроі насілі масавы і паўсямесны характар.

Абурэнне палітыкай Часовага ўрада і яго контррэволюцыйнага ахвосця дробна-буржуазных партый набывала характар паўсямеснага масавага пашырэння.

К Окцябру класавая барацьба паміж эксплаататарамі і эксплаатуемымі дасягнула найвышэйшага напружання. Рэзка адасобіліся два крайнія непрымірымыя палітычныя лагеры: з аднаго боку—пануючыя класы памешчыкаў і буржуазіі, на чале з Часовым урадам і вышэйшым камандным складам арміі, з другога боку—рабочы клас у саюзе з шырокімі масамі беднаты горада і вёскі.



*) „Известия Минского Совета Р. і С.Д." № 76.

Меншавіцка-эсэраўскія і нацыяналістычныя абаронцы Часовага ўрада ў Расіі, страціўшы якія-б там ні было рэальныя сілы і прэстыж у масах, канчаткова скаціліся ў абдымкі імперыялістычнай контррэволюцыі.

«Характэрнаю рысай гэтага перыяда,—пісаў т. Сталін,—трэба лічыць хуткае нарастанне крызіса, поўную збянтэжанасць кіруючых колаў, ізаляцыю эсэраў і меншавікоў і масавую перабежку хістаючыхся элементаў на бок большэвікоў» *).

Расія напярэдадні Окцябра знаходзілася на мяжы поўнай эканамічнай катастрофы.

«Расіі пагражае неміучая катастрофа,—пісаў Ленін.—Чыгуначны транспарт расстроен неймаверна і расстройваецца ўсё больш. Чыгункі стануць. Спыніцца падвоз сырых матар'ялаў і вугалю на фабрыкі. Спыніцца падвоз хлеба. Капіталісты наўмысна і няўхільна сабатуюць (псуюць, спыняюць, падрываюць, тармозяць) вытворчасць, спадзяючыся, што нечуваная катастрофа будзе крахам рэспублікі і дэмакратызма Советаў і наогул пролетарскіх і сялянскіх саюзаў, палягчаючы зварот к манархіі і аднаўленне ўсяўладства буржуазіі і памешчыкаў. Катастрофа нечуваных памераў і голад пагражаюць немінуча» **).

Голад і разруха па ўсёй краіне ўзрасталі з надзвычайнай хуткасцю. Расло беспрацоўе. Нават буржуазныя газеты не маглі моўчкі абыходзіць катастрафічнага становішча прамысловасці і надыходзячы голад у Беларусі.

«Гомель перажывае востры харчовы крызіс,—пісала буржуазная газета «Русское слово».—Паводле слоў магілеўскага губернскага камісара, у Гомелі няма ні крошкі хлеба... у чаргі за хлебам становяцца з 11 г. увечары і стаяць да раніцы... Гомельскі харчовы камітэт парашыў, калі не вышлюць зараз-жа хлеба, злажыць з сябе паўнамоцтвы. Усім мясцовым прадстаўнікам урада разасланы тэлеграмы аб галодным становішчы горада і аб магчымасці эксцэсаў» ***).

«Харчовае пытанне ў Віцебскай губерніі надзвычай абвастрылася,—пісала тая-ж газета,—і губернскай харчовай камісіяй прызнаецца катастрафічным» ****).

Страх перад надыходзячай рэволюцыяй прымушае буржуазію ў жаху крычаць аб дапамозе. Старшыня магілеўскай харчовай управы ўзываў да міністра харчавання:

«Усюды выбухаюць эксцэсы на глебе адсутнасці хлеба і з'яўляюцца хваробы ад недаядання; усюды нараканні. Дапамажыце» *****).

Разам з разгортваннем рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята за ўладу ў Расіі нарастаў рэволюцыйны ўздым у краінах Заходняй Еўропы. На грунце голаду і стомленасці вайной у Чэхіі, Латвіі, Італіі, Германіі, Англіі выбухалі рэволюцыйныя стачкі і забастоўкі. У Германіі рэволюцыйны рух перакідваўся ў армію.

*) Сталін. „Аб Окцябрскай рэволюцыі", стар. 63—64.
**) Ленін, т. XXI, стар. 159—160.
***) „Звязда" № 15.
****) „Русское сло о" № 194 за 25 жніўня 1917 г.
*****) „Русское слово" № 217.




Як унутранае, так і міжнароднае становішча з усёй настойлівасцю сцвярджала ленінскі аналіз ходу рэволюцыі, правільнасць стратэгіі і тактыкі большэвікоў у падрыхтоўцы непасрэднай барацьбы пролетарыята за ўладу.

9 (22) кастрычніка Ленін пераязджае з Выбарга ў Лесной пад Петраградам і 10 (23) кастрычніка ўдзельнічае ў гістарычным паседжанні ЦК партыі, на якім была прынята наступная рэзалюцыя аб узброеным паўстанні:

«ЦК прызнае, што як міжнароднае становішча рускай рэволюцыі (паўстанне ва флоце ў Германіі, як крайняе праяўленне нарастання ва ўсёй Еўропе сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі, потым пагроза міру імперыялістаў з мэтай удушэння рэволюцыі ў Расіі), так і ваеннае становішча (бяспрэчнае рашэнне рускай буржуазіі і Керэнскага з К° здаць Піцер немцам), так і набыццё большасці пролетарскай партыяй у Советах,—усё гэта ў сувязі з сялянскім паўстаннем і з паваротам народнага давер'я к нашай партыі (выбары ў Маскве), нарэшце яўнае падрыхтаванне другой карнілаўшчыны (вывад войск з Піцера, падвоз к Піцеру казакаў, акружэнне Менска казакамі і інш.),—усё гэта ставіць на чаргу дня ўзброенае паўстанне.

Прызнаючы такім чынам, што ўзброенае паўстанне немінуча і зусім наспела, ЦК прапануе ўсім арганізацыям партыі кіравацца гэтым і з гэтага пункту погляду абгаварваць і вырашаць усе практычныя пытанні (з'езда Советаў Паўночнай області, вываду войск з Піцера, выступлення масквічоў і мінчан і т. д.)» *).

На гэтым-жа паседжанні для агульна-палітычнага кіраўніцтва падрыхтоўкай узброенага паўстання было абрана палітычнае бюро з 7 чал. на чале з Леніным і Сталіным. Партыя пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна дала жорсткі бой правым апартуністам, капітуляваўшым, здрадзіўшым у рашаючы момант,—Каменеву і Зіноўеву.

Не гледзячы на тое, што ў пастанове ЦК было адлюстравана бяспрэчнае адзінства думкі ўсёй партыі, правыя капітулянты, замест таго, каб падпарадкавацца партыйнай дысцыпліне, звярнуліся з вялікаю заявай к Петраградскаму, Маскоўскаму, Фінляндскаму абласным камітэтам РСДРП большэвікоў, большэвіцкай фракцыі ЦВК Советаў РС і Ч дэпутатаў і большэвіцкай фракцыі з'езда Советаў Паўночнай області. У гэтай заяве, якая з'яўлялася разгорнутай праграмай правых апартуністаў, даваўся, зусім процілеглы ленінскаму, аналіз суадносін класавых сіл. Правыя апартуністы імкнуліся даказаць, што працоўныя масы яшчэ не ішлі з большэвікамі, кваліфікавалі палітыку партыі, накіраваную на падрыхтоўку ўзброенага паўстання, як «пагубную палітыку», якая адштурхоўвае працоўнае сялянства ад пролетарыята, абвінавачвалі ЦК у пераацэнцы сіл рэволюцыі і недаацэнцы сіл контррэволюцыі.

Правыя капітулянты недаацэньвалі сіл пролетарыята, не верылі ў яго рэволюцыйныя здольнасці і сілу, пераацэньвалі сілы імперыялістычнай контррэволюцыі і сваімі дзеяннямі імкнуліся дэзарганізаваць адзіную волю партыі. Нявер'е ў сілы і здольнасці пролетарыята азначала фактычна нявер'е ў перамогу соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі. Якраз у гэтым сваім поглядзе правыя апартуністы выходзі-

*) Ленін, т. XXI, стар. 330.

ліся з «тэорыяй» лідэраў соцыял-дэмакратыі і II Інтэрнацыянала, з «тэорыямі» ўсіх дробна-буржуазных партый Расіі, у тым ліку і нацыяналістычных, як БСГ і Бунд у Беларусі, аб «недаспеласці і несвоечасовасці» соцыялістычнай рэволюцыі, з тэорыяй, якая прамым шляхам вяла да поўнага адмаўлення ад соцыялістычнай рэволюцыі і заваявання дыктатуры пролетарыята.

З поваду антыпартыйнага выступлення Каменева і Зіноўева Ленін напісаў «Ліст к членам партыі большэвікоў», у якім кваліфікаваў выступленне правых апартуністаў як «нечуванае штрэйкбрэхерства» і закончыў словамі:

> «Цяжкі час. Цяжкая задача. Цяжкая здрада.
> І ўсё-ж такі задача будзе вырашана, рабочыя згуртуюцца, сялянскае паўстанне і крайняя нецярплівасць салдат на фронце зробяць сваю справу! Цясней згуртуем рады,—пролетарыят павінен перамагчы!» *).

Капітулянцтва і штрэйкбрэхерства правых вялікі правадыр пролетарыята назаўсёды закляйміў усёй магутнасцю свайго аўтарытэта. Партыя і пролетарыят пашлі за сваім правадыром і перамаглі.

Разам з усёй партыяй ішла да ўзброенага паўстання і партыйная арганізацыя Беларусі.

Абласная і франтовая арганізацыя большэвікоў Беларусі і Заходняга фронта напярэдадні Окцябра правялі агромную работу па палітычна-ідэалагічнай і арганізацыйнай падрыхтоўцы ўзброенага паўстання.

Большэвіцкія газеты Беларусі «Буревестник» и «Известия Минского Совета» змяшчалі артыкулы Леніна, вялі шырокую кампанію прапаганды за пераход улады ў рукі Советаў. На фронце пераабіраліся нізавыя салдацкія камітэты, якія пераходзілі ў рукі большэвікоў. Сходы рабочых і паасобных вайсковых часцей прымалі рэзалюцыі з патрабаваннем перадаць уладу ў рукі Советаў. Інтэнсіўна вялася арганізацыйна-тэхнічная падрыхтоўка да ўзброенага паўстання.

Трэба адзначыць, што па пытаннях падрыхтоўкі ўзброенага паўстання на Беларусі і ў прыватнасці ў Менску трацкіст Югаў імкнуўся даказаць, што большэвікі Беларусі не рыхтаваліся да ўзброенага паўстання. Югаў сваё трацкісцкае палажэнне аб стыхійнасці Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі стараўся «абгрунтаваць» таксама і фразамі, нібы большэвікі **«толькі ідэалагічна»** рыхтавалі ўзброенае паўстанне ў Беларусі.

Трацкісцкі паклёп на партыю па пытаннях узброенага паўстання заключаецца перш за ўсё ў тым, што нібы партыя ніколі не займалася пытаннямі арганізацыйна-тэхнічнай падрыхтоўкі ўзброенага паўстання. Гэта неабходна трацкістам для таго, каб даказаць правільнасць сваёй трацкісцкай «тэорыі» аб стыхійнасці паўстання—«тэорыі», якая цалкам была на руку ўсёй контррэволюцыі. Абараняючы пункт погляду Троцкага, Югаў фальсіфікаваў факты, адмаўляў падрыхтоўку ўзброенага паўстання ў Менску. Уся гэта фальсіфікацыя гістарычнай рэчаіснасці процістаўлялася ленінскай тэорыі пролетарскай рэволюцыі і прама абараняла трацкісцкую «тэорыю» аб тым, нібы партыя не рыхтавала ўзброенага паўстання, нібы ў гэтым не

*) Ленін, т. XXI, стар 352.

было нават і патрэбы, бо пролетарская рэволюцыя, паводле трацкісцкага тэзіса, ёсць «рэволюцыя агромных мас, у большасці сваёй неарганізаваных» *).

Троцкі лічыў, што «план паўстання будуецца не на цэнтралізаваным кіраванні ўзброенымі сіламі рэволюцыі, а на самай шырокай самастойнасці кожнага паасобнага атрада...» (Троцкі).

Гэтым Троцкі спрабуе даказаць, што Окцябрская рэволюцыя ў Расіі адбылася стыхійна, што партыя ёю не кіравала. Адмаўляючы кіруючую ролю партыі ў Окцябрскай рэволюцыі, Троцкі адначасова з гэтым імкнецца выпяціць асабістую ролю ў рэволюцыі. Тым часам «ніякай асобай ролі ў Окцябрскім паўстанні Троцкі не адыгрываў і адыгрываць не мог» **).

Усім вядома, што іменна аперацыйнае кіраўніцтва ЦК нашай партыі ўзброеным паўстаннем на чале з найвялікшым стратэгам пролетарскай рэволюцыі—Леніным і яго бліжэйшым саратнікам Сталіным—забяспечыла поспех паўстання і перамогу дыктатуры пролетарыята.

Узброенае паўстанне ў Петраградзе дало класічны прыклад практычнага ажыццяўлення марксісцка-ленінскага палажэння аб узброеным паўстанні, ініцыятыўнасці, рашучасці пролетарыята пад кіраўніцтвам яго партыі—партыі Леніна—Сталіна.

Паўстанне ў Петраградзе праводзілася ў поўнай адпаведнасці з планам Леніна, даным ім у «Парадах староннягa». Яшчэ і яшчэ раз падкрэсліваючы ў гэтым гістарычным дакуменце, што ўзброенае паўстанне патрабуе адносін да яго як да мастацтва, Ленін пісаў:

1) «Ніколі **не іграць** з паўстаннем, а, пачынаючы яго, ведаць цвёрда, што трэба **ісці да канца**.

2) Неабходна сабраць **вялікую перавагу сіл** у рашаючым месцы, у рашаючы момант, бо інакш непрыяцель, уладаючы лепшай падрыхтоўкай і арганізацыяй, зніштожыць паўстанцаў.

3) Раз паўстанне пачата, трэба дзейнічаць з найвялікшай **рашучасцю** і абавязкова, безумоўна **пераходзіць у наступленне**. «Абарона ёсць смерць узброенага паўстання».

4) Трэба старацца захапіць знянацку непрыяцеля, улазіць момант, пакуль яго войска раскідана.

5) Трэба дабівацца **штодзенна** хоць маленькіх поспехаў, (можна сказаць: штогадзінна, калі справа ідзе аб адным горадзе), падтрымліваючы, ва што-б там ні стала, **«маральную перавагу»**.

У прымяненні к Расіі і к кастрычніку 1917 г. гэта значыць: адначасовае, як мага больш раптоўнае і быстрае наступленне на Піцер, абавязкова і звонку, і знутры, і з рабочых кварталаў, і з Фінляндыі, і з Рэвеля, з Кранштадта, наступленне ўсяго флота, скапленне **гіганцкай перавагі** сіл над 15—20 тысячамі (а можа і больш) нашай «буржуазнай гвардыі» (юнкероў), нашых «вандэйскіх войск» (часць казакаў) і т. д.

Камбінаваць нашы тры галоўныя сілы: флот, рабочых і вайсковыя часці так, каб абавязкова былі заняты і цаною якіх **хочаце страт** былі ўтрыманы: а) тэлефон, б) тэлеграф, в) чыгуначныя станцыі, г) масты ў першую галаву.

Вылучыць **самыя рашучыя** элементы (нашых «ударнікаў» і **рабочую моладзь**, а роўна лепшых матросаў) у невялікія атрады

*) Троцкий, „Вопросы гражданской войны", стр. 17.
**) Сталін. „Аб Окцябрскай рэволюцыі", стар. 52.

для заняцця імі ўсіх важнейшых пунктаў і **для ўдзелу** іх усюды, ва ўсіх важных аперацыях, напр.:

Акружыць і адрэзаць Піцер, узяць яго камбінаванаю атакай флота, рабочых і войска,—такава задача, якая патрабуе **ма-стацтва і патройнай смеласці.**

Саставіць атрады найлепшых рабочых з ружжамі і бомбамі для наступлення і акружэння «цэнтраў» ворага (юнкерскія шко-лы, тэлеграф і тэлефон і іншае) з лозунгам: **загінуць усім, але не прапусціць непрыяцеля»** *).

Канчаўся гэты дакумент выражэннем надзеі, што кіраўнікі паў-стання выканаюць заветы Маркса, Энгельса і на практыцы прыменяць іх заветы.

У справе падрыхтоўкі ўзброенага паўстання разам з усёй партыяй, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК большэвікоў, ішла і большэвіцкая арганізацыя Беларусі.

Трэба адзначыць, што гэта адказнейшая барацьба адбывалася ў вельмі складаных умовах. Контррэволюцыйныя прадстаўнікі Часовага ўрада, контррэволюцыйнае камандванне арміяй на Заходнім фронце і чорнасоценна-манархічная стаўка ў Магілеве распалагалі даволі значнымі ваеннымі сіламі. Магілеў быў цэнтрам канцэнтрацыі агульна-расійскай ваеннай контррэволюцыі.

10 (23) кастрычніка на паседжанні ЦК РСДРП(б), на якім была прынята пастанова аб узброеным паўстанні, т. Свердлоў, характары-зуючы становішча ў Менску, дакладваў:

«З Менска паведамляюць, што там рыхтуецца новая карні-лаўшчына. Менск з прычыны характару гарнізона абкружан казацкімі часцямі. Ідуць нейкія перагаворы паміж штабам і стаў-кай падазронага характару. Вядзецца агітацыя сярод осецін і паасобных часцей войск супроць большэвікоў. На фронце на-строй за большэвікоў, пойдуць за нас супроць Керэнскага. Ніякіх дакументаў няма. Яны могуць быць атрыманы, калі захапіць штаб, што ў Менску зусім магчыма тэхнічна, і пры гэтым мясцовы гарнізон зможа абяззброіць усё кальцо войск. Уся артылерыя загнана ў Пінскія балоты. Могуць паслаць з Менска корпус у Петраград» **).

Такія суадносіны сіл рэволюцыі і контррэволюцыі ў Менску добра ўлічваліся не толькі большэвікамі, улічвала гэта і штабная контррэво-люцыя. Іменна ў мэтах заваявання больш устойлівых пазіцый і сва-боднага дзеяння контррэволюцыя спешна сканцэнтравала ваенныя сілы ў Менску і навокал яго. Праз Менск быў прамы шлях на Петра-град і Маскву.

Асаблівая нервознасць і паспешнасць скалочвання контррэволю-цыйных узброеных сіл пры стаўцы і ў Менску пачалася пасля таго, як петраградскі гарнізон перайшоў у фактычнае распараджэнне ВРК.

Петраградскі ВРК быў створан 13(26) кастрычніка. 21 кастрычніка (3 лістапада) сходам палкавых камітэтаў петраградскага гарнізона ВРК быў прызнан кіруючым органам ваенных часцей Петраграда. 22 кастрычніка (4 лістапада) петраградскі гарнізон пастанавіў не пад-начальвацца загадам штаба, калі загад не падпісан ВРК. Контррэво-люцыя не магла не бачыць у гэтым смяротнай небяспекі для сябе.

*) Ленін, т. XXI, стр. 320.
**) Ленін, т. XXI, стр. 493.

Усе сілы Часовага ўрада былі накіраваны на падрыхтоўку да апошняй сутычкі.

Рэволюцыйны Менск з большэвіцкім Советам на чале быў не толькі штабам узброенага паўстання на Беларусі, але і значнай перашкодай для свабоднай дзейнасці контррэволюцыі супроць Петраграда і Масквы.

Каб разграміць рэволюцыйныя сілы Беларусі і расчысціць шлях для паходу на Петраград, дзе вырашаўся лёс рэволюцыі, контррэволюцыі перш за ўсё неабходна было разграміць Менскі совет. Але Стаўка і генералітэт Заходняга фронта не раз пераконваліся на практыцы, што рэволюцыйная маса салдат Заходняга фронта і пролетарыят Беларусі гатовы былі са зброяй у руках абараняць Менскі совет.

Улічваючы гэта яшчэ задоўга да Окцябрскага ўзброенага паўстання, контррэволюцыя пачала спакваля наступаць на Менскі совет. Менск акружаўся казацкімі атрадамі, польскімі легіёнамі, ударнымі батальёнамі і т. д.

Штабная контррэволюцыя перш за ўсё імкнулася пакінуць Менскі совет без узброенай сілы, вывеўшы на фронт запасныя палкі і дэзарганізаваўшы менскі гарнізон. З гэтаю мэтай 2 (15) кастрычніка штаб аддае распараджэнне аб вывадзе запасных часцей менскага гарнізона на фронт. У адказ на гэта распараджэнне камітэты менскага гарнізона на аб'яднаным сходзе 4 (17) кастрычніка прымаюць пастанову аб непадпарадкаванні распараджэнню штаба і патрабуюць распусціць «батальёны смерці», «жаночыя» і «георгіеўскія батальёны», перадаць усю ўладу ў рукі советаў. Канчалася пастанова заявай, што ўсе гэтыя патрабаванні па першаму закліку Менскага совета будуць падтрыманы са зброяй у руках *).

Бяссільная зламаць рэволюцыйную сілу большэвізаванага менскага гарнізона, штабная контррэволюцыя праз ваеннага камісара Заходняга фронта меншавіка Жданава звярнулася за дапамогай у меншавіцка-эсэраўскі франтовы камітэт.

Камітэт з гатоўнасцю адгукнуўся. 14 (27) кастрычніка ў парадку дня паседжання франтовага камітэта было пастаўлена пытанне «Аб садзейнасці камітэта прадстаўнікам улады ў пераводзе зараз-жа запасных палкоў з горада Менска на фронт».

Большэвіцкая фракцыя франтовага камітэта на гэтым паседжанні дала аб'яднанай контррэволюцыі жорсткі бой і адкрыта патрабавала адказаць на пытанне—«чым тлумачыцца замена запасных часцей «ударнымі батальёнамі» і «польскімі легіёнамі» **). Меншавіцка-эсэраўскі франтовы камітэт, ідучы цалкам на повадзе штабной контррэволюцыі, прыняў пастанову аб неадкладным вывадзе запасных палкоў з Менска на фронт. ***). Камітэты запасных палкоў адмовіліся падначаліцца і пастанове франтовага камітэта. Штаб звярнуўся за дапамогай да Керэнскага.

17 (30) кастрычніка было атрымана распараджэнне Керэнскага аб расфармаванні запасных палкоў менскага гарнізона. Адначасова з гэтымі мерапрыемствамі ў Менску пачалася чорнасоценна-манархічная правакацыя, каб выклікаць несвоечасовыя ўзброеныя сутычкі паміж рэволюцыйнымі часцямі менскага гарнізона і прыбываючымі з фронта казачымі часцямі. Шырока распаўсюджваліся чуткі аб тым, нібы на

*) „Буревестник“ № 11, ал 20 кастр. 1917 г.
**) „Буревестник“ № 11.
***) Там-жа.

20 кастрычніка рыхтуюцца яўрэйскія пагромы і ўзброенае выступленне большэвікоў.

Меншавіцка-эсэраўскі блок з франтовым камітэтам на чале, стаўшы на бок імперыялістычнай контррэволюцыі і чорнай сотні, робіць захады ўзаконіць гэту правакацыю. У гэтых мэтах 18 (31) кастрычніка камітэт заслухоўвае даклад меншавіка Горына аб распаўсюджаных у горадзе чутках наконт яўрэйскіх пагромаў, наконт узброеных выступленняў большэвікоў і мерах іх папярэджання.

У сваім дакладзе Горын прапанаваў прыняць рад «ахоўных» мерапрыемстваў. У рэчаіснасці, як было ўжо адзначана вышэй, меншавіцка-эсэраўская контррэволюцыя ішла на прамую дапамогу штабу— расправіцца з узброенай сілай Менскага совета. Ваенны камісар Заходняга фронта, як гаворыцца, паставіў кропку над «і», патрабуючы ад франтовага камітэта дапамагчы Часоваму ўраду ў разгроме большэвікоў. Аднак, контррэволюцыя крыху спазнілася са сваёй чорнасоценна-манархічнай правакацыяй.

Якраз у гэты дзень 18 (31) кастрычніка «Буревестник» і «Известия Минского Совета» змясцілі артыкулы, у якіх выкрывалася контррэволюцыйная правакацыя.

У артыкулах пісалася, што контррэволюцыя вядзе антысеміцкую агітацыю, звязвае яе з тым, што нібы чакаецца выступленне большэвікоў 20 кастрычніка. Сутнасць такой правакацыі накіравана на тое, каб легалізаваць контррэволюцыйнае выступленне супроць большэвікоў і выклікаць для гэтага верныя сабе вайсковыя часці.

Далей прама заяўлялася:

> «Гэтыя чуткі распаўсюджваюцца тымі, хто жадае выклікаць такія выступленні, хто жадае грамадзянскай вайны. Цёмныя сілы арганізуюцца і мабілізуюцца. Яны хочуць ва што-б там ні стала выклікаць выступленні і карыстаюцца для гэтага не толькі плёткамі, але пачынаюць ужо і дзейнічаць» *).

Большэвікі заклікалі профсаюзы, воінскія часці, палкавыя і ротныя камітэты «не верыць правакацыйным чуткам, не паддавацца ім, не прымаць ніякіх рашэнняў паміма Совета, спраўляцца аб усім у Совеце». Артыкул канчаўся пагражаючай заявай:

> «Мы маем у сваім распараджэнні даволі сілы, каб у корані **падавіць** усе крокі контррэволюцыйных імкненняў» **).

Арганізаваная штабам і меншавіцка-эсэраўскім франтовым камітэтам контррэволюцыйная правакацыя не ўдалася. Менскі большэвіцкі Совет у гэтыя рашаючыя дні быў ператвораны ў палітычна-арганізацыйны штаб узброенага паўстання. Вялася інтэнсіўная падпольная работа па арганізацыі ўзброенай сілы з арыштаваных пасля ліпеньскіх падзей салдат і афіцэраў.

Доўгай і крапатлівай работай удалося большэвізаваць не толькі арыштаваных салдат, але і пастаўленыя для іх аховы часці.

Увага, якую большэвікі Менска і Менскі совет удзялялі рэволюцыйным салдатам і афіцэрам, пасаджаным Часовым урадам у турмы, дала магчымасць падрыхтаваць выключна дысцыплінаваны і рэволюцыйны полк, які ў спалучэнні з рабочымі чырвонагвардзейскімі дру-

* „Известия Миского Совеа" № 75 1917 г.

**) „Известия Минского Совета" № 75, 18 октября 1917 г.

жынамі і менскім гарнізонам, з'явіўся асноўнай узброенай сілай Менскага совета пры захопе ўлады.

У Петраградзе хутка наспяваў крызіс, набліжаўся час узброечага паўстання. Часовы ўрад 23 кастрычніка парашыў перайсці ў адкрытае наступленне супроць рэволюцыі. Была прынята пастанова аб тым, каб аддаць пад суд членаў Петраградскага ВРК, арыштаваць большэвікоў і закрыць большэвіцкія газеты. Раніцай 24 кастрычніка (6 лістапада) штаб Петраградскай акругі аддаў загад аб разводзе мастоў праз Неву. Былі выключаны тэлефоны Смольнага. У Петраград выклікалі батальён «ударнікаў» з Царскага сяла, юнкероў з Оранієнбаума, артылерыю з Паўлаўска і інш. ваенныя часці, верныя Часоваму ўраду.

У гэты самы дзень Ленін пісаў членам ЦК:

> «З усіх сіл пераконваю таварышоў, што цяпер усё вісіць на валаску, што на чарзе стаяць пытанні, якія не нарадамі вырашаюцца, не з'ездамі (хоць-бы нават з'ездамі Советаў), а выключна народамі, масай, барацьбою ўзброеных мас» *).

24 кастрычніка адбылося паседжанне Петраградскага Камітэта партыі большэвікоў, на якім была вынесена пастанова аб неадкладным звяржэнні Часовага ўрада і перадачы ўлады ў рукі Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У ноч з 24 на 25 кастрычніка (з 6 на 7 лістапада) улада перашла ў рукі Петраградскага ВРК. Позна ўвечары 25 кастрычніка (7 лістапада), у момант канчатковай перамогі ўзброенага паўстання, адчыніўся II Усерасійскі з'езд Советаў. З прычыны перамогі пролетарскай рэволюцыі, з'езд прыняў адозву да ўсіх рабочых, салдат і сялян, а следам за гэтым дэкрэты аб зямлі, аб міры і ўладзе.

Пад грукат кананады пры штурме Зімняга дварца ішоў захоп улады на месцах. 25 кастрычніка (7 лістапада) менская большэвіцкая газета вышла з лозунгам «Уся ўлада Советам».

«Известия Минского Совета» надрукавалі прывітанне II Усерасійскаму з'езду Советаў. Апаўдні было атрымана радыё ад Петраградскага ВРК аб пераходзе ўсёй улады к Советам.

А 2 гадзіне дня з дапамогай менскага гарнізона былі вызвалены з менскіх турам арыштаваныя большэвікі, салдаты і афіцэры. Захапіўшы склад з аружжам, яны ўзброіліся і аб'явілі сябе «першым рэволюцыйным палком імя Менскага совета».

Прэзідыум Менскага совета ў гэты-ж дзень выдаў загад № 1 да насельніцтва горада Менска і аколіц:

> «Улада ў Петраградзе перашла ў рукі Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Увесь петраградскі гарнізон, балтыйскі флот і іншыя вайсковыя часці прызналі новую ўладу. Адусюль ідуць данясенні, што армія і ваенныя часці на ўсіх фронтах прызнаюць новую ўладу, захоўваючы поўны спакой.
>
> У Менску ўлада перашла ў рукі Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які звярнуўся да ўсіх рэволюцыйных арганізацый з прапановай неадкладна прыступіць да арганізацыі часовай рэволюцыйнай улады на месцах.
>
> «Абвяшчаючы аб тым, што адбылося, Менскі совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў даводзіць да ведама ўсіх грамадзян, што

*) Ленін, т. XXI, стр. 362.

ім прыняты самыя рашучыя меры да аховы рэволюцыйнага парадку і ўстанаўлення ўсюды жалезнай дысцыпліны. Устаноўлена рэволюцыйная цэнзура над усімі газетамі, што выходзяць у Менску і атрымліваюцца тут, каб папярэдзіць пашырэнне хвалюючых насельніцтва чутак» *).

Таго-ж дня пад вечар Менскім советам былі зняты ўсе пасты і заменены паставымі з першага рэволюцыйнага палка імя Менскага Совета, а таксама разасланы камісары—у штаб Заходняга фронта, на пошту, тэлеграф, чыгунку. 26 кастрычніка (8 лістапада) пленум Менскага совета зацвердзіў пастанову Выканкома аб пераходзе ўсёй паўнаты ўлады к Менскаму совету і стварыў Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт для кіраўніцтва пры пераходзе ўлады к Советам на месцах. У склад ВРК увашлі: тт. Мяснікоў—старшыня ВРК, Кнорын, Калмановіч, Ландэр, Фрэйман і інш.

27 кастрычніка (9 лістапада) Бюро Абласнога Камітэта Советаў ухваліла захват улады Менскім советам і пастанавіла ўвесці ў склад ВРК двух прадстаўнікоў ад бюро і па аднаму прадстаўніку ад кожнага совета Беларусі і Заходняга фронта.

Аднак Менскі совет дапусціў вялікую памылку. Справа ў тым, што штаб Заходняга фронта не быў арыштован, не былі прыняты адпаведныя крокі і для ізаляцыі ад фронта меншавіцка-эсэраўскага франтовага камітэта.

Правакацыйнае прызнанне галоўнакамандуючым Заходнім фронтам генералам Балуевым і камісарам Часовага ўрада Ждановым прызначаных Менскім советам камісараў усыпіла палітычную пільнасць Менскага совета. За двурушніцкім прызнаннем Менскі совет не разгледзеў часовай збянтэжанасці і дэзарганізацыі ў радах контррэволюцыі, не разгледзеў таго, што іменна ў сілу дэзарганізацыі і непадрыхтаванасці прызнанне камісараў Менскага совета па сутнасці было правакацыйным.

У рэчаіснасці ўся штабная і эсэраўска-меншавіцкая контррэволюцыя спешна рыхтавалася да контрнаступлення.

26 кастрычніка (8 лістапада) галоўнакамандуючы Заходнім фронтам, імкнучыся ўзяць ініцыятыву ў свае рукі і прыкрыць падрыхтоўку контратакі па ўсяму фронту, разаслаў тэлеграму:

> «Паводле атрыманых звестак, у Петраградзе Часовы ўрад арыштован. Улада перашла к рэволюцыйнаму камітэту, што мною абвешчана ўсім вайсковым камітэтам. Стоячы на стражы сваёй бацькаўшчыны, заклікаю войска і жыхароў у межах фронта захаваць парадак, у поўным спакоі чакаць далейшых падзей, памятаючы, што кожнае выступленне і непарадак пры сучасным грозным становішчы вядуць к пагібелі. Галоўнакамандуючы Заходняга фронта Балуеў» **).

Гэтая контррэволюцыйная па сутнасці тэлеграма мела прамой сваёй мэтай паведаміць усёй франтовай контррэволюцыі аб смяротнай для яе небяспецы і выклікаць інтэнсіўную падрыхтоўку для контрнаступлення. З другога боку, тэлеграма была накіравана на дэзарганізацыю і ўсыпленне палітычнай пільнасці рэволюцыйных сіл фронта.

*) „Буревестник“ № 1.
**) Менскі гіст. архіў, спр. 431.

Зусім адкрыта ў саюзе з контррэволюцыяй дзейнічалі меншавікі і эсэры. Меншавік Жданаў—ваенны камісар Заходняга фронта—у тойжа дзень разаслаў па ўсіх карпусных і дывізійных камітэтах тэлеграму ад імя армейскага камітэта Х арміі:

> «Ваенна-рэволюцыйны камітэт, арганізаваны большэвікамі, армейскія камітэты ЦВК СР і СД. Усерасійскі Сялянскі Совет, ЦК партыі эсэраў і с.-д. меншавікоў не прызнаваць. Армкамітэт Х звяртаецца да вайсковых арганізацый арміі з заклікам загады Ваенна-рэволюцыйнага камітэта не выконваць. Камісар Захфронта Жданаў» *).

Менскія соцыялісты-рэволюцыянеры ў гэты-ж час распаўсюджвалі тэлеграму бюро Ваеннага Камітэта ЦК партыі с.-р. наступнага зместу:

> «Прапануем... усім грамадскім і ваенным арганізацыям партыі с.-р. аказаць паўнейшую садзейнасць вайсковым арганізацыям, камісарам і каманднаму складу ў справе канчатковай ваеннай ліквідацыі шалёнай зацеі большэвікоў» **).

У гэты контррэволюцыйны хор уключыла свой голас і нацыяналістычная беларуская контррэволюцыя.

27 кастрычніка (9 лістапада) у друкаваным органе БСГ—«Вольная Беларусь» ад імя «Вялікай Беларускай Рады», «Ваеннай Рады», «Беларускага Ваеннага камітэта Заходняга фронта» і «Беларускай народнай партыі» была змешчана адозва да беларускага насельніцтва. Адозва заклікала «братоў беларусаў» выступіць супроць большэвікоў, не дапусціць, каб «віхор бязладдзя згубіў нашу святую нацыянальную справу» ***). Гэтым выступленнем беларуская контррэволюцыя яшчэ раз і ўжо непрыкрыта паказала, на чыім баку і за чые інтарэсы яна гатова змагацца са зброяй у руках.

Арганізацыйным цэнтрам дробна-буржуазнай контррэволюцыі з'явіўся франтовы камітэт. Апарат і друкарня камітэта былі цалкам пастаўлены на службу штабной і дробна-буржуазнай контррэволюцыі.

Адначасова з гэтым к Менску падцягвалася 2 казацкая дывізія, «дзікая» дывізія і іншыя вайсковыя часці, верныя Часоваму ўраду, 27 кастрычніка (9 лістапада) ваенныя сілы контррэволюцыі былі ўведзены ў горад. Па распараджэнню штаба Заходняга фронта былі зняты караулы ВРК і заменены казацкімі патрулямі. На цяперашнім Пляцы Волі, была выстраена артылерыя і кулямётная каманда. Па ўсяму гораду раз'язджалі казацкія ўзброеныя атрады і кавалерысты.

Часова перавага сіл аказалася на баку контррэволюцыі. Дробнабуржуазная контррэволюцыя, меншавікі, эсэры, Бунд, БСГ і інш. паднялі галаву. 27 кастрычніка (9 лістапада) па ініцыятыве франтовага камітэта быў створан «Камітэт выратавання бацькаўшчыны і рэволюцыі». «Камітэт выратавання» ўльтыматыўна патрабаваў ад ВРК і Менскага совета здаць уладу. Упаўнаважаны прадстаўнік «камітэта» меншавік Штэрн прапанаваў ВРК заключыць згоду паміж «Камітэтам выратавання» і Менскім советам, молячы не «даводзіць да праліцця крыві». К 3 гадзіне дня ВРК парашыў увайсці ў часовую згоду, паставіўшы сабе мэтай за час перагавораў падцягнуць з фронта дадат-

*) Менскі гіст. арх., спр. № 432.

**) Менскі гіст. арх., справ. за 1917 г. „Игуменского уездного комиссара с марта по ноябрь“ стар. 441—442.

***) „Вольная Беларусь“ № 28.

ковыя ўзброеныя сілы і падняць на абарону Менскага совета дадатковыя рабочыя масы горада. Для перагавораў з «Камітэтам выратавання» былі вылучаны ад Менскага совета два прадстаўнікі: тт. Алібекаў і Перно. Ім было даручана зацягваць перагаворы. 27 кастрычніка была заключана згода паміж Менскім советам і «Камітэтам выратавання».

Асноўным, прынцыпова важным пунктам гэтай згоды з'яўляўся пункт аб непасылцы контррэволюцыйных узброеных сіл на Петраград і Маскву. Большэвікі Беларусі разумелі, што лёс перамогі дыктатуры пролетарыята вырашаўся іменна ў гэтых палітычна-прамысловых цэнтрах. Таго-ж дня «Камітэт выратавання» выдаў загад № 1, у якім апавяшчалася аб пераходзе ўсёй улады ў Менску і на Заходнім фронце ў рукі «Камітэта выратавання». Гэты-ж загад скасоўваў загады № 1 Петраградскага ВРК і Менскага совета *). Аднак меншавіцка-эсэраўская і бундаўская контррэволюцыя зарана назвала сябе ўладай. Менскі совет і ВРК, не гледзячы на згоду, нідзе ні афіцыяльна, ні фактычна не прызнаў уладу «Камітэта выратавання». У Менску фактычна ўстанавілася своеасаблівае двоеўладства.

28 кастрычніка (10 лістапада) Выканком Менскага совета, зацвердзіўшы згоду паміж Менскім советам і «Камітэтам выратавання», зняў з пасады камісара Часовага ўрада меншавіка Жданава, аб чым пастанавіў толькі паведаміць «Камітэт выратавання». Гэтым самым Совет паказаў масам, што ён не перастае лічыць сябе ўладай. Такое фактычнае двоеўладства дазволіла большэвікам адкрыта заяўляць, што Менскі совет не адмаўляецца ад сваіх прынцыпаў і што ён будзе змагацца да канца за канчатковую перамогу пролетарскай рэволюцыі. Большэвіцкія газеты Беларусі і Заходняга фронта «Буревестник» і «Известия Минского Совета» друкавалі прывітанні ад рабочых Петраградскаму ВРК, Менскаму совету і паўстаўшаму пролетарыяту, звесткі аб рабоце II з'езда Советаў і яго дэкрэты, заклікалі беларускі пролетарыят і сялянства змагацца да канца за мір, хлеб, соцыяльную і нацыянальную свабоду. 27 кастрычніка (10 лістапада) на паседжанні Менскай думы выступіў Берсон і заявіў: «Не можа быць і гутаркі аб тым, каб менскія большэвікі былі нязгодны з петраградскімі таварышамі. Іх лозунг—«уся ўлада Советам». Далей, гаворачы аб згодзе паміж «Камітэтам выратавання» і Менскім советам, Берсон заявіў, што, «ідучы ў камітэт, большэвікі не адмовіліся ні ад аднаго са сваіх лозунгаў **).

У профсаюзах адбываліся жорсткія сутычкі паміж рабочымі, якія патрабавалі абароны Менскага совета, і бундаўска-меншавіцкімі абаронцамі «Камітэта выратавання». Пад напорам рабочых мас ЦБ профсаюзаў вымушана было прыняць пастанову, якая абяцала «ў выпадку, калі войскі будуць пасланы для расправы з большэвікамі ў Петраград або Маскву, адклікаць свайго прадстаўніка з «Камітэта выратавання» ***).

30 кастрычніка на сходзе ўсіх праўленняў менскіх профсаюзаў і фабкомаў выступіў перад рабочымі масамі старшыня Менскага совета т. Ландэр з ацэнкай палітычнага моманту:

«Сучасныя падзеі не з'яўляюцца змовай большэвікоў, а паўстаннем народу. Часовы ўрад, які цалкам знаходзіўся ў ру-

*) Газета „Фронт" № 95

**) Цэнтрархіў БССР, справа № 3 за 1917 г.

***) Арх. Інст. гіст. партыі, ф. 20, справа № 29.

ках буржуазіі, не здолеў задаволіць патрабаванняў народу. Ён не здолеў даць ні міру, ні хлеба, ні зямлі. Змучаны народ падняўся, каб вырваць уладу з рук буржуазіі і перадаць яе ў рукі Советаў» *).

На гэтым-жа сходзе была прынята рэзалюцыя, заклікаўшая ўвесь пролетарыят гор. Менска «да аб'яднання і стварэння адзінага рэволюцыйнага фронта для абароны Советаў ад контррэволюцыйнага наступлення» **).

Адначасова з гэтай работай, якая цалкам пацвярджае правільнасць прынцыповай пазіцыі большэвікоў Беларусі, інтэнсіўна праводзілася работа і на фронце.

Зараз-жа пасля заключэння згоды паміж Менскім советам і «Камітэтам выратавання» Менскі совет спешна накіраваў на фронт групы таварышоў на чале са Шчукіным і Палукаравым з сакрэтнейшым даручэннем партыі падрыхтаваць прысылку ў Менск рэволюцыйных баявых дружын. Разам з гэтым, не гледзячы на патрабаванні «Камітэта выратавання» разброіць рабочых і «Першы Рэволюцыйны імя Менскага Совета Полк», Совет, замест разбраення, 28 кастрычніка яшчэ дадаткова захапіў зброю са складу штаба.

Набліжаўся час канчатковай перамогі пролетарыята Беларусі.

Дарэмны былі надзеі контррэволюцыі на вайсковыя часці, уведзеныя 27 кастрычніка ў Менск. Салдаты і казакі пад уплывам большэвіцкай агітацыі ўсё часцей і часцей заходзілі ў Менскі совет даведацца аб сапраўдным становішчы ў Петраградзе. Не дапамаглі і правакацыйныя тэлеграмы накшталт таго, што «падзеі ў Петраградзе развіваюцца спрыяюча. Керэнскі з войскамі набліжаецца да Петраграда. Урад прымае неабходныя меры да аднаўлення ўсяго ўрадавага апарата пры поўным падтрыманні служачых» і т. д. ***).

Падзеі разгортваліся на карысць соцыялістычнай рэволюцыі. Арганізоўваліся баявыя дружыны на прадпрыемствах. Аб'яднаная дробна-буржуазная контррэволюцыя пачула небяспеку. 31 кастрычніка ў газ. «Социалист революционер» з'явіўся артыкул пад назвай— «Маски долой», у якім уся менская дробна-буржуазная контррэволюцыя імкнецца паставіць Менскаму совету і большэвікам ультыматум аб прызнанні ўлады «Камітэта выратавання». Ультыматум гэты матывіруецца наступным:

> «Чаму Менскі совет, кіруемы большэвікамі, да сучаснага моманту адкрыта не аб'явіў аб прызнанні ім улады камітэта Выратавання Рэволюцыі Заходняга фронта? Чаму да сучаснага моманту не звернута захопленае большэвікамі аружжа і кулямёты? Чаму ў Выканаўчым Камітэце Менскага Совета Р. і С. Д. пануе дух канспірацыі і змовы, усяляючы ў душу трывогу» ****)
>
> Ультыматум ставіўся ў фармулёўцы:
>
> «Паны большэвікі з Менскага совета, заявіце адкрыта—ці падпарадкуецеся вы Камітэту Выратавання Рэволюцыі, ці за яго спіною рыхтуеце новае паўстанне... Адкрыта заявіце, з кім вы—

---

*) Менскі гістарычны архіў, справа № 124, 1917 г.

**) Менскі гіст. архіў, справа 1917 г. „Игуменского Уездного Комиссара с марта по ноябрь" стр. 453

***) Арх. Інст. гіст. партыі пры ЦК КП(б)Б, фонд 20, справа 30, стар. 271, 272, 273.

****) „Социалист революционер" № 7, ад 31 кастрычніка.

з Камітэтам Выратавання Рэвалюцыі ці з петраградскімі большэвікамі»... *).

Большэвікі на ультыматум адказалі.

1 (14) лістапада «Звязда»—орган большэвіцкага Абласцкома—вышла з лозунгамі:—«Няхай жыве рэволюцыя рабочых, салдат і сялян»; «Мы ідзем к міру, зямлі і хлебу».

У гэтым-жа нумары быў змешчан артыкул т. Мяснікова—афіцыяльны адказ на прад'яўлены ультыматум. Большэвікі Менска, як і раней, адкрыта заявілі:

«Мы за паўстанне. Разам з намі і Советы, і Менскі Совет. Разам з намі і ўся армія і ўсе салдаты... Рэволюцыйны фронт возьме вашу контррэволюцыйную пазіцыю, якую вы стварылі ў Менску» **).

1 (14) лістапада каля 12 гадзіны ўночы к Менску падышоў прысланы арміяй Заходняга фронта на падмогу Менскаму совету бліндыраваны поезд. 2 (15) лістапада збянтэжаны «Камітэт выратавання» патрабаваў ад Менскага совета надрукаваць у «Известиях Минского Совета» загад «аб непадпарадкванні» Петраградскаму ВРК. У адказ на гэта Менскі совет афіцыяльна адклікаў сваіх прадстаўнікоў з «Камітэта выратавання» і арганізаваў урачыстае паседжанне Менскага совета. На гэтым паседжанні было абвешчана аб канчатковым пераходзе ўлады к Менскаму совету. Меншавікі, эсэры і бундаўцы заявілі аб выхадзе з Совета. Большасць ваенных часцей, распаложаных у Менску, прызнала ўладу Менскага совета. На фронце адбываліся з'езды II, III і X армій, якія стварылі ВРК. 8 (21) лістапада Менскі ВРК разаслаў у важнейшыя пункты Беларусі і Заходняга фронта—Полацк, Віцебск, Смаленск, Оршу, Вязьму, Калугу, Бранск, Бахмач, Гомель, Жлобін—сваіх камісараў, якім даручалася арганізацыя совецкай улады і ахова чыгуначных вузлоў ***).

У гэтыя-ж дні па ўсіх важнейшых гарадах Беларусі адбывалася барацьба з аб'яднанай контррэволюцыяй за пераход улады ў рукі Советаў.

Гомельскі Совет, не гледзячы на тое, што ў кастрычніку большэвіцкай большасці не меў, пад напорам Палескага Камітэта большэвікоў, на чале якога стаяў Л. М. Кагановіч, вымушан быў ужо 26 кастрычніка (8 лістапада) стварыць «Камітэт Рэволюцыйнай Аховы», асноўнаю мэтай якога было не дапусціць вайсковых эшалонаў з фронта на Петраград і Маскву. 28 кастрычніка (10 лістапада) Совет прыняў большэвіцкую рэзалюцыю аб перадачы ўсёй улады Советам. 30 кастрычніка (12 лістапада) Палескі Камітэт даручыў ВРК ажыццявіць пераход улады да Советаў.

30/X (12 лістапада) т. Кагановіч з усёй палкасцю пролетарскага рэволюцыянера выступіў у Совеце з прамовай, у якой выкрываў пазіцыю меншавіцка-эсэраўскіх здраднікаў, заявіўшы, што Советы—рэволюцыйныя штабы, аплоты рэволюцыі. Меншавікі і эсэры—ярыя ворагі Советаў. Меншавікі і эсэры адкрыта пашлі насустрач контррэволюцыі, насустрач войскам Керэнскага.

*) „Социалист революционер" № 7, ад 31 кастрычніка.

**) „Звезда" № 18.

***) „Звезда" № 25, ад 9 лістапада 1917 г.

Ніякага аб'яднання са здраднікамі справы пролетарскай рэволюцыі—такою была лінія большэвікоў. Гэта цвёрдая лінія, якая праводзілася адным з выдатнейшых кіраўнікоў пролетарскай рэволюцыі на Беларусі—т. Кагановічам—забяспечыла большэвікам Гомельшчыны актыўнае падтрыманне самых шырокіх мас прцоўных. На гэтым-жа паседжанні была прынята пастанова аб пераабранні Гомельскага совета.

У Віцебску 26 кастрычніка (8 лістапада) па пастанове Губкома РСДРП большэвікоў быў створан, у процівагу меншавіцка-эсэраўскаму і бундаўскаму совету, ВРК. 28 кастрычніка (10 лістапада) ВРК паслаў сваіх камісараў на пошту, тэлеграф і чыгунку. Здрадніцкі Совет і арганізаванае ім Ваеннае бюро было аб'яўлена распушчаным. 29 кастрычніка (11 лістапада) была закрыта газета «Известия Витебского Совета» і пачаліся выбары ў новы Совет.

Трыумфам перамогі пролетарыята ў Беларусі і на Заходнім фронце былі з'езды: II абласны з'езд Советаў, III з'езд сялянскіх дэпутатаў і II з'езд дэлегатаў фронта, якія адбыліся адзін за адным у лістападзе. Кожны з гэтых з'ездаў абраў выканаўчы камітэт, у якіх пераважная большасць месц належала большэвікам.

На другім абласным з'ездзе Советаў былі прадстаўлены ўжо ўсе буйнейшыя гарады і пункты Беларусі, дзе ўлада поўнасцю перайшла да советаў, або створаных ВРК. На з'ездзе былі прадстаўлены: Менск, Гомель, Бабруйск, Барысаў, Рагачоў, Орша, Рэчыца, Мазыр, Лунінец, Вілейка, Ветка, Несвіж, Сіняўка, Осіповічы, Жлобін, Слуцк, Докшыца, Ганцэвічы, Замір'е, Дарагабуж і інш.

26 лістапада (9 снежня) выканаўчыя камітэты зліліся ў Абласны Выканаўчы Камітэт Советаў рабочых, салдацкіх, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў і стварылі СНК Заходняй області. Гэты ўрад Беларусі разгарнуў інтэнсіўную работу па праводзенню ў жыццё дэкрэтаў II з'езда советаў.

Праз 100 дзён совецкай улады ў Беларусі пачалося наступленне немцаў. Нямецкая акупацыя прымусіла партыйную арганізацыю Беларусі пайсці ў падполле, каб зноў весці барацьбу за ўладу советаў. У выключна цяжкіх умовах падполля тераічная барацьба пролетарскіх рэволюцыянераў дала новую перамогу, і ў снежні 1918 года над Беларуссю ўзняўся сцяг Советаў.

Аднак цяжкі і гераічны шлях большэвікоў Беларусі за ўладу советаў і на гэты раз яшчэ не скончыўся. Вайна з белапалякамі, падрыхтаваная імперыялісцкай Антантай, зноў запаланіла Совецкую Беларусь. Дзікая эксплаатацыя белапольскіх акупантаў, бязлітасная расправа з грамадскімі арганізацыямі рабочых і працоўнага сялянства, арышты, рэквізіцыі, грабежніцтва хлеба, жывёлы, руйнаванне і падпал вёсак—усё гэта спадарожвалася зваротам фабрык і заводаў буржуазіі, маёнткаў памешчыкам у час абодвух акупацый.

Беларуская, яўрэйская і інш. контррэволюцыя прасмыкаліся перад жудаснымі акупантамі, вітаючы іх. Беларускія нацыянал-дэмакраты ў саюзе з імперыялістычнай буржуазіяй усімі мерамі дапамагалі ўмацаванню ўлады памешчыкаў і буржуазіі.

Гераічная рабоча-сялянская армія, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры актыўнай дапамозе партызанскіх атрадаў, кіруемых большэвікамі з падполля, пры дапамозе пролетарыята іншых краін, перамагла аб'яднаную імперыялістычную контррэволюцыю.

Пролетарская соцыялістычная рэволюцыя перамагла канчаткова. Праз аддана́сць справе пролетарыята, праз гераічную барацьбу на гаспадарчым фронце ў аднаўленчы і рэканструкцыйны перыяды працоўныя Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры брацкай дапамозе СССР, прышлі к 17 гадавіне Окцябра з велізарнымі перамогамі ў справе ўмацавання дыктатуры пролетарыята і пабудовы соцыялізма.

Імен́на вялікая Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя высока ўзняла сцяг барацьбы за пабудову бяскласавага комуністычнага грамадства. Пад гэтым сцягам, пры непадзельным кіраўніцтве партыі большэвікоў на чале з правадырамі сусветнага пролетарыята Леніным—Сталіным, пролетарыят Расіі ў саюзе з вясковай беднатой заваяваў сваю дыктатуру.

Дыктатура пролетарыята на справе ўстанавіла свабоду для ўсіх нацыянальнасцей былой Расійскай імперыі.

Бурнае развіццё нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры стала набыткам мільённых мас працоўных розных нацыянальнасцей. Брацкае супрацоўніцтва працоўных усіх нацыянальнасцей у пабудове соцыялізма знашло сваё выражэнне ў непахісным Саюзе Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Пад сцягам Комуністычнага Інтэрнацыянала згуртоўваюцца дзесяткі мільёнаў працоўных Захаду і Ўсходу. Заваёвы соцыялізма ў СССР—перамога сусветнага пролетарыята па шляху развязвання сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Л. Рудзіцкі

# Асноўныя прынцыпы совецкай выбарчай сістэмы

Ленін у радзе сваіх твораў і выступленняў называў совецкую сістэму новым дзяржаўным апаратам. Але, называючы советы дзяржаўным апаратам, Ленін неаднакроць падкрэсліваў, што яны з'яўляюцца прадстаўнічымі ўстановамі, якія даюць «злучэнне заканадаўчай улады, зліццё кіраўніцтва з заканадаўствам» (том XXV, стар. 148).

Советы, як органы дыктатуры пролетарыята, нараджаліся і загартоўваліся ў агні трох рэволюцый. Ад зародкавых органаў паўстання да советаў, як палітычнай формы дыктатуры пролетарыята,—вось той вялікі гістарычны шлях, па якім прашоў рабочы клас, працоўныя масы пад кіраўніцтвам Леніна і яго партыі.

Дзейная сіла советаў, як органаў, што злучаюць сілу працоўнага народу, які выдае сам свае законы і адначасова выконвае іх, была выяўлена ў гістарычныя дні першага штурму ўлады царызма.

> «Гэта былі,—пісаў Ленін аб советах 1905 года,—іменна органы ўлады, не гледзячы на іх зачаткавасць, стыхійнасць, неафармленасць, расплыўчатасць у складзе і функцыянаванні. Яны дзейнічалі як улада, захватваючы... друкарні, арыштоўваючы чыноў паліцыі, перашкаджаўшых рэволюцыйнаму народу ажыццяўляць свае правы..., яны дзейнічалі, як улада, зварочваючыся да свайго народу з заклікам не даваць грошай старому ўраду. Яны канфіскавалі грошы старога ўрада... і накіроўвалі на патрэбы новага, народнага ўрада. Так, гэта былі, бясспрэчна, зародкі новага народнага, або, калі хочаце, рэволюцыйнага ўрада» *).

Геній Леніна раскрыў адну з важнейшых рыс советаў, як органаў рэволюцыйнай улады, органаў будучай дыктатуры пролетарыята. Гэта рыса адлюстравала выяўленне волі сапраўды агромнай большасці народу. Такім чынам асноўны сэнс советаў, як новых органаў улады, заключаецца ў тым, што советы—вынік творчай рэволюцыйнай дзейнасці саміх мас. І іменна таму, што яны ўзніклі пад кіраўніцтвам партыі, у ходзе абвостранай класавай барацьбы, яны сканцэнтравалі ў сабе агульны інтарэс эксплаатуемых і прыгнечаных, якія, не чакаючы ніякіх заканадаўчых актаў на права ажыццяўляць сваю рэволюцыйную волю, пад кіраўніцтвам партыі стварылі новую форму ўлады.

Ідэя ўлады советаў, узнікшых у час рэволюцыі 1905 г. і прыдушаных жорсткай рэакцыяй царскай улады, атрымала далейшае развіццё ў час лютаўскай рэволюцыі 1917 г.

---

*) Ленін. том XI, выд. 2, стар. 117.

Окцябрская рэволюцыя канчаткова замацавала советы як палітычную і арганізацыйную форму дыктатуры пролетарыята, надала ім новы, больш глыбокі змест. Советы паказалі, што яны з'яўляюцца не толькі органамі паўстання працоўных мас, органамі іх паслядоўнай рэволюцыйнай барацьбы супроць капіталізма, але і «пастаяннай і адзінай асновай усёй дзяржаўнай улады, усяго дзяржаўнага апарата» **(Ленін).**

Не выпадкова-ж супроць советаў аб'ядналіся ўсе сілы рэакцыі, усе здраднікі інтарэсаў рабочага класа і яго заклятыя ворагі. Ад Мілюкова і Струве да японскіх імперыялістаў, англійскіх цвёрдалобых і новага «дучэ» Гітлера; ад Керэнскага і Дана, Вельса і Лейпарта да «масцітага» Кауцкага і ідэолага контррэволюцыйнай буржуазіі— Троцкага і ўсіх ідэолагаў соцыял-фашызма—усё гэта прадстаўнікі варожага лагера, якія праяўляюць сваю ненавісць да совецкай улады.

Гэта ненавісць да совецкай улады, як сістэмы дзяржаўнага панавання пролетарыята, грунтуецца на тым, што «советы ёсць прамое выражэнне дыктатуры пролетарыята» **(Сталін)** і гэтым самым яны з'яўляюцца самай моцнай уладай на свеце, уладай, якая не ашуквае працоўныя масы, а дапамагае ім і арганізуе іх на рашучую барацьбу з буржуазіяй і яе агентамі.

Лінія работы советаў і лінія комуністычнай партыі—адна лінія. Недарма высоўваюць ворагі пролетарыята лозунг «Советы без комуністаў», каб зрабіць спробу падарваць совецкую сістэму шляхам проціпастаўлення советаў, як формы дзяржаўнага кіраўніцтва, іх большэвіцкаму зместу.

17 год існавання совецкай улады, яе ўсё больш узрастаючая сіла ёсць рэзультат таго, што работай советаў кіравала комуністычная партыя большэвікоў—партыя рабочага класа. У перыяд другой пяцігодкі неабходна яшчэ большае ўмацаванне партыйнага кіравання дзейнасцю советаў, яшчэ большае павышэнне большэвіцкай якасці іх работы.

Накіроўваючы ўвесь яд сваёй злосці супроць совецкай сістэмы, ворагі пролетарыята імкнуцца сказіць, дыскрэдытаваць ролю совецкага прадстаўніцтва, як аднаго з важнейшых рычагоў дыктатуры пролетарыята. Безупынна ратуючы за буржуазную дэмакратыю, лакеі капіталістаў на розны манер, але па сутнасці аднолькава, выконваюць соцыяльны заказ свайго гаспадара.

> «Прадстаўнічыя органы,—піша меншавік Гарві,—усёроўна парламент ці советы—могуць жыць толькі ў атмасферы свабод і барацьбы партый».

Ён спявае старую меншавіцкую песню аб шкоднасці дыктатуры пролетарыята, пры якой, нібы, не можа быць ніякай гутаркі аб сапраўдным народным прадстаўніцтве:

> «Усе гутаркі аб «ажыўленні советаў»,—прадаўжае Гарві,—усе разважанні аб «совецкай грамадскасці», аб «совецкай законнасці», аб совецкай канстытуцыі наскрозь прасякнуты двудушшам. Дыктатура і законнасць, дыктатура і грамадскасць—рэчы несумяшчальныя яшчэ ў большай меры, чым па Пушкіну геній і зладзейства».

Весці дыскусію з панамі меншавікамі няма ніякай патрэбы. Гэтым паследкам «чыстай дэмакратыі» гісторыя проціпаставіла сілу нашага

совецкага ладу, які грунтуецца на шырокім прадстаўніцтве працоўных мас. Гэта сіла цалкам выцякае з асаблівасцей тых новых органаў класавага панавання, якія замянілі старую дзяржаўную сістэму.

Ленін з надзвычайнай яснасцю характарызаваў змест і сутнасць новых органаў улады, якія, паводле яго прагноза, павінны былі замяніць стары дзяржаўны апарат.

У 1917 годзе ў сваёй рабоце: «Ці ўтрымаюць большэвікі дзяржаўную ўладу»—Ленін даў класічны аналіз таго новага, што прадстаўляюць сабой советы, як органы пролетарскай улады. У шасці ленінскіх тэзісах даецца сціслае, але вельмі акрэсленае абгрунтаванне совецкай сістэмы:

> «Советы ёсць новы дзяржаўны апарат, які дае, па-першае, узброеную сілу рабочых і сялян, прычым гэтая сіла не адарвана ад народу, як сіла старой пастаяннай арміі, а цяснейшым чынам з ім звязана... Па-другое, гэты апарат дае сувязь з масамі, з большасцю народу настолькі цесную, непарыўную, лёгка правяраемую і аднаўляемую, што нічога падобнага ў ранейшым дзяржаўным апараце няма і ў паміне. Па-трэцяе, гэты апарат у сілу выбарнасці і змяняемасці яго складу па волі народу, без бюракратычных фармальнасцей, з'яўляецца куды больш дэмакратычным, чым ранейшыя апараты. Па-чацвертае, ён дае моцную сувязь з самымі рознымі прафесіямі... Па-пятае, ён дае форму арганізацыі авангарда, г. зн. самай свядомай... часткі **прыгнечаных** класаў, рабочых і сялян, з'яўляючыся такім чынам апаратам, праз які авангард... можа падымаць, выхаваць, навучаць і весці за сабою **ўсю гіганцкую масу** гэтых класаў да гэтага часу стаяўшую зусім па-за палітычным жыццём, па-за гісторыяй. Па-шостае, ён дае магчымасць злучаць выгады парламентарызма з выгадамі непасрэднай і прамой дэмакратыі, г. зн. злучаць у асобе выбарчых прадстаўнікоў народу і законадаўчую функцыю **і выкананне законаў**» *).

Ва ўказаных тут прынцыпах дзейнай, творчай ролі советаў з усёй відавочнасцю паказана іх гістарычнае значэнне. Праз совецкую выбарчую сістэму, якая непасрэдна звязана і знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці з шасцю прыведзенымі ленінскімі тэзісамі, мільёны працоўных выяўляюць сваю волю і класавыя імкненні.

У советах—гэтых новых органах сапраўды народнага прадстаўніцтва—канцэнтруецца творчая сіла рабочага класа і былых эксплатаваных, якія праз удзел у советах уцягваюцца ў справу кіравання сваёй дзяржавай.

Што-ж з'яўляецца асабліва важным пры характарыстыцы совецкай выбарчай сістэмы ў процівагу буржуазнай?

Советы выяўляюць волю не паасобных «незалежных» індывідаў, але арганізаваных калектываў працоўных. Совецкі правамоцны грамадзянін не толькі ажыццяўляе акт галасавання, але актыўна ўдзельнічае ў абмеркаванні работы совета, які кіруе яго выбарчай адзінкай: заводам, фабрыкай, соўгасам, калгасам, установай і т. п.

У той час, калі буржуазія ўвесь сэнс свайго прадстаўніцтва зводзіць да голага акта галасавання і «незалежнай» ад народу дзейнасці дэпутатаў, фактычна вельмі цесна звязаных з коламі фінансавага

*) Ленін, том XXI, стар. 258.

капітала,—наша совецкая выбарчая сістэма патрабуе ад працоўных не простага галасавання, але непасрэднай работы ў советах і іх органах.

Карыстаючыся рознымі спосабамі фальсіфікацыі, подкупу, жульніцтва і машэнства пры выбарах, буржуазія крычыць аб волі большасці, ажыццяўляемай «народнымі» прадстаўнікамі.

Некаторыя буржуазныя даследчыкі самі характарызуюць зусім недвусэнсна барацьбу розных «свабодных» буржуазных партый за прадстаўніцтва большасці:

> «У час кампаніі вярбоўкі,—піша Острагорскі,—з таго і з другога боку прыпадносіцца столькі абману, што можна было-б патапіць броненосец» *).

Сіла совецкай выбарчай сістэмы—у тым, што яна рашуча адмаўляе якую-б там ні было незалежнасць дэпутата ад выбаршчыкаў, а падкрэслівае адказнасць дэпутата, як прадстаўніка інтарэсаў працоўных мас. Гэта мае на ўвазе тэзіс Леніна аб советах, які падкрэслівае, што совецкая сістэма «робіць сувязь з масамі..., з большасцю народу... цеснай, неадрыўнай, лёгка правяраемай і аднаўляемай».

Разрыў паміж прадстаўнічымі органамі і масамі працоўных з'яўляецца неабходнай уласцівасцю буржуазнай дзяржаўнай сістэмы. Капіталісты зацікаўлены ў тым, каб дэпутаты з'яўляліся жрэцамі, якія свяшчэннадзеюць у парламенце і яго кулуарах, у той час як шырокія масы выбаршчыкаў не ведаюць аб тых фокусах і махінацыях, што робяцца ў храмах «народнага» прадстаўніцтва.

Совецкая выбарчая сістэма пабудавана на прынцыпе дэмакратычнага цэнтралізма, які заключаецца ў тым, што нізавыя советы ствараюць вярхоўныя органы ўлады советаў, якія чэрпаюць сваю сілу ў актыўным удзеле рабочых і шырокіх працоўных мас у рабоце советаў і іх органаў.

Сутнасць совецкага дэмакратычнага цэнтралізма заключаецца і ў тым, што кожны паасобны дэпутат, як удзельнік у рабоце советаў, можа быць абраны ў вярхоўныя органы ўлады. Акт гэтага абрання зусім не значыць, што, з'яўляючыся, напрыклад, членам совецкага ўрада, дэпутат не можа заставацца і членам нізавога совета, у які ён абраны. Наадварот,—совецкая выбарчая сістэма патрабуе актыўнай работы ў совеце кожнага дэпутата, якую-б пасаду ён ні займаў. Член ЦВК, абраны ў совет ад пэўнага вытворчага калектыва, абавязан несці адказнасць за сваю дзейнасць у совеце перад выбаршчыкамі, як член данага совета. Але разам з тым, як прадстаўнік совецкага ўрада, ён, узначальваючы якую-небудзь адказную галіну дзяржаўнага кіравання, загадвае і кіруе гэтай галіной ад імя шырокіх працоўных мас, інтарэсы якіх ён прадстаўляе на з'ездзе советаў, на сэсіі ЦВК, на паседжанні яго прэзідыума і інш.

Совецкая выбарчая сістэма зусім не адмаўляе дзейнай ролі індывіда; гэтая роля прызнаецца пастолькі, паколькі яна супадае з інтарэсамі пролетарыята, з яго класавай мэтаімкненнасцю ў барацьбе за социялізм. У гэтай сувязі трэба напомніць аб выказванні Леніна на III усерасійскім з'ездзе профсаюзаў, дзе даецца найглыбейшы аналіз

---

*) Острогорский „Демократия и политические партии", том I, стр. 188.

таго, як трэба разумець супадзенне класавай волі індывіда з **воляй** шырокіх мас працоўных.

«Воля сотень і дзесяткаў тысяч,—гаварыў Ленін,—**можа выразіцца ў адной асобе.** Гэта складаная воля выпрацоўваецца **савецкім шляхам**».

Ні адна дзяржава не дашла да такога дэмакратызма. А нашы... з'езды—гэта выпрацоўка агульнай волі і агульнага рашэння.

«На гэтай найшырэйшай базе разумеецца наша савецкая канстытуцыя, наша савецкая ўлада. Яна дае тое, што рашэнні савецкай улады маюць нябачаную ў свеце сілу аўтарытэта, сілу рабочых і сялян» *). (Падкрэслена намі—**Л. Р.**)

Прынцып дэмакратычнага цэнтралізма пранізвае ўсю савецкую сістэму, звязвае ў адно цэлае вярхоўныя і вышэйшыя органы ўлады з мясцовымі советамі. Апошнія, падначальваючыся цэнтралізаванаму кіраўніцтву вярхоўных органаў улады, самі надаюць ім сілу праз выяўленне волі шырокіх працоўных мас. Так, напрыклад, ЦВК, які выбіраецца з'ездамі советаў, кіруе на падставе рашэнняў з'езда дзейнасцю ўсёй сістэмы советаў, але, кіруючы, **выдаючы законы**, гэты найвышэйшы орган улады рэспублікі з'яўляецца адначасова і **выканаўчым** органам, бо ён выконвае, ажыццяўляе волю з'езда советаў, а гэтым самым волю мільёнаў працоўных.

Савецкі шлях выпрацоўкі волі працоўных заключаецца і ў тым, што савецкая выбарчая сістэма грунтуецца на рэальных свабодах для працоўных.

«Адзіная воля,—гаворыць Ленін,—не можа быць фразай, сімвалам. Мы патрабуем, каб гэта было ў практыцы» **).

Гэта патрабаванне Леніна цалкам ажыццяўляецца і выражана ў асноўным законе кожнай савецкай рэспублікі. Так, канстытуцыя БССР у першым раздзеле акрэслена рэгламентуе найшырэйшыя магчымасці працоўных карыстацца сапраўднымі свабодамі, якія можа даць толькі пролетарская дзяржава. Даволі напомніць аб змесце некаторых артыкулаў нашай канстытуцыі для пацверджання гэтага палажэння (гл. артыкулы 8, 9, 10, 11). Для забяспечання працоўным сапраўднай волі і магчымасці ствараць саюзы, склікаць сходы, выяўляць свае думкі, атрымаць доступ да ведаў, навукі, культуры—пролетарская дзяржава перадае ў рукі працоўных усе рэальныя блага як духоўнай, так і матар'яльнай культуры. Велізарныя палацы, будынкі, універсітэты, сродкі друку, бібліятэкі, школы і т. д.—усім гэтым, пад кіраўніцтвам пролетарыята на чале з яго авангардам—Комуністычнай партыяй, карыстаюцца шырокія масы былых эксплаатаваных і прыгнечаных класаў.

У фактычнай магчымасці ажыццяўляць свабоды і заключаецца надзвычайная сіла нашай сістэмы выбараў, у гэтым яе гістарычная перавага над капіталістычным ладам, пабудаваным на ілюзорнасці фальшывых свабод, сутнасць якіх так выразна ўскрыў Ленін:

«А што яны называюць свабодай? Гэтыя цывілізаваныя французы, англічане, амерыканцы, яны называюць свабодай хоць-бы свабоду сходаў. У канстытуцыі павінна быць напісана: «Свабода сходаў усім грамадзянам». «Вось гэта,—гавораць яны,—ёсць змест, вось гэта ёсць асноўнае праяўленне свабоды. А вы, большэвікі, вы свабоду сходаў парушылі».

*) Ленін, том XXV, стар. 144.
**) Там-жа, стар. 143.

Так,—адказваем мы,—ваша свабода паны англічане, французы, амерыканцы, ёсць ашуканства, калі яна супярэчыць вызваленню працы ад гнёту капітала. Вы дробязь забылі, паны цывілізаваныя. Забылі, што ваша свабода напісана ў канстытуцыі, якая **ўзаконьвае прыватную ўласнасць**. Вось у чым сутнасць справы» *).

Ідэолагі буржуазіі казыраюць свабодай індывіда, які, з'яўляючыся «роўнапраўным» і «незалежным», па іх думцы, вельмі лёгка карыстаецца буржуазнымі свабодамі. Разважаннямі аб скарыстанні свабоды наогул, роўнасці наогул, як вядома, прыкрываецца сапраўдная сутнасць капіталістычнай сістэмы панавання.

Совецкая выбарчая сістэма носіць адкрыта класавы характар; наша канстытуцыя з усёй акрэсленасцю і выразнасцю паказвае гэты класавы змест у тых яе палажэннях, дзе даецца абгрунтаванне выбарчым правам працоўных і абмежаванне эксплаататараў і ўсіх палітычна-шкодных элементаў.

Артыкул 70 канстытуцыі БССР гаворыць аб тым, што правам выбіраць і быць абраным у советы карыстаюцца, незалежна ад веры і нацыянальнасці, асобы, якія займаюцца **прадукцыйнай і грамадска-карыснай працай.** Гэты прынцып падкрэслівае асаблівасць совецкіх выбараў, праз якія ствараюцца органы прадстаўніцтва працоўных. Аднак, класавы змест нашага выбарчага права не вычэрпваецца прыведзеным палажэннем. **Выключэнне эксплаататараў і іх палітычных саюзнікаў** з совецкай выбарчай сістэмы—вось другі прынцып, уласцівы нашаму выбарчаму праву.

А як-жа **на справе** ажыццяўляе буржуазія адбор «народных» прадстаўнікоў у свае органы прадстаўніцтва?

Трэба адзначыць, што не гледзячы на аглашэнне славутых 4-х прынцыпаў выбараў—усеагульнае, прамое, роўнае і тайнае галасаванне— ніводзін з гэтых прынцыпаў у капіталістычных краінах не дзейнічае. Ад удзелу ў выбарах, асабліва ва ўмовах узрастання прадпасылак рэвалюцыйнага крызіса і пераходу да другога тура рэволюцый і войн, буржуазіяй адхіляюцца найшырэйшыя колы працоўных. Адна справа мець права галасаваць, а другая—фактычна падаць свой голас за таго прадстаўніка, які сапраўды выражае інтарэсы працоўных.

Няма ніякай патрэбы дэталёва паказваць, як у буржуазных краінах мільёны працоўных адсоўваюцца ў бок пры ажыццяўленні «таінства» ўсеагульных выбараў. Даволі напомніць, што ў краіне «класічнай» амерыканскай «дэмакратыі», дзе налічваецца каля 119 мільёнаў насельніцтва, у выбарах удзельнічае 16—18 мільёнаў. У фашысцкай Італіі з 40 мільёнаў насельніцтва ў час апошніх выбараў было дана права голасу 12 мільёнам асоб, з якіх фактычна ўдзельнічала ў выбарах усяго 8 мільёнаў чалавек.

Абмежаванасць гэтым не вычэрпваецца. У такіх «цывілізаваных» краінах, як Францыя, Швейцарыя і інш., да апошняга часу працоўная жанчына не дапускаецца да ўдзелу ў выбарах. А адхіленне ад удзелу ў выбарах па прызнаку прыналежнасці да «падазронай» нацыі, «няпоўнацэннай» расы і «шкоднага» веравызнання?. А забарона вайскоўцам, г. зн. працоўным у ваенных шынелях, удзельнічаць у стварэнні буржуазных органаў прадстаўніцтва?

---

*) Ленін, том XXIV, стар. 290.

Удзел у палітыцы з пункту погляду буржуа з'яўляецца недапушчальным для працоўных у ваеннай шынелі, якія павінны прайсці муштроўку казармы капіталістычнай дзяржавы.

Нават будучы вымушанай пад націскам выступленняў рабочага класа дапускаць да ўдзелу ў выбарах сапраўдных прадстаўнікоў рабочага класа—комуністаў, буржуазія імкнецца паставіць іх у такія ўмовы, каб гэтым самым пазбавіць права быць абранымі ў органы прадстаўніцтва кандыдатаў на выбарчую пасаду і абраных прадстаўнікоў рэволюцыйнага пролетарыята і працоўных (арышт, зняволенне ў турмах, канцэнтрацыйных лагерах і т. д.).

Аднак, ніякія перашкоды і махінацыі не могуць спыніць той магутнай хвалі спачування і сімпатыі, якімі карыстаюцца комуністы ў шырокіх колах працоўных.

Вось адзін факт, які прыводзіць комуністычны друк Англіі, апісваючы мітынгі ў час перавыбарчай кампаніі ў Лондане:

> «У заключэнне сваёй прамовы прадстаўнік комуністычнай партыі кідае рашучы вокліч: «Хто з намі, з комуністычнай партыяй?» Лес рук ўздымаецца яму насустрач. Прамоўца заклікае рабочых аказаць дапамогу комуністычнай партыі, якая паводле англійскіх законаў абавязана за кожнага кандыдата ўнесці 150 фунтаў (1 500 руб.). Не гледзячы на тое, што на мітынгу прысутнічаюць большай часткай беспрацоўныя, манеты сыплюцца ў кружку зборшчыкаў. Да трыбуны прыбліжаецца бедна адзетая жанчына.—«Я даўно ўжо беспрацоўная»,—гаворыць яна. «Таму замест грошай прыміце ад мяне абручальны персцень».

Буржуазію не могуць задаволіць усе махінацыі яе выбарчай сістэмы. Адхіляючы мільёны працоўных ад удзелу ў выбарах пры дапамозе сваіх славутых цэнзаў, яна, акрамя гэтага, у краінах адкрытай фашысцкай дыктатуры тэрарызуе масы голым гвалтам і здзекамі.

Нават ліберальна-буржуазны друк у дні славутых гітлераўскіх выбараў прымушан быў характэрнаю для яго мовай канстатаваць факты, якія паказвалі сутнасць тактыкі фашызма:

> «Мільёны германскіх выбаршчыкаў,—пісала 4 сакавіка 1933 г. газета «Берлінер тагеблат»,—агромная частка нацыі асуджана ў гэтай выбарчай барацьбе на маўчанне. Іх голасу недастае ў агульным хоры партый, заклікаючых да выбараў. Іх плакаты заклеены, газеты забаронены, іх сходы распускаюцца, або не дазваляюцца, большасць іх прамоўцаў пазбаўлены слова, іх лістоўкі і агітацыйная літаратура канфіскуюцца, агітацыйныя памяшканні апячатаны. К маўчанню асуджана ў гэтай выбарчай барацьбе трэцяя частка нямецкага народу».

Аднак, не гледзячы на нечуваны фашысцкі тэрор, накіраваны ў тыя дні супроць працоўных Германіі, пяць мільёнаў пролетарыяў галасавала за комуністычную партыю.

У лістападзе 1933 года ў час правядзення выбараў у Рэйхстаг і плебісцыта па пытанню выхаду Германіі з Лігі нацый Гітлер улічыў вопыт мінулых кампаній і прыдумаў іншыя драконавы мерапрыемствы.

Газета «Известия» у карэспандэнцыі ад 11 лістапада 1933 г. паведамляла:

> «Германская ўлада за апошнія дні прымае ўсе меры, каб прымусіць насельніцтва прыняць стопроцантны ўдзел у выбарах.

Як у надрукаваных адозвах, так у прэсе і прадвыбарчых прамовах адкрыта ўказваецца на тое, што няўдзел у выбарах будзе кляйміцца, як «здрада радзіме». У «Берлінер берзенцэйтунг» быў надрукован артыкул германскага ваеннага міністра Бломберга, у якім ён гаварыў: «Хто не будзе галасаваць за ўрад,—здраднік, хто не прыйме ўдзелу ў выбарах—сабатажнік».

Аднак, ніякія пагрозы не змаглі запалохаць перадавых германскіх пролетарыяў; тысячы лістовак у гэтыя дні заклікалі працоўных ісці па шляху, указанаму пераможным рабочым класам СССР.

У выніку гераічнай дзейнасці комуністычнай партыі чатыры мільёны працоўных дэманстрацыйна не ўдзельнічалі ў гітлераўскіх выбарах. Гэты няўдзел паказаў, што ніякія сілы не зломяць боездольнасці германскага пролетарыята. Гэта паказала высокую палітычную свядомасць рабочага класа, які сваім няўдзелам у фашысцкіх выбарах демантстраваў адданасць ідэям Комінтэрна, ідэям СССР.

* * *

Органы совецкага прадстаўніцтва ствараюцца на аснове самага шырокага ўдзелу працоўных мас у выбарах, а існуючыя абмежаванні носяць адкрыта класавы характар і выражаны ў **палітычным і працоўным** цэнзах нашага выбарчага права. Асновы нашай выбарчай сістэмы цалкам вызначаюцца задачамі совецкай дэмакратыі, задачамі ўмацавання дыктатуры пролетарыята і пабудовы соцыялізма.

Ствараючы сістэму советаў, нашы выбары даюць

> «**не толькі** прадстаўніцтва па тыпу дэмакратыі—як гаварыў Ленін,—але і пабудову ўсяго кіравання дзяржавай знізу, самімі масамі, іх дзейсны ўдзел у кожным кроку жыцця».

Выбары ў советы ствараюць

> «**магчымасць** ісці планамерна, цвёрда і рашуча к соцыялізму... узнімаючы агромныя масы пролетарыяў і поўпролетарыяў да майстэрства дзяржаўнага кіравання, да распараджэння **ўсёй** дзяржаўнай уладай» *).

У час выбараў рабочы клас, такім чынам, вучыцца кіраваць дзяржавай, і сам характар іх правядзення выражае і азначае бязлітаснае знішчэнне ўсяго таго, што перашкаджае нашаму руху наперад.

У свой час Ленін указваў на тое, што «мы не на глебе раўнапраўя вядзем класавую барацьбу» **). Барацьба за моцныя, боездольныя, класава-вытрыманыя советы—гэта не барацьба за «свабодныя», «дэмакратычныя» советы, за якія ў свой час ратавалі меншавікі. Гэта—рашучая барацьба супроць усяго старога, закасцянелага, застойнага; барацьба супроць некультурнасці і цемры, барацьба за яшчэ большае ўмацаванне асноўных органаў дыктатуры пролетарыята—советаў; гэта барацьба за ліквідацыю рэштак кулацтва, пераробку асноўных мас працоўнага сялянства ў свядомых і актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства, за выкананне задач другой пяцігодкі і пабудову бясакласавага соцыялістычнага грамадства.

Зусім зразумела, як глядзяць на гэту велізарную ролю Советаў нашы класавыя ворагі. Буржуазія, кулак, антысовецкія элементы ра-

---

*) Ленін, том XX, стар. 204.

**) Ленін, том XXV, стар. 144.

зумеюць значэнне нашых советаў і нашых выбараў. Малейшая магчымасць скарыстоўваецца імі для таго, каб нанесці шкоду нашай сістэме, аслабіць сілу советаў, пралезці ў шчыліну нашых недахопаў, пралезці ў советы, разладзіць саюз рабочых і сялян.

Практыка класавай барацьбы ведае розныя формы і метады адкрытага і завуаляванага палітычнага шкодніцтва. Вось чаму наша канстытуцыя пільна адхіляе малейшую магчымасць пранікнення ў нашу выбарчую сістэму, у нашы советы, якога-б там ні было класава-варожага ўплыву.

Рашуча падаўляючы свабоду для буржуазіі і яе прыспешнікаў і гэтым самым расшыраючы правы і дэмакратыю для працоўных, совецкая выбарчая сістэма стварае ўсе ўмовы для выключнага прадстаўніцтва інтарэсаў працоўных. Адхіленне ад удзелу ў совецкіх выбарах ворагаў пролетарыята з'яўляецца магутным сродкам класавай барацьбы, зброяй падаўлення буржуазіі, сродкам шырокага разгароту працоўнымі ўсіх сваіх здольнасцей і талентаў.

Нашы совецкія абмежаванні—гэта форма прымусу ў адносінах да буржуазіі, яны—вынік перамогі дыктатуры пролетарыята. Гэта—важнейшае выражэнне совецкага дзяржаўнага права, як «волі пануючага класа, узведзенай у закон» (**Маркс—Энгельс.** «Ком. маніфест»).

І як-бы ні крычалі ўсякія прыхвасні «чыстай дэмакратыі» аб «прымусе» над працоўнымі ў СССР, колькі-б ні залэўнівалі міжнародны пролетарыят паны з II Інтэрнацыянала, што «выбарчае права ў советы дае насельніцтву вельмі мала, пакуль у краіне існуе толькі адна партыя»,—совецкая выбарчая сістэма паказала ўсяму свету рэальны змест улады советаў, і кожны лагер са сваіх класавых пазіцый вызначае свае адносіны да гэтай сістэмы панавання. Меншавікі расійскага гатунку, соцыял-фашысты, трацкісты і іншыя ланцужныя псы міжнароднай контррэволюцыі—**за ломку** совецкай легальнасці, за «дэмакратызацыю» советаў; міжнародны пролетарыят і прыгнечаныя капіталізмам працоўныя масы—**за ахову, за ўмацаванне, за рост** сілы совецкай дзяржавы, якую яны лічаць сваёй соцыялістычнай бацькаўшчынай.

Не звужванне, а небывалае расшырэнне дэмакратыі дае наша сістэма выбараў. Не праз «дэмакратычныя» ілюзіі «чатырохвосткі», не праз разгон выбарчых сходаў ажыццяўляецца сістэма нашага дзяржаўнага прадстаўніцтва, а праз дзейны, непасрэдны кантроль працоўнымі сваіх прадстаўнікоў, сваіх дэпутатаў, праз жывы, практычны ўдзел мас у палепшанні свайго дабрабыту, праз вырашэнне актуальнейшых задач соцыялістычнага будаўніцтва, задач узмацнення абароназдольнасці нашай краіны. І ўсё гэта праходзіць ва ўмовах самай шырокай дзелавой крытыкі і самакрытыкі, што яшчэ больш загартоўвае нашы советы, цэментуе выбаршчыкаў са сваімі дэпутатамі.

Статыстычныя даныя аб выбарах у советы ў час мінулых перавыбарчых кампаній могуць быць лепшымі сведкамі развіцця пролетарскага дэмакратызма, могуць пацвердзіць правільнасць развіцця совецкай выбарчай сістэмы. Калі ў час выбарчай кампаніі 1927 года налічвалася 67.278.201 выбаршчыкаў пры актыўнасці ў 50,7 проц., то ў 1929 годзе гэта лічба вырастае да 72.536.735 чал. пры актыўнасці ў 62,3 проц. Лік выбаршчыкаў у перавыбарчай кампаніі 1930—31 г. дасягнуў 80 мільёнаў асоб. У выбарах новых советаў—советаў другой пяцігодкі—у гэтым годзе будзе прымаць удзел звыш 90 мільёнаў пролетарыяў, калгаснікаў і працоўных СССР.

Такі-ж малюнак разгортвання нашай дэмакратыі мы можам назіраць пры аналізе даных па БССР: ад 2 млн. 399 тыс. выбаршчыкаў у 1927 годзе з актыўнасцю ў 47,9 проц. да 2 млн. 449 тыс. выбаршчыкаў у час перавыбараў 1929 г. з 60 проц. актыўнасці; ад 69 проц. удзелу гарадскога насельніцтва і 58,8 сельскага ў перавыбарах 1929 года да 77,4 гарадскога і 66,4 сельскага насельніцтва ў 1931 годзе— вось шлях узрастання актыўнасці шырокіх працоўных мас горада і вёскі.

Даныя па БССР за 1931 год паказваюць узросшы ўдзел ў перавыбарах советаў калгаснага сялянства. Так, у апошнюю перавыбарчую кампанію 1931 года ўдзел калгаснікаў дасягнуў 78,7 проц. Гэты процант значна перавысіў сярэдні ўдзел аднаасобнага працоўнага сялянства, якое дало 65,7 проц. актыўнасці.

Шырокая палітычная актыўнасць працоўнага насельніцтва сведчыць аб тым, як працэс ператварэння старога ўкладу жыцця вёскі і стварэння новых грамадскіх адносін непасрэдна звязан з нябачаным у гісторыі развіццём сапраўднай дэмакратыі—дэмакратыі для працоўных. Соцыялістычныя формы вядзення сельска-гаспадарчай вытворчасці, на аснове аб'яднання працоўнага сялянства ў калгасы, стварылі такія ўмовы, пры якіх сялянства перавыхоўваецца і ператвараецца ў свядомых і актыўных будаўнікоў соцыялізма. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі стварыла на вёсцы якасна новыя формы распырэння соцыялістычнага дэмакратызма, бо «...упершыню пачынаецца тое, каб сапраўды **пагалоўна** насельніцтва вучылася кіраваць і пачынала кіраваць».

Як зло высмеяла гісторыя «прароцтвы» паноў з лагера трацкізма аб перараджэнні совецкай улады, якое нібы выклікана «затапленнем ніжэйшых паверхаў» нашай дзяржаўнай сістэмы дробна-буржуазнай стыхіяй сялянства. Правільнасць і паслядоўнасць генеральнай лініі партыі пад кіраўніцтвам правадыра т. Сталіна вызначае актыўна-ўздзейную ролю пролетарскай дзяржавы ў справе карэннага гістарычнага павароту гэтай стыхіі на цвёрды шлях, шлях соцыялізма.

Жыццё пацвердзіла правільнасць геніяльнага прагноза Леніна, што толькі рабочы клас зможа павярнуць працоўнае сялянства да лепшай будучыні, толькі пролетарыят, як гаварыў Ленін, можа «весці і кіраваць, захапляць за сабою» *).

Гэты рост палітычнай актыўнасці калгаснага сялянства, уключэнне яго ў больш высокія формы совецкага дэмакратызма, паказвае шлях, па якому яно пойдзе далей, паступова ператвараючыся ў работнікаў соцыялістычнага бяскласавага грамадства.

Разгортваючы пролетарскі дэмакратызм, максімальна ўзмацняючы гарадскія і сельскія советы, неабходна адначасова выяўляць і весці рашучую барацьбу з усякімі спробамі аднавіць тэорыі так званых ліквідатараў аб непатрэбнасці сельскіх советаў у сувязі з разгортваннем калгаснага руху.

Ліквідатарскія праявы ў рабоце советаў у розных выглядах могуць сустракацца і на даным этапе; носьбітаў гэтай ідэалогіі трэба выкрываць, даючы ім рашучы большэвіцкі адпор. Мы павінны яшчэ больш умацоўваць советы—органы пролетарскай дыктатуры.

*) „Ленінскі зборнік" 3, стар. 513.

У святле агромных зрухаў, што адбыліся ў нашай краіне за 17 год дыктатуры пролетарыята, і далейшага эканамічнага і палітычнага ўзмацнення совецкай ўлады пашыраецца і совецкая дэмакратыя, і з кожнымі новымі перавыбарамі советаў рады выбаршчыкаў папаўняюцца за лік узрастаючай совецкай моладзі. Процант пазбаўленых выбарчых правоў у нашай краіне нязначны. Так, у час выбараў 1927 года па Саюзу пазбаўлена было выбарчых правоў, прыкладна, 3,5 проц. насельніцтва сельскай мясцовасці, у гарадах гэты процант дасягаў 7,7, у 1929 годзе па Саюзу процант гэты выражаўся: у сельскіх мясцовасцях 4,1; у гарадах 8,6. У БССР—першая катэгорыя выражана 2,4 проц., другая—9,7 проц. У час перавыбараў советаў 1930—31 г. процант пазбаўлення выбарчых правоў зніжаецца. Так. у сельскіх мясцовасцях гэты процант раўняецца 2,2 а па гарадах—7,3.

Магутны рост нашай соцыялістычнай гаспадаркі выклікае ператварэнне раду катэгорый людзей, якія раней насілі на сабе цяжар старога ладу і па сваёй соцыяльна-эканамічнай сутнасці адносіліся да групы тых, каму пролетарская дзяржава не магла даць адказныя палітычныя правы ўдзельніка совецкай выбарчай сістэмы.

Далучэнне гэтых катэгорый людзей да грамадска-карыснай працы, пры ўмове, калі яны, займаючыся ёю на працягу пэўнага часу, даказалі гатоўнасць палітычна-сумленнага совецкага грамадзяніна выконваць патрабаванні пролетарскай дзяржавы, рашуча парвалі з ганебным мінулым,—дае магчымасць советам ставіць пытанне аб аднаўленні гэтага кола асоб у выбарчых правах.

Сярод кола пазбаўленых выбарчых правоў ёсць больш стабільныя групы, да якіх совецкая ўлада і яе прадстаўнікі падыходзяць з іншым мерывам. Да іх адносяцца паводле 71 артыкула нашай канстытуцыі асобы, якія жылі і жывуць за кошт прыбыткаў, набытых эксплаатацыяй працоўнага чалавека, якія займаліся або займаюцца служэннем рэлігійнаму культу, а таксама класава-варожыя і небяспечныя асобы, якія сваім палітычным мінулым або сучаснай шкоднай дзейнасцю самі аднеслі сябе ў лагер ворагаў рабочага класа.

У сваёй рабоце «Пролетарская рэволюцыя і рэнегат Каўцкі» Ленін паказаў, як трэба разумець сутнасць прынцыпа пазбаўлення буржуазіі і яе прыспешнікаў выбарчых правоў.

«Пазбаўленне буржуазіі выбарчых правоў не складае абавязковай і неабходнай адзнакі дыктатуры пролетарыята, і ў Расіі большэвікі, якія задоўга да Окцябра выставілі лозунг такой дыктатуры, не гаварылі раней аб пазбаўленні эксплаататараў выбарчых правоў. **Гэта** састаўная частка дыктатуры з'явілася на свет не «па плану» якой-небудзь партыі, **а вырасла** сама сабою ў ходзе барацьбы... Барацьба буржуазіі супроць советаў, нарэшце яўны ўдзел буржуазіі (ад кадэтаў да правых эс-эраў, ад Мілюкова да Керэнскага) у карнілаўшчыне,—усё гэта **падрыхтавала** фармальнае выключэнне буржуазіі з советаў» *).

Такім чынам Ленін адносіў у лагер буржуазіі не толькі саміх капіталістаў, як уласнікаў сродкаў вытворчасці, але і выражальнікаў іх эканамічных і палітычных інтарэсаў, якія на тым этапе рэволюцыі

*) Ленин. „Избранные произведения", том IV, стр. 119—120.

актыўна выступалі супроць улады советаў. Гэта палажэнне Леніна цалкам і поўнасцю павінна быць аднесена да тых, хто абараняе і ажыццяўляе справу нашых ворагаў ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы пролетарыята з рэшткамі ліквідуемых капіталістычных класаў.

У 1919 г., калі совецкая ўлада адстойвала заваёвы пролетарскай рэволюцыі ад нападаў міжнароднай буржуазіі, а меншавікі, бундаўцы і іншыя прыхвасні буржуазіі разыгрывалі ролю «чэснай» парламенцкай апазіцыі і адначасова шкодзілі пролетарыяту,—Ленін з уласцівай яму сілай правадыра рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята бязлітасна накіраваў супроць ворагаў советаў астрыё нашай канстытуцыі.

«Нас папракаюць,—гаварыў Ленін,—усе прамоўцы апазіцыі, у тым ліку і прадстаўнікі Бунда, што мы не захоўваем канстытуцыі. Я сцвярджаю, што мы канстытуцыю захоўваем найстражэйшым чынам. (Голас з ложы: «Ого!».) І хоць з той ложы, якая ў даўнейшыя часы была ложай царскай, а цяпер з'яўляецца ложай апазіцыі (смех), я чую іранічную заўвагу «Ого!»,—тым не менш я зараз гэта дакажу. (Апладысменты.) Я прачытаю вам той пункт канстытуцыі... які паказвае, што мы ва ўсёй сваёй дзейнасці канстытуцыю захоўваем. Калі на сходах, куды з'яўляліся староннікі меншавікоў і эсэраў, мне прыходзілася гаварыць аб канстытуцыі, затрудненне было ў тым, ці ёсць тэкст канстытуцыі, каб цытаваць... На даным сходзе.... мяне выручыў тав. Пятроўскі, які даў мне экземпляр брашуры пад загалоўкам «Канстытуцыя РСФСР» *).

І тав. Ленін прачытаў артыкул 23, які цалкам успрынят і канстытуцыяй БССР і ў якім выражан адкрыты класавы прынцып аховы інтарэсаў соцыялістычнай рэволюцыі і пролетарскай дзяржавы.

Гэты параграф гаворыць наступнае:

«Кіруючыся інтарэсамі рабочага класа ў цэлым, РСФСР пазбаўляе паасобных грамадзян і паасобныя групы праvoў, якія скарыстоўваюцца на шкоду інтарэсам соцыялістычнай рэволюцыі» (арт. 19 канстытуцыі БССР).

Прыведзенае абмежаванне адлюстроўвае змест упомненага вышэй палітычнага цэнза, цалкам накіраванага супроць тых, хто сваёй дзейнасцю шкодзіў і шкодзіць інтарэсам рабочага класа.

Совецкая сістэма прадстаўніцтва і наша выбарчае права, якое грунтуецца на ёй, не ведаюць ніякіх абмежаванняў, выходзячых з прызнака нацыянальнай, расавай і родавай прыналежнасці.

У радзе буржуазных краін канстытуцыі аглашаюць права ўсіх нацыянальнасцей на скарыстанне так званых палітычных свабод. Даволі напомніць арт. 109 канстытуцыі Польшчы, паводле якога «кожны грамадзянін мае права аховы сваёй народнасці, мовы і нацыянальных асаблівасцей». Гэты артыкул гучыць, як голы здзек у святле той палітыкі, якая праводзіцца польскім фашысцкім урадам у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне.

*) Ленін, том XXIV, стар. 617—618.

Аб гэтым сведчаць яркія факты голага прымусу і гвалту, якія праводзяцца польскім фашызмам у дачыненні ўкраінскіх і беларускіх працоўных.

Карэннай процілегласцю таму жудаснаму становішчу, у якім знаходзяцца працоўныя масы розных нацыянальнасцей у капіталістычных краінах, з'яўляецца магутны росквіт у нашай краіне культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

Дасягненні ў галіне соцыялістычнага нацыянальна-культурнага будаўніцтва могуць быць ілюстраваны некаторымі фактамі, якіх не ведае культура гінучага капіталізма. БССР—у мінулым заходняя акраіна царскай Расіі, край цемры і заняпаду, край царскага каланізатарства і яўрэйскай «чарты аседласці»—ператварылася ў перадавую соцыялістычную рэспубліку.

У той час, калі ў Заходняй Беларусі працоўныя беларусы не маюць магчымасці развіваць сваю культуру, Совецкая Беларусь ператварылася ў краіну суцэльнай граматнасці з шырока развітою сеткай навучальных і розных культурных устаноў. У дарэволюцыйныя часы на Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, а зараз іх колькасць дасягнула 24-х з ахопам каля 10 тысяч студэнтаў. Колькасць розных тэхнікумаў дасягнула 100, дзе навучаецца каля 19.500 чалавек. БССР першай у Совецкім саюзе ўвяла ўсеагульнае навучанне.

Акрамя таго, у рэзультаце ўздыму народнай гаспадаркі БССР і агромнага росту нацыянальна-культурнага будаўніцтва быў створан новы цэнтр пролетарскай навукі ў БССР—Акадэмія Навук, якая мае велізарнае значэнне ў соцыялістычным будаўніцтве нашай краіны.

Працоўныя розных нацыянальнасцей, што жывуць на тэрыторыі БССР, маюць поўную магчымасць атрымліваць асвету на сваёй роднай мове і свабодна карыстацца ёю ў грамадскім жыцці і дзяржаўным будаўніцтве.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б рабочы клас і ўсе працоўныя БССР ідуць па шляху паслядоўнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі, даючы рашучы адпор праявам беларускага нацыяналізма—галоўнай небяспекі на даным этапе ва ўмовах БССР, вылазкам вялікадзяржаўнага шавінізма, не паслабляючы барацьбы з іншымі мясцовымі нацыяналізмамі розных колераў.

Брацкае адзінства працоўных розных нацыянальнасцей ярка адлюстравана ў нашай канстытуцыі, якая дае шырокія магчымасці для развіцця нацыянальнай культуры працоўных, што насяляюць нашу рэспубліку. Гэта адзінства цалкам характарызуе совецкую выбарчую сістэму, пабудаваную на прынцыпе інтэрнацыяналізма і максімальнага выяўлення ўсіх сіл народаў, у мінулым прыгнечаных капіталістычнай эксплаатацыяй.

У артыкуле 20 нашай канстытуцыі сказана:

> «БССР на грунце поўнага знішчажэння нацыянальнага ўціску забяспечвае свабоднае эканамічнае і культурнае развіццё і палепшанне добрабыту працоўных усіх нацыянальнасцей, якія ў ёй жывуць, і арганізуе шырокі ўдзел іх у соцыялістычным будаўніцтве праз Советы Рабочых, Сялянскіх Чырвонаармейскіх Дэпутатаў».

Адначасова сацыялістычная дзяржава для большага ўцягвання працоўных нацыянальных меншасцей нашай краіны ў сацыялістычнае будаўніцтва дае ім правы арганізацыі **нацыянальных саветаў** у мясцовасцях, «дзе,—як гаворыць канстытуцыя,—працоўныя той ці іншай нацыянальнасці складаюць большасць насельніцтва».

Прынцып інтэрнацыяналізма, якім прасякнута савецкая выбарчая сістэма, уключае ў сябе не толькі грамадзян Савецкага саюза, але і іншаземных працоўных, якія пражываюць у СССР і сваім брацкім удзелам у сацыялістычным будаўніцтве дапамагаюць узмацняць дыктатуру пралетарыята.

Артыкул 17 канстытуцыі БССР гаворыць:

> «БССР, грунтуючыся на салідарнасці працоўных усіх нацый, дае на падставе пастаноў найвышэйшых органаў СССР усе палітычныя правы іншаземцам, пражываючым на тэрыторыі БССР для працоўных занятках і належачым да рабочага класа, а таксама сялянства, якое не карыстаецца чужой працай».

Гэты прынцып выражан у артыкуле 9 інструкцыі Саюза ССР аб выбарах у саветы і лёг у аснову артыкула 16 выбарчай інструкцыі нашай рэспублікі.

Наша дзяржава дае выбарчыя правы не толькі рабочым і працоўным сялянам іншаземцам, але таксама і іншым катэгорыям працоўных, якія прыбылі з-за мяжы і сваёй работай у СССР даказалі поўную лаяльнасць к нашай пралетарскай дзяржаве.

Савецкая ўлада не дапускае ні малейшага скажэння тых прынцыпаў, якія пакладзены ў аснову нашай канстытуцыі і выражаюць яе інтэрнацыянальны змест.

Прынцып інтэрнацыяналізма, максімальнага выяўлення і ажыццяўлення інтарэсаў разнастайных нацыянальнасцей адлюстраван не толькі ў сістэме нізавых савецкіх органаў, але характарызуе змест работы ўсіх вярхоўных органаў Савецкага саюза. Няма і не было ў свеце такой краіны, дзе органы прадстаўніцтва ствараліся-б з такім максімальным выяўленнем запатрабаванняў усіх вялікіх і малых, высокаразвітых і адсталых нацый і народнасцей. Уся шматмільённая працоўная маса прыгнечаных пры царызме народаў мае поўную магчымасць пры савецкай уладзе ажыццяўляць агульную справу будаўніцтва сацыялізма.

Стварэнне ў саставе Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР па ініцыятыве тав. Сталіна Савета нацыянальнасцей забяспечвае ўжо на працягу больш дзесяці год самае рэальнае супрацоўніцтва прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей праз практычнае ажыццяўленне імі ў вярхоўных органах СССР задач развіцця ўсіх нацыянальных тэрытарыяльных утварэнняў. Гэта дае магчымасць працоўным розных нацыянальнасцей прыняць яшчэ больш актыўны ўдзел у магутным уздыме ўсіх творчых сіл СССР. Такая форма сацыялістычнага супрацоўніцтва шматлікіх народаў Вялікага Саюза завяршае пабудову савецкай выбарчай сістэмы.

Звыш 90 мільёнаў працоўных Савецкага саюза ў справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў 1934 года, карыстаючыся адказнымі палітычнымі правамі савецкіх грамадзян, будуць дэманстраваць сваю адданасць справе сацыялізма.

Выбары новага складу саветаў гарадоў і вёсак нашай вялікай радзімы павінны быць цяснейшым чынам звязаны з падвядзеннем вы

нікаў перамог, дасягнутых ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Але гэтыя выбары павінны быць адначасова скарыстаны для яшчэ большай мабілізацыі ўсіх працоўных на перамаганне цяжкасцей соцыялістычнага росту, на канчатковую ліквідацыю рэштак капіталізма, на яшчэ большае ўмацаванне абароназдольнасці нашай краіны, на большэвіцкае выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных задач другой пяцігодкі.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе правадыра т. Сталіна гарадскія і сельскія советы дабіліся вялікіх поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Пад сцягам ленінскай партыі советы на аснове яшчэ больш магутнага ўздыму творчай волі пролетарыята і ўсіх працоўных завершаць гістарычную справу пабудовы соцыялізма.

---

**С. Т. Міллер**
**Сакратар Бабруйскага РК КП(б)Б**

# Перабудова партработы—аснова масавага прыліву ў калгасы

„У канечным выніку ўсе пытанні—пасеўная кампанія, уборачная, загатоўкі, жывёлагадоўля, уся культурная работа і дарогі—усё ў канечным выніку будзе залежаць ад таго, у якой меры будуць развівацца, умацоўвацца нашы калгасы—асноўная наша апора на вёсцы". **(Кіраў)**

У калгасы Бабруйскага раёна за апошні час улілося каля 2200 гаспадарак, а за час з XVII з'езда партыі—больш 3000. К часу XVII партз'езда процант калектывізацыі складаў 32,1 зараз мы маем ужо звыш 60 процантаў.

### Дакыя аб развіцці калектывізацыі ў раёне

Прыняўшы за 100 проц. 17000 гаспадарак, г. зн. тую іх колькасць, якая пры адпаведнай масавай рабоце павінна быць уцягнута ў калгасы, атрымаем наступны малюнак развіцця калектывізацыі ў раёне:

| Год | Колькасць калгасаў | Кольк. гаспадарак у калгасах | Колькасць двароў на адзін калгас | Процант калектывізацыі | Рост калектывізацыі ў параўнанні з папярэднімі гадамі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1926-27 | 12 | 102 | 8,5 | 0,60 | — |
| 1927-28 | 15 | 148 | 9,9 | 0,87 | + 0,27 |
| 1929 | 23 | 212 | 9,2 | 1,25 | + 0,38 |
| 1930 (на 1\|I) | 50 | 1518 | 30,36 | 8,93 | + 7,68 |
| 1931 | 147 | 4944 | 33,7 | 29,1 | + 20,17 |
| 1932 | 136 | 3773 | 28,0 | 22,2 | — 6,9 |
| 1933 | 162 | 5464 | 33,7 | 32,14 | + 9,94 |
| 1934 г. (увесну) | 167 | 6382 | 38,2 | 37,54 | + 5,4 (за час вясенняй сяўбы) |
| 1934 (к 15\|IX) | 175 | 8582 | 50,6 | 50,5 | +13,0 (за 8 мес. рост на 18,4%) |
| (к 1/XI) | 175 | 10710 | 61,2 | 63 | +12,5 (за 2 апошнія м-цы) |

З табліцы відаць, што з 1926 г. па 1929 г. процант калектывізацыі вырас толькі на 0,56 і складае каля 1,25. Пры чым калгасы яшчэ вельмі маленькія. Толькі з 1930 г. і галоўным чынам з 1931 г. тэмпы калектывізацыі пачынаюць узмацняцца і адначасова ідзе працэс узбуйнення калгасаў за кошт новага прыліву. У сярэднім на адзін калгас прыпадае ўжо па 33,7 двароў. У 1932 г. крывая калектывізацыі зніжаецца на 6,9 проц.

У 1933 годзе арганізуецца новых 26 калгасаў. У новыя і старыя калгасы ўліваецца 1691 гаспадарка, процант калектывізацыі на гэты год падымаецца на 8,9. Да XVII партз'езда ў калгасах раёна налічвалася 5464 гаспадаркі, што складала 32,1 проц. За 1932 і 1933 гады процант калектывізацыі вырас толькі на 3,4.

Гэтыя даныя гавораць аб тым, што процант калектывізацыі ў Бабруйскім раёне застаўся даволі нізкім нават у гады бурнага росту калектывізацыі па ўсёй краіне.

Бабруйскі раён вельмі адстаў ад тэмпаў росту калектывізацыі ў рэспубліцы. Нават уздым калектывізацыі ў 1931 г. не змог выраўнаць раён з рэспублікай, а адлў у 1932 г. яшчэ больш знізіў і без таго нізкі процант калектывізацыі.

Зусім відавочна, што гэта не магло не адбіцца на рабоце ўсяго раёна і ў першую чаргу на развіцці сельскай гаспадаркі, жывёлагадоўлі і асабліва на конскім пагалоўі. Толькі за адзін 1933 год конскае пагалоўе ў раёне зменшылася больш як на 1300 галоў.

Такім чынам, па асноўнаму пытанню, па пытанню аб калектывізацыі, раён, не гледзячы на тое, што з паасобнымі кампаніямі спраўляўся не кепска, заставаўся адстаючым у рэспубліцы: 32,1 проц. калектывізацыі.

Не гледзячы на нізкі процант калектывізацыі, калгасы раёна сталі моцнай апорай партыі і ўрада на вёсцы, калгасны рух умацаваўся. Вясеннюю сяўбу калгасы раёна закончылі сёлета на месяц раней леташняй. К 30 жніўня выканалі гадавы план хлебазагатовак. Калгасы зоны МТС к 5 верасня выканалі план натураплаты, а к 17 верасня—гадавы план паставак бульбы дзяржаве.

Такім чынам, калгасы з года ў год усё больш большэвізуюцца, а калгаснікі ўсё мацней становяцца на шлях заможнага жыцця. Калгаснікі ў гэтым годзе атрымаюць на працадзень амаль у два разы больш леташняга. У калгасе „Чырвоны партызан № 3", Мышкаўскага с.-с., на працадзень прыпадае па 8,5 *кгр.* зернавых, па 21,6 *кгр.* бульбы, 2,8 *кгр.* гародніны. Калгаснік-ударнік гэтага калгаса, Беляўскі Лаўрэн, атрымае 350 пудоў хлеба, 750 пуд. бульбы, 112,5 пуд. гародніны, ільнавалакна і інш. прадуктаў. У калгасе „Новае жыццё", Капусцінскага с.-с., на працадзень прыпадае па 5,7 *кгр.* зернавых, 22 *кгр.* бульбы і 8 *кгр.* гародніны.

З года ў год растуць капіталаўкладанні ў калгаснае будаўніцтва. За апошні год павялічылася калгаснае стада. Укормленасць коней сярэдняя і вышэй сярэдняй. Калгас „Новае жыццё", Капусцінскага с.-с. і іншыя, у якіх нехапае цягавай сілы, прыступілі да закупкі коней. Большасць бескароўных калгаснікаў надзелена цялятамі.

## Прычыны адставання раёна ў калектывізацыі

Аналіз прычын адставання раёна ў калектывізацыі гаворыць аб тым, што ніякіх аб'ектыўных перашкод ў параўнанні з іншымі раёнамі БССР Бабруйскі раён немае. Адставанне раёна крыецца толькі ў нашых улас-

ных памылках, у нашых недахопах і галоўным чынам у адсутнасці сістэматычнай глыбокай масавай работы сярод аднаасобнікаў. Нашы партыйныя арганізацыі па-кампанейску падыходзілі да вырашэння пытання калектывізацыі. Надзвычай слаба выкарыстоўваліся лепшыя людзі калгаса для разгортвання масавай работы ў вёсцы. Рэдка практыкаваліся агульныя сходы калгаснікаў і аднаасобнікаў, на якіх калгас рабіў-бы справаздачу аб сваёй рабоце. Дасягненні калгасаў і калгаснікаў слаба папулярызаваліся ў масах аднаасобнікаў. У прыватнасці не выкарыстоўваўся ў нашай агітацыі такі магутны сродак, як растлумачэнне аднаасобнікам усіх пераваг, якія прадстаўляюцца калгаснікам законамі аб абавязковых пастаўках, аб сельска-гаспадарчым налогу, аб самаабкладанні, страхаванні і інш.

Не магла не зрабіць уплыву і вялікая заблытанасць у землекарыстанні калгасаў раёна, памылкі ў зямельнай палітыцы.

У радзе выпадкаў на калгасны двор прыпадае менш зямлі, чым на аднаасобны.

Возьмем для прыкладу тры сельсоветы, каб параўнаць землекарыстанне калгасаў і аднаасобнага сектара.

| Сельсоветы | Процант калектывіз. | Колькасць двароў | | Агульная колькасць зямлі | | Сярэдняя норма на двор | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | калгасных | аднаасобных | калгаснай | аднаасобн. | калгасны | аднаасобны |
| Паўлавіцкі . . . . . | 35,0 | 245 | 448 | 1167 | 3225 | 4,7 | 5,0 |
| Берасвёўскі · . . . | 26,9 | 99 | 268 | 428 | 1339 | 4,3 | 4,99 |
| Хімаўскі.. . . . . | 11,6 | 114 | 864 | 388 | 3631 | 3,4 | 4,1 |

Падобныя факты ёсць і ў іншых сельсоветах.

Асноўныя прычыны—самацёк у надзяленні зямлёй. Пры прылівах калгасу адводзілася зямля па памятках уступіўшых аднаасобнікаў, а ўся астатняя, у тым ліку і скрытая зямля, заставалася ў карыстанні аднаасобнікаў, не ўступіўшых у калгас. Такім чынам, з кожным прылівам павялічвалася колькасць зямлі на аднаасобны двор. У адной толькі вёсцы Пятровічы, Гарбацэвіцкага с.-с., было выяўлена 130 *га* скрытай зямлі. Рад выпадкаў укрыцця зямлі выяўлен у Мышкоўскім і Каменскім сельсоветах. Усё гэта затрымлівала калектывізацыю і прыводзіла да скажэння лініі партыі ў налагавой палітыцы.

Возьмем такія факты.

У Продвінскім с.-с., дзе многа заможных гаспадарак, толькі адна кулацкая абкладзена была індывідуальна. У некаторых паселішчах Продвінскага сельсовета процант індывідуальных гаспадарак, якія плацяць налогі па стаўках калгаснікаў, даходзіць да 43. У вёсцы Кабылічы, гэтага-ж сельсовета, дзве індывідуальныя гаспадаркі, не плаціўшыя ніякіх налогаў, па ўступленні ў калгас адразу-ж былі абкладзены налогам, прычым з іх пачалі спаганяць і такія налогі, ад якіх яны як калгаснікі павінны быць аслабанёны.

Інструктар райкома не так даўно выявіў, што ў вёсцы Канчаны, Каменскага с.-с., раскулачаны Крук Дзямян, за якім не лічыцца ніякай гаспадаркі, мае 2 конныя малацілкі, якія ён пусціў па вёсках. Даходы

гэтага кулака не абкладзены, не кажучы ўжо пра тое, што з гэтым новым відам кулацкай эксплаатацыі не вядзецца частяком ніякай барацьбы. Кан'юнктурныя даходы ў радзе выпадкаў не абкладваліся. Не скарыстоўваецца і закон пра абкладанне падаткам у падвойным размеры сабатажнікаў, не выконваючых сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

У Любоніцкім с.-с., на 96 аслабанёных ад налогу гаспадарак прыпадае 92 аднаасобныя і толькі 4 калгасныя. У Капусцінскім с.-с. частка аднаасобнікаў плоціць менш налогу, чым калгаснікі. Да кожнага калгасніка даведзена сума налогу ў 29 руб., тым часам дзесяткі аднаасобных двароў, як кулакі Фядотаў Нікіта і Чумакоў Давід плоцяць толькі па 29 руб. і менш.

Так скрыўлялася лінія партыі ў зямельнай і фінансавай палітыцы. Некаторая частка аднаасобнікаў, выкарыстоўваючы ліберальныя адносіны нашых паасобных совецкіх органаў да тых, хто не выконвае сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, стала на шлях сабатажа мерапрыемстваў совецкай улады па абавязковых пастаўках. Толькі ў 1933 годзе аднаасобны сектар не дадаў дзяржаве больш 1 мільёна літраў малака, значную колькасць хлеба, мяса і бульбы.

Усё гэта затрымлівала рост калектывізацыі ў раёне, чаму спрыяла таксама і перакладванне выключна на калгасы раду грамадскіх павіннасцей: дарожнае будаўніцтва, падвозка дроў для школ і інш.

Вялікім тормазам калектывізацыі служаць яшчэ нявыжытыя, нездаровыя, падчас кулацкія настроі ў некаторых калгасах: неабгрунтаваныя адмаўленні ў прыёме ў калгас аднаасобнікаў, незаконныя выключэнні з калгасаў. У калгасе „Чырвоны араты“, Гарадзецкага с.-с., доўгі час марынаваліся 20 заяў аднаасобнікаў. Праўленне калгаса „Усход“, Мышкаўскага с.-с., адмовіла аднаасобніку ў прыёме толькі таму, што ў яго хворы конь. Калгас „Кострычы“, Любоніцкага с.-с, адмовіўся прыняць аднаасобніка, у якога не хапала 16 *кгр* насення хоць ён і абавязаўся іх зараз-жа аддаць.

Да ўсяго трэба дадаць яшчэ засмечанасць каманднага складу раду калгасаў. У праўленнях рэвізійных камісій некаторых калгасаў заселі варожыя кулацкія элементы, якія вядуць разлагаючую работу (калгас „Молатава“, Капусцінскага с.-с., „Чырвоная цёса“, Машкаўскага с.-с.). Адміністраванне ўнутры калгаса, ігнараванне праўлення і агульных сходаў калгаснікаў, палітыка штрафаў часта замяняюць масава-выхаваўчую работу сярод калгаснікаў.

І, нарэшце, адна не з апошніх прычын, якія сільна затрымліваюць рост калектывізацыі, гэта—склад членаў сельсовета. Возьмем два сельсоветы: Капусцінскі і Мальеўскі. У першым з іх на 23 члены сельсовета прыпадае 17 аднаасобнікаў, з якіх 14 чалавек з'яўляюцца членамі сельсовета ад 2-х да 6 год. У Мальеўскім сельсовеце на 21 члена сельсовета—12 аднаасобнікаў, з іх двое вышлі з калгаса і адзін выключаны. Такі-ж малюнак у Рымавецкім і іншых сельсоветах. З 32 двароў у Старцах—18 увайшлі ў калгас, сам-жа член сельсовета застаўся аднаасобнікам.

У многіх выпадках члены сельсовета аднаасобнікі выкарыстоўвалі сваё становішча дзеля асабістых выгад. Яны выігрывалі ад кожнага прыліву. Пры перадзелах зямлі забіралі для сябе і сваякоў самыя лепшыя ўчасткі. Для іх стала выгадна заставацца членам сельсовета—аднаасобнікам. Асабістым прыкладам яны ўплывалі на ход калекты-

візацыі. Пасада члена сельсовета часта разглядалася не як ганаровая грамадская нагрузка, а як нейкая павіннасць, якую павінен адбыць аднаасобнік, што апашляе само званне члена сельсовета.

Мы мелі рад фактаў, калі асобы, выключаныя з калгаса за антыкалгасную работу, заставаліся членамі сельсовета. Сцепановіч Іван, член Рымавецкага сельсовета, вышаў з калгаса і жаніўся на дачцы кулака, але ніхто не знайшоў патрэбным вывесці яго са складу членаў сельсовета.

Трэба сказаць, што нашы партыйныя арганізацыі і совецкія органы на месцах вялі недастатковую барацьбу як з засмечанасцю калгасаў, так і з агітацыяй класавага ворага.

У вёсцы Стасеўка, Продвінскага с.-с., кулакі **Бокі** і **Асацкі** усімі мерамі стараліся запалохаць аднаасобнікаў і спыніць прыліў у калгасы. Яны распаўсюджвалі чуткі, што японцы занялі Владзівасток, што хутка прыдуць палякі і пачнуць вешаць калгаснікаў. Нельга не адзначыць работы кулацкіх элементаў у апошні час на базары ў самым Бабруйску. Калгаснік **Сакалоўскі Сцяпан** з вёскі Стасеўка расказваў, што да яго на базары падышоў селянін і прасіў прадаць хлеб. Назваўшыся калгаснікам з Мальеўскага сельсовета, селянін заявіў, што МТС забрала ў іх калгасе 2000 пудоў хлеба, не пакінуўшы нічога на працадні, што калгаснікам прыдзецца галадаць цэлы год. На базары-ж кулацкія элементы пачалі распаўсюджваць чуткі, што ў Падрэцкім і Казуліцкім сельсоветах пачаўся вялікі адліў з калгасаў і т. д., тым часам як усё гэта брахня і кулацкі паклёп.

Так, выкарыстоўваючы слабасць нашай масавай работы, рознымі шляхамі вядуць сваю агітацыю кулацкія элементы.

## Перабудова партыйнай работы і прылііў у калгасы

Перабудоўваючы партыйную работу ў вёсцы, мы ў першую чаргу сканцэнтравалі сваю ўвагу на наступным. Улічваючы слабасць партыйнай праслойкі ў вёсцы, слабую палітычную падрыхтаванасць вясковых комуністаў, іх раскіданасць, паставілі пытанне аб ажыўленні партыйнай работы ў вёсцы, аб павышэнні ідэалагічнага ўзроўню вясковых комуністаў, аб узмацненні вёскі комуністамі горада. З горада яшчэ да вясенняй сяўбы былі пасланы на сталую адказную работу каля 10 комуністаў у якасці старшынь сельсоветаў, калгасаў і парторгаў. Акрамя інструктароў пасланы былі на вёску спецыяльныя прапагандысты для дапамогі інструктарам у пастаноўцы партыйнай вучобы, для работы з беспартыйным актывам.

Паколькі рашаючую ролю на вёсцы адыгрывае комуніст-адзіночка і парторг, мы пачалі сістэматычную работу з парторгамі, арганізавалі іх вучобу. Партыйнае жыццё на вёсцы ажывілі куставыя сходы комуністаў, да якіх прымацаваны адказныя працаўнікі з горада. Сходы гэтыя праводзяцца акуратна два разы ў месяц. Яны садзейнічалі ўзмацненню партыйнай дысцыпліны, павышэнню палітычнага ўзроўню партыйцаў, зрабілі ўплыў і на ўзмацненне масавай работы як ў калгасах, так і сярод аднаасобнікаў. Пачынаюць уваходзіць у сістэму такія метады работы з калгасным актывам як палітдні і вытворчыя нарады. За апошні час ажывіўся калгасны друк, работа секцый сельсоветаў, узмацнілася работа з упаўнаважанымі дзесяцідворак.

Рэарганізавана была і шэфская работа. Раней шэфы прымацоўваліся да сельсоветаў. Прымацаванне шэфаў да паасобных калгасаў дало свае рэзультаты. Рад шэфскіх арганізацый, як камбінат, элек-

трастанцыя, швейпромсаюз і інш., аказваюць сістэматычную канкрэтную дапамогу сваім падшэфным калгасам.

Ва ўсёй сістэме перабудовы партыйна-масавай работы выключная роля належыць інструктару райкома. Аб гэтым выразна сведчыць вопыт работы т. Сарока і іншых інструктароў. Інструктары згуртавалі вясковы актыў, павысілі якасць партыйна-масавай работы. Райком сістэматычна кіруе работай інструктара. Два разы ў месяц інструктары абавязкова ўдзельнічаюць па паседжаннях бюро райкома. Пасля бюро праводзіцца інструктарскі дзень. На апошнім дні стаялі наступныя пытанні: падрыхтоўка да рабселькораўскага з'езда і работа нізавога друку, пытанні партыйна-масавай работы, работа з парторгамі, падрыхтоўка да асенне-зімовай вучобы, план работы на бліжэйшыя два тыдні, масавая работа ў сувязі з закупкай хлеба.

Прапрацоўка гэтых пытанняў, выступленні інструктароў з паказам сваёй работы вядуць к багатаму абмену вопытам.

На інструктарскіх днях даюцца таксама кансультацыі па тэарэтычных пытаннях (палітэканомія, гісторыя партыі), прапрацоўваюцца рашэнні ЦК партыі.

Уся гэта сума мерапрыемстваў па перабудове партыйна-масавай работы дала нам магчымасць, апіраючыся на калгасны актыў, рухаць уперад калектывізацыю раёна.

Разгортваючы падрыхтоўчую работу да вясенняй сяўбы, у барацьбе за калгасны прыліў, мы сустрэліся з радам цяжкасцей. Пад уплывам кулацкай агітацыі пачалося разбазарванне конскага пагалоўя. Райком павёў супроць гэтага рашучую барацьбу. Аднаасобныя гаспадаркі, заўважаныя ў разбазарванні сваіх коней, не прымаліся ў калгасы. Асаблівую ўвагу звярнулі на барацьбу з засмечанасцю калгасаў кулацкімі элементамі. Праведзеная ачыстка ўзмацніла калгасы і адкрыла доступ у іх бядняцка-серадняцкім слаям вёскі.

У час вясенняй сяўбы ў Старцаўскі сельсовет была выслана выязная рэдакцыя раённай газеты „Комуніст". Да пачатку яе работы сельсовет быў калектывізаваны толькі на 33 проц. Рэдакцыя разгарнула масавую работу пярвічных партыйных арганізацый, і процант калектывізацыі ўзняўся да 63, а зараз дасягае ўжо 85. Гэты прыклад паказвае, як далёка ўперад можна рушыць справу калектывізацыі правільнай пастаноўкай масавай работы. За час вясенняй сяўбы, не гледзячы на тое, што быў упушчан такі спрыяючы для разгортвання калектывізацыі момант, як кампанія размеркавання ўраджаю ў студзені, мы дабіліся даволі значных поспехаў. У калгасы раёна ўлілося 1068 гаспадарак. Калектывізацыя, улічваючы рэзультаты чысткі калгасаў, калі з калгасаў выбыла 150 гаспадарак, паднялася ўвесну на 5 проц.

Рашаючае значэнне ў нашых поспехах мела своечасовае ўказанне ЦК КП(б)Б аб рабоце сярод аднаасобнікаў. Разгорнутая сярод аднаасобнікаў масавая работа забяспечыла вясенні прыліў і падрыхтавала ўмовы для масавага прыліву ў час уборачнай і загатоўчай кампаній. Вясенні прыліў падняў калектывізацыю раёна толькі на 5,4 проц. На гэтым нельга было супакоіцца, і мы нанова праверылі ўсю нашу работу. Рашэнні ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні т. **Гікало** дапамаглі нам ускрыць памылкі як у галіне зямельнай, так і ў галіне фінансавай палітыкі, рад промахаў у нашай масавай рабоце. Каб рушыць справу калектывізацыі ўперад, нам прышлося пачаць з выпраўлення ўсіх гэтых памылак.

Асабліва ўважліва, пераглядзелі мы метады масавай работы ў калгасах і сярод аднаасобнікаў, сканцэнтраваўшы галоўную ўвагу на рабоце з калгасным актывам. У калгасах, дзе нашы парторгі справіліся са сваёй задачай,—арганізавалі актыў для сістэматычнай работы сярод аднаасобнікаў.

Не пазбаўлены цікавасці некаторыя метады, прымененыя намі ў масавай рабоце.

Возьмем Продвінскі сельсовет, які адставаў ва ўсіх кампаніях, амаль ніколі не выходзіў з чорнай дошкі, а зараз пачаў даваць узоры ўдарнай работы, першым у раёне выканаў на 130 проц. план сіласавання і зернапаставак, дабіўся калектыўнай закладкі сілосных ям аднаасобнікамі.

У вёсцы Стасеўка было звыш 200 двароў. Калгас „На варце", які знаходзіцца ў гэтай вёсцы, меў толькі 33 гаспадаркі. Калгас зусім было адарваўся ад масы аднаасобнікаў. Пад кіраўніцтвам інструктара райкома т. Сарокі пярвічная партыйная арганізацыя пачала сістэматычна працаваць з актывам, з якім прапрацоўваліся ўсе бягучыя пытанні партыйнай палітыкі. Работа з калгасным актывам стала асноўным метадам. Актыў не замкнуўся ў сабе, а паставіў акрэсленую задачу: зацікавіць аднаасобніка працай калгаса, ладзіць з ім, растлумачыць усе перавагі калгаснага жыцця, дапамагчы працоўнаму аднаасобніку стаць на калгасны шлях.

Адзін з лепшых актывістаў калгаса „На варце" **Борбут Васіль**, які ўцягнуў у калгас некалькі дзесяткаў аднаасобных гаспадарак, гаворыць:

> „Я сам поўнасцю перамяніў свае погляды на аднаасобніка; ён стаў маім другам. У вольны ад работы час я пачаў наведваць сваіх суседзяў аднаасобнікаў. Перада мною была адна мэта—дапамагчы ім стаць на калгасны шлях, парваць з аднаасобным жыццём. Я не агітаваў агульнымі словамі, а проста расказваў, як жыву ў калгасе і што выйграюць яны ад уступлення ў калгас".

Так працавалі сярод аднаасобнікаў дзесяткі іншых калгаснікаў, палітычна вырасшых у рэзультаце праведзенай з імі работы. **Тав.** Сарока разам з парторгам калгаса „На варце" т. Пінчуком пры актыўным удзеле калгаснай трохдзёнкі арганізавалі з лепшых калгасных актывістаў некалькі брыгад, так званых „чырвоных сватоў". На агульным сходзе 22 жніўня „чырвоныя сваты" абавязаліся завербаваць у калгас па некалькі аднаасобных гаспадарак. Паміж „сватамі" разгарнулася гарачае спаборніцтва. Упаўнаважаны дзесяцідворкі **Арэх** Іван уцягнуў у калгас 7 гаспадарак сваёй дзесяцідворкі, Борбут Васіль—27 гаспадарак.

Лепшыя калгаснікі зразумелі, што іх задача—работа сярод аднаасобнікаў. У гэтым—глыбокае палітычнае значэнне спаборніцтва, разгорнутага актывам.

Нельга не адзначыць выключную арганізатарскую ролю ў гэтай рабоце калгаснай газеты „На варце". Яна паказвала дасягненні калгасаў і калгаснікаў, выкрывала кулацкія махінацыі розных контррэвалюцыйных элементаў, якія стараліся запалохаць калгаснікаў, арганізавала спецыяльную дошку гонару, на якую заносіла ўсіх перадавых калгаснікаў, узначаліла спаборніцтва паміж „чырвонымі сватамі", дапамагла выхаваць новыя кадры энтузіястаў барацьбы за калектывізацыю.

Па ініцыятыве газеты і парторга т. Пінчука створаны былі спецыяльныя агітбрыгады. Агітбрыгада ў складзе парторга калгаса і некалькіх калгасных актывістаў, накіроўваючыся на самы адстаючы ўчастак вёскі Стасеўка, узяла з сабою гармонік, бубны, і з музыкай, спевамі прашла вёску. Потым кожны з удзельнікаў брыгады пачаў работу сярод пэўнай групы аднаасобнікаў, што дало бліскучыя рэзультаты.

Вялікай увагі заслугоўваюць так званыя агітпаходы, якія шырока прывіліся ў Продвінскім, Брожскім і Казуліцкім сельсоветах. З вялікім уздымам прашоў агітпаход у вёсцы Орсічы, Брожскага сельсовета. Ініцыятар агітпахода—калгасная трохдзёнка.

Вось як апісваецца адзін з такіх паходаў:

> „Увечары 13 верасня к памяшканню праўлення пачалі збірацца лепшыя людзі калгаса: „чырвоныя сваты“, калгасніки-ўдарнікі, вучні. Пад гукі гармоніка з лозунгамі, плакатамі, заклікаючымі да ўступлення ў калгас, калона рушыла па вёсцы. У руках дзяцей плакаты: „Мы патрабуем ад нашых бацькоў уступлення ў калгас“ „13 верасня адзначым суцэльнай калектывізацыяй вёскі Орсічы“. Агітбрыгада прыступіла да работы. „Чырвоныя сваты“ накіраваліся да застаўшыхся яшчэ 19 аднаасобнікаў, каб правесці з імі гутарку. Кожнае прозвішча новаўступаючага ў калгас гучна абвяшчаецца на ўсю вёску. Тут-жа праводзіцца невялікі мітынг“.

Агітпаход завяршыў сабою цэлы рад масавых мерапрыемстваў, разгорнутых у гэтай вёсцы. У рэзультаце ўсе 136 гаспадарак увашлі ў калгас.

У Падрэцкім і Казуліцкім сельсоветах у барацьбу за прыліў, акрамя калгаснага актыва, уключыліся ўпаўнаважаныя дзесяцідворак, члены секцый сельсоветаў, актыў жанчын калгасніц, школьнікі, работнікі кааперацыі і інш. Брыгада „чырвоных сватоў“ (калгас „3-ці з'езд советаў“, Казуліцкага с/с.), складзеная з 3-х калгасніц-ударніц—**Чарапухі Еўдакіі, Комар і Падаляк Арыны**—завербавала 11 гаспадарак. **Габрусь Максім** з калгаса „Комінтэрн“, Казуліцкага с-с., з брыгадай „чырвоных сватоў“ уцягнуў у калгас 80 гаспадарак. Член сельсовета **Лагойка Ларывон** уцягнуў у калгас увесь свой участак—30 гаспадарак.

Можна спыніцца яшчэ на адным масавым мерапрыемстве—палітмасоўках. Праведзеныя ў калгасе „Комінтэрн“, Казуліцкага с-с., і ў Падрэцкім сельсовеце палітмасоўкі ператварыліся ў калгасныя святы. Удзельнікі палітмасоўкі ў Казуліцкім с-с. парашылі паслаць у дапамогу Любаніцкаму с-с. буксірную брыгаду з лепшых калгаснікаў.

Уся гэта масавая работа выклікала вялікі ўздым у саміх калгасах і вялікую цягу ў калгасы аднаасобнікаў. У Падрэцкім с-с. за жнівень у калгасы ўлілася 371 гаспадарка, у Казуліцкім—385, у Любаніцкім—105. Пяць сельсоветаў далі прыліў звыш 1200 гаспадарак. Новаўступіўшыя засеялі ўжо разам з калгасамі азімы клін.

Характэрна для гэтага прыліву вялікая цяга аднаасобнікаў у старыя, ужо ўзмацніўшыяся калгасы. Новых калгасаў арганізавалася мала. Сільна выраслі за гэты час многія старыя калгасы: „На варце“, Продзінскага с-с., з 33 гаспадарак вырас да 160, „Комінтэрн“, Казуліцкага с-с., з 90 гаспадарак вырас да 245, „Новае жыццё“, гэтага-ж с-с., з 85—да 275 гаспадарак.

У раёне да гэтага прыліву толькі ў Варатынскім с-с. (зона дзейнасці МТС) было звыш 70 проц. калектывізацыі. Зараз мы маем 5 сельсоветаў з працэнтам калектывізацыі ад 70 да 85. Такім чынам большая палова гаспадарак новага прыліву прыпадае толькі на 5 сельсоветаў. Гэта гаворыць аб тым, што многія пярвічныя партыйныя арганізацыі далёка яшчэ не перабудавалі сваю работу з калгасным і совецкім актывам.

Слабым звяном у нашай партыйнай рабоце застаецца парторг, які набывае цяпер агромнае значэнне. Ад таго, як ён паставіць работу з актывам, як здолее спаяць яго, арганізаваць на ажыццяўленне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам, у значнай меры будзе залежаць далейшы прыліў у калгасы.

Для таго, каб парторг мог справіцца з гэтымі задачамі, неабходна ўзняць яго ідэалагічны і палітычны ўзровень на больш высокую ступень. Таму правільная арганізацыя і разгортванне асенне-зімовай вучобы набывае зараз асабліва значэнне. Па раёну мы разгортваем цэлую сець гурткоў. Райком вылучае спецыяльную групу пазаштатных інструктароў, якія павінны не менш 8 дзён у месяц прабыць на вёсцы для работы з актывам і комуністамі. Два разы ў месяц будзем праводзіць дзень парторга для кансультацыі па тэарэтычных і палітычных пытаннях, прапрацоўкі рашэнняў партыі, абмену вопытам.

Падняўшы ролю і значэнне парторга, паставіўшы на належную вышыню партыйную вучобу комуністаў, наладзіўшы штодзенную работу з беспартыйным актывам, нам удасца па-ўдарнаму завяршыць сельска-гаспадарчы год, арганізаваць закупку хлеба, падрыхтаваць сытую зімоўку для жывёлы. Перад намі і рад задач па ўмацаванню прыліву ў калгасы.

Пытанні гаспадарча-арганізацыйнага ўмацавання калгасаў набываюць зараз вялікае значэнне, асабліва калі ўлічыць, што многія з іх за час прыліву сільна выраслі і налічваюць ад 200 да 275 гаспадарак. У гэтых калгасах трэба пераварыць новы прыліў, прарабіць агромную работу па перавыхаванню новага калгасніка—учарайшага аднаасобніка, забяспечыць дружную работу старых і новых калгаснікаў. Дасягнуць гэта можна толькі шляхам вырошчвання моцнага калгаснага актыва, арганізацыі працы ў калгасах, правільнай арганізацыі калгасных брыгад. Асабліва значэнне мае работа са старшынямі калгасаў і брыгадзірамі. Галоўнае-ж—не супакоіцца на дасягнутых поспехах, а ісці ўперад, ведучы няўтомную барацьбу з на троямі самаз аволенасці, самасупакоенасці. А такія настроі ёсць у Старцаўскім сельсовеце, кіраўнікі якога лічаць, што пасля вялікага прыліву можна і ўздыхнуць спакойна. Гэта самасупакоенасць прывяла к таму, што ў калгасе „Качэрычы“ злачынна запушчан улік працадзён, пры размеркаванні авансаў дапушчана была кулацкая ўраўнілаўка.

У некаторых новых калгасах адчуваюцца ўжо розныя антыдзяржаўныя тэндэнцыі: мы, моў, цяпер калгаснікі і можам некаторыя абавязацельствы не выконваць. Гэта антыкалгасная дзейнасць кулацкіх элементаў выражаецца часам у шкодніцкіх актах: пасеў нядобраякасным насеннем і інш. У вёсцы Камароза, Баравіцкага с.-с., кулакі пусцілі чуткі, што калгаснікі „Новага жыцця“, Капусцінскага с.-с., сёлета нічога не атрымаюць на працадзень і што частка іх ужо вышла з калгаса. Прыстасоўваючыся да новых умоў, класавы вораг мяняе метады сваёй шкодніцкай работы. Каб своечасова іх ускрываць, неабходна бальшэвіцкая пільнасць.

У гэтых умовах асабліва важна ўзброіць комуністаў марксісцка-ленінскай тэорыяй, наладзіць работу з актывам, узмацніць масавую работу сярод аднаасобнікаў па ўсяму раёну, асабліва там, дзе прыліў быў слабы. Гэта дапаможа стварыць сапраўды масавы прыліў у раёне, зробіць гэту зіму рашаючай у пэратварэнні нашага раёна з адсталага ў перадавы па калектывізацыі.

Партыйная арганізацыя Бабруйскага раёна гэту задачу вырашыць, узмацніўшы партыйна-масавую работу, арганізаваўшы сістэматычную работу з парторгамі, з калгасным і вясковым актывам, выпраўляючы ўсе дапушчаныя скажэнні ў падатковай і зямельнай палітыцы, гаспадарча-арганізацыйна ўмацоўваючы калгасы, арганізуючы масы на барацьбу за своечасовае выкананне ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

---

**В. Кірылаў**

Нач. палітаддзела
Оршанскага чыг. раёна

# Асенне-зімовыя перавозкі—важнейшая задача транспарта

Асенне-зімовыя перавозкі—найбольш адказны і напружаны перыяд у рабоце чыгуначнага транспарта. Трэба выканаць велізарны дзяржаўны план перавозкі грузаў сельскай гаспадаркі і прамысловасці.

Малейшае недавыкананне плана, перабоі ў перавозках цягнуць за сабою парушэнні і зрыў своечасовага і планавага забяспечання соцыялістычнай прамысловасці неабходнай сыравінай, абсталяваннем; новабудоўляў—будматэр'яламі; прамысловых цэнтраў—прадуктамі сельскай гаспадаркі, а апошняй—неабходнымі сельска-гаспадарчымі машынамі, мінеральным угнаеннем і т. д. Зрыў дастаўкі тавараў з месца вытворчасці да спажыўца ў сваю чаргу прыводзіць да зрыву выканання вытворчых планаў паасобных прадпрыемстваў і народнай гаспадаркі ў цэлым.

Транспарт—адзін з адказнейшых участкаў, ад работы якога ў значнай меры залежыць далейшае паспяховае эканамічнае развіццё нашай краіны.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе нашай партыі падкрэсліў, што

> «транспарт з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спаткнуцца, ды, бадай, ужо спатыкаецца ўся наша эканоміка і, перш за ўсё, наш таваразварот».

Чыгуначнікі, а ў першую чаргу комуністы, беспартыйныя актывісты, кіраўнікі транспарта, партыйныя і совецкія арганізацыі, ні на мінуту не павінны забываць гэтага ўказання правадыра.

Транспарт мае ўсе ўмовы і магчымасці выканаць устаноўлены партыяй і ўрадам план перавозак. Няўстаннай увагаю партыі і асабіста т. Сталіна значна ўзмоцнена матэр'яльна-тэхнічная база транспарта, нізавое звяно ўмацавана інжынерна-тэхнічнымі і кіруючымі кадрамі, паляпшаюцца матэр'яльна-бытавыя ўмовы чыгуначнікаў, транспарт атрымаў моцнае палітычнае кіраўніцтва ў асобе палітаддзелаў і парторгаў станцый, дэпо і дыстанцый.

Такім чынам усе ўмовы ў наяўнасці. Справа толькі ў чэснай і добрасумленнай рабоце чыгуначнікаў, у актыўным выкананні імі сваіх абавязкаў, выходзячы з пастаўленых партыяй і ўрадам задач. Аднак, гэтага якраз і не хапае ў рабоце паасобных участкаў чыгуначнага

транспарта, паасобных чыгуначнікаў. Палітаддзелы павінны прышчапіць ім пачуццё адказнасці за выкананне дзяржаўнага плана перавозак.

«Задача палітаддзелаў заключаецца ў тым, каб забяспечыць на аснове пераконання, мерамі арганізацыйнага і ідэйнапалітычнага ўздзеяння стварэнне на чыгуначным транспарце «свядомай, жалезнай дысцыпліны» (Ленін), новага магутнага ўздыму соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, падняць усю партыйна-палітычную работу, работу сярод рабочых і служачых чыгуначнікаў, на вышэйшы ўзровень» (з пастановы ЦК ВКП(б) аб палітаддзелах).

Вакол гэтых асноўных задач і сканцэнтравана ўвага палітаддзела Оршанскага эксплаатацыйнага аддзялення.

Умацоўваючы партзвяно ў змене, цэху, брыгадзе, палітаддзел разгарнуў зараз работу па ідэйна-палітычнаму выхаванню комуністаў і беспартыйнага актыва.

Пры папярэднім азнаямленні з палітпадрыхтоўкаю кожнага комуніста выявілася палітычная няграматнасць паасобных таварышоў. У значнай меры вінаваты ў гэтым партарганізацыя і сам палітаддзел, бо ў мінулым годзе партыйная асвета на паасобных прадпрыемствах з-за дрэннага кіраўніцтва была фактычна сарвана.

Леташнія памылкі цяпер выпраўлены. Усе комуністы, спачуваючыя, комсамольцы ўцягнуты ў сетку партасветы. Разгорнута спаборніцтва паміж партарганізацыямі на лепшую якасць партыйнай вучобы. «Праз разгорнутае ідэйна-палітычнае выхаванне ўмацаваць вытворчыя паказчыкі»—пад такім лозунгам праводзіць палітаддзел партасветную работу.

Для начальнікаў і дзяжурных па станцыі, дыспетчараў створаны семінары паліт. і тэх. вучобы, якія спрыяюць пашырэнню грамадскапалітычнага кругагляду і садзейнічаюць палепшанню вытворчай работы.

Так. Кагановіч на XVII партз'ездзе аб рабоце палітаддзелаў чыгуначнага транспарта сказаў:

«Трэба абаперціся на лепшых людзей—ударнікаў транспарта—і перамога будзе забяспечана».

Жывыя людзі, лепшыя ўдарнікі—вось хто вырашае поспех дзяржаўнага плана перавозак.

Палітмасавая работа, праведзеная ў сувязі з усесаюзным спаборніцтвам станцый, дала оршанскаму аддзяленню дзесяткі лепшых ударнікаў сталінскага прызыва. Яны не толькі самі добра працуюць, але і перадаюць адстаючым свой багаты вытворчы вопыт.

Саставіцель **Канстанціновіч**, сігналісты **Гумінскі** і **Іванькович**, стрэлачнік **Холін**, грузчык **Кірык** і **Савіцкі**. машыністы **Янкулеў**, **Стануліс**, **Клімкоўскі**, **Малашко**, брыгадзір **Падабед**, слесар **Жолудзеў**, электраманцёры **Радома** і **Жолудзеў**, галоўны кандуктар **Куцеро** ўзнагароджаны паліткіраўніцтвам НКПС ганароваю ўзнагародай—значком «Ударніка сталінскага прызыва».

Партарганізацыя павінна множыць вопыт гэтых лепшых людзей аддзялення, выхоўваць дзесяткі і сотні новых ударнікаў сталінскага прызыва.

З важнейшых мерапрыемстваў сапраўднай арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва на транспарце трэба адзначыць сістэматычную пра-

верку таго, як кожны рабочы выконвае ўзятыя на сябе соцабавязацельствы. З гэтаю мэтай на радзе станцый створаны намі праверачныя брыгады са значкістаў і лепшых ударнікаў. Станцыя Менск, напр., правярала работу ст. Віцебск і Смаленск; ст. Орша-ўсходняя правярала работу ст. Вязьма і т. д.

Разгорнутая партыйна-масавая работа, барацьба за заваёву першынства ва ўсесаюзным спаборніцтве на лепшую станцыю дапамаглі выканаць у асноўным вытворчыя паказчыкі за верасень.

Пагрузка—107,2 проц., рабочы парк вагонаў—100,5 проц., следаванне паяздоў па раскладу—77,3 проц., камерцыйная хуткасць—99,2 проц., прастой транзітных вагонаў—103 проц., прастой пад грузавымі аперацыямі—95,5 проц., зварот вагона—94 проц.

Лепшымі ў выкананні ўсіх умоў усесаюзнага спаборніцтва з'яўляюцца станцыі: Менск-таварная і Негарэлае.

Паводле ацэнкі кіраўніцтва дарогі, Оршанскае аддзяленне стаіць на першым месцы МББ чыгункі. Але гэта значыць, што мы дабіліся толькі першых поспехаў і па сутнасці з'яўляемся лепшым з дрэнных аддзяленняў дарогі, паколькі МББ у цэлым працуе яшчэ дрэнна. Тым часам сярод паасобных гаспадарнікаў і партыйных работнікаў чуюцца ноткі благадушша, самасупакоенасці. Але рана яшчэ гаварыць, што мы ўжо перадавое аддзяленне, бо працуем пакуль што дрэнна. Канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва, так рэзка асуджаныя партыяй і ўрадам, намі канчаткова не зжыты і тармозяць большэвіцкую перабудову транспарта.

З пададзеных лічбаў відаць, што асноўныя паказчыкі—следванне паяздоў па раскладу, камерцыйную хуткасць, прастой вагонаў пад грузавымі аперацыямі, зварот вагона,—выконваем надзвычай дрэнна.

За адзначаны перыяд было 107 выпадкаў затрымкі паяздоў па віне чыгуначнікаў, з іх—3 здарэнні, 7 выпадкаў негатоўнасці састава, 9 затрымак з-за манеўровай работы, пагрузкі і выгрузкі. Усё гэта зрывала правільны рух паяздоў. Паасобныя комуністы і комсамольцы не падаюць узораў жалезнай працоўнай дысцыпліны, а паказваюць прыклад разгільдзяйства і расхлябанасці (Стульбо, Антонаў, Каўчун, Бурко і інш.).

Асноўнай прычынай невыканання транспартам заданняў, як на гэта зусім правільна ўказалі на апошняй эксплаатацыйнай нарадзе тт. Кагановіч, Андрэеў і Зімні, з'яўляецца наша няўменне скарыстаць агромныя ўнутраныя рэзервы, якія мае ў сваім распараджэнні транспарт. Марудны зварот і вялікія прастоі вагонаў на вузлавых і асабліва прамежных станцыях, дрэнная маршрутызацыя і спецыялізацыя паяздоў, неўпарадкаванасць пагрузкі і выгрузкі і т. д.—вось у чым трэба шукаць прычын дрэннай работы.

Нашы рэзервы невычэрпны, але канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва паасобных звенняў тармозяць поўнае іх скарыстанне. З гэтым злом трэба весці бязлітасную барацьбу.

Аб наяўнасці вялікіх рэзерваў на транспарце ў цэлым і ва ўмовах нашага аддзялення сведчыць цэлы рад фактаў з практычнай работы.

Па ініцыятыве лепшых ударнікаў ст. Менск-таварная—грузчыкаў тт. Пабішчэнскага, Тарлоўскага і інш., начальніка станцыі т. Фралова—уведзена так званая «фабрычная камерцыйная марка». Сэнс яе ў наступным: да вагоннага ліста кожнага гружанага вагона дадаецца невялікая паперка ўстаноўленага ўзору з указаннем прозвішча грузчыкаў і весаўшчыкоў, зрабіўшых пагрузку. Станцыя прызначэння, атры-

маўшы вагон і выявіўшы дэфекты (няправільная вага, пакоўка, укладка, няспраўнасць пломбы, нескарыстанне грузапад'ёмнасці вагона і т. д.), адзначае іх на адваротным баку маркі і накіроўвае яе ў Менск, дзе да канкрэтных віноўнікаў прымаюцца меры.

Гэта, здавалася-б, на першы погляд, невялікае мерапрыемства, дало выключны эфект. Сярод грузчыкаў і весаўшчыкоў разгарнулася шырокае спаборніцтва за гонар сваёй маркі. Камерцыйны брак на станцыі амаль ліквідаваны. Павялічылася скарыстанне грузапад'ёмнасці вагона. Канкрэтна: калі да ўвядзення маркі грузілася ў 16,5 тонны вагон 253 яшчыкі соды, то зараз грузіцца 302 яшчыкі, войлаку—адпаведна—39 і 46 цюкаў, вяровак—66 і 68 цюкаў, цукерак—360 і 408 яшчыкаў, пячэння—178 і 251 месца і т. д.

Вопыт Менска падхоплен іншымі станцыямі аддзялення. Грузчыкі ст. Орша-ўсходняя тт. Рожанскі, Гольдберг, Марковіч, Цэйтлін, Банк і Ерухімовіч, якія грузяць лён для экспарта і ўнутранага спажывання, прапанавалі базе Заготлён новы метад прасоўкі лёну, што на 10 кіп павысіла пагрузку на кожны вагон экспартнага лёну і на 7 кіп—для ўнутранага рынку. Эканомія пры новым метадзе—1 вагон на кожныя 8 вагонаў пагрузкі ільнапрадукцыі. Белканторы Заготлён і Экспартлён шырока рэкамендуюць гэты метад.

Брыгада грузчыкаў тав. Іванова (ст. Барысаў), прымяніўшы ў сябе камерцыйную марку, грузіць у 16-тонны вагон замест 305 яшчыкаў запалак—385.

Гэтыя факты не з'яўляюцца нечым новым, а толькі сведчаць аб тым, колькі ў нас яшчэ нескарыстаных магчымасцей, аб тым, што правільная ўпакоўка грузаў і рацыянальнае скарыстанне танажа даюць нам новыя дзесяткі вагонаў рэзерва.

Вялікае па свайму значэнню мерапрыемства праводзіць зараз аддзяленне для паскорання звароту вагонаў.

Зборныя паязды хадзілі ў няпэўны час, без цвёрдага графіка. Станцыі, атрымаўшы вагоны для пагрузкі і не ведаючы, калі яны будуць узяты, планавалі сваю пагрузку як ім хацелася. У рэзультаце план зрываўся, вагоны прастойвалі.

Старшы дыспетчар нашага аддзялення т. Маёраў унёс прапанову, падтрыманую лепшымі ўдарнікамі-дыспетчарамі і рабочымі, увесці цвёрды графік зборных паяздоў, максімальна выкарыстаць усе прыгарадныя паязды для выкідкі са станцыі груженых і парожніх вагонаў. Кіраўніцтва аддзялення адобрыла гэта мерапрыемства і ўвяло такі графік з 15 кастрычніка.

Гэта перш за ўсё дысцыплінуе станцыю, бо вызначаюцца для пагрузкі і выгрузкі жорсткія тэрміны, у каторыя станцыя і кліентура павінны базагаворачна ўлажыцца. За першыя пяць дзён работы па графіку прастой вагонаў па аддзяленню знізіўся ў сярэднім на 4 гадзіны, а паасобныя станцыі дабіліся выдатнага эфекта: Осінаўка знізіла прастоі на 6 гадзін, Бурбін—12 гадз., Смаляны—10 гадз. і т. д. Прастой вагонаў у сярэднім за месяц па аддзяленню павінен быць зніжан мінімальна на 2 гадзіны, што пры перапрацоўцы 500 вагонаў у дзень дае эканомію ў 1 000 вагона-гадзін, або дадатковы разэрв да 50 вагонаў у суткі для перавозкі дзяржаўных грузаў. Атрыманы эфект гаворыць за тое, што гэта мерапрыемства павінны падтрымаць і прымяніць астатнія ўчасткі чыгуначнага транспарта.

У сувязі з гэтым мерапрыемствам уведзена зменнае планаванне сярод дыспетчараў, што дае магчымасць павысіць адказнасць кожнага

дыспетчара за выкананне плана і паднять якасць дыспетчарскага камандвання.

Такім чынам, мы маем поўную падставу сказаць, што пры максімальным скарыстанні ўсіх унутраных рэсурсаў, павышэнні якасці эксплаатацыйнай работы Оршанскае аддзяленне можа і павінна працаваць нязмерна лепш. Задача партыйных, прафсаюзных і гаспадарчых арганізацый, усіх чыгуначнікаў аддзялення—шырока распаўсюдзіць вопыт лепшых станцый і паасобных ударнікаў, падцягваць адстаючых, падняць новую хвалю спаборніцтва аз пяршынства.

Адна з актуальнейшых нашых задач—гэта падрыхтоўка ўсіх звенняў транспарта к зіме, асабліва паравознай, вагоннай і пуцёвай гаспадаркі. Зіма—найбольш напружаны перыяд работы чыгункі. Оршанскае дэпо, уключыўшыся ва ўсесаюзнае спаборніцтва паравознікаў, дабілася таго, што рад паравозаў атрымаў пашпарты гатоўнасці к зіме, паказвае ўзоры работы і забяспечыць нам бесперапынны рух паяздоў («СУ» 97—69—маш. **Клімавіцкі, Стануліс;** 98—79—маш. **Міронаў, Алексееў;** 97—89—**Янкулеў, Данейко;** Щ470—**Бурый, Шэбеко Н.** і інш.). Дасягненні паасобных брыгад трэба замацаваць і зрабіць іх набыткам усіх паравознікаў.

Вузкае месца нашай вагоннай гаспадаркі—абменныя пункты. Яны ў значнай меры лімітуюць работу аддзялення ў цэлым. Асноўная хвароба абменных пунктаў—антыдзяржаўныя тэндэнцыі, суцяжніцтва паміж Зах. і МББ дарогамі, што спрыяе дрэннаму рамонту праходзячых вагонаў, «спіхванню» хворых вагонаў з адной дарогі на другую. Нядаўна брыгада паравознікаў праверыла стан вагонаў, адпраўляемых станцыяй Орша-Ўсходняя і ўскрыла, што многія вагоны ідуць з дэфектамі. З такой антыдзяржаўнай практыкай трэба пакончыць. На абменных пунктах можна і трэба добра рамантаваць вагоны. Гэта даказала на сваёй практыцы змена брыгадзіра-значкіста т. Гумінскага, якая працуе на абменным пункце ст. Орша-заходняя. Змена па-сапраўднаму змагаецца за якасць работы, знішчае няспраўнасці, зніжае прыплату на вагон за нявыкананы рамонт.

СНК і ЦК у сваёй апошняй пастанове аб пуцёвай гаспадарцы прызналі, што тэмпы і асабліва якасць рамонту і ўпарадкавання пуцёвай гаспадаркі нездавальняючыя. Гэту ацэнку цалкам заслужыла і наша аддзяленне.

Найгоршая якасць рамонту пуці на 7-й Барысаўскай дыстанцыі, дзе выяўлен цэлы рад буйных дэфектаў. На 6-й Оршанскай дыстанцыі зусім нездавальняюча выконваецца праграма будаўніцтва і асабліва рамонту рабочых кватэр. Даволі ўказаць хоць-бы на той факт, што Оршанскі вакзал будуецца ўжо трэці год. Бюракраты з кіраўніцтва дарогі і дыстанцыі пуці знаходзяць дзесяткі аб'ектыўных прычын у апраўданне сваёй бяздзейнасці.

Па вопыту мінулага года зараз арганізавана масавая праверка гатоўнасці пуцёвай гаспадаркі к зіме. У праверцы ўдзельнічаюць не толькі пуцейцы, але і рабочыя шэфствуючых прадпрыемстваў, калгаснікі, а таксама машыністы, вагоннікі і эксплаатацыйнікі. Па Барысаўскай дыстанцыі, напрыклад, брыгады выявілі рад няспраўнасцей і дрэнную якасць рамонту.

Снежныя заносы—біч транспарта. З вопыту мы ведаем, што пры дрэннай падрыхтоўцы да барацьбы са снегам парушаецца нармальны рух паяздоў. Снежнай стыхіі павінна быць процінастаўлена бальшэвіцкая арганізаванасць. Вялікую дапамогу павінны аказаць нам кал-

гасы. Па ініцыятыве паасобных калгасаў («Маяк соцыялізма», Барысаўскага раёна, «Парыжская комуна», Оршанскага раёна і інш.) разгарнулася заключэнне соцдагавароў з бліжэйшымі ачалодкамі пуці на дапамогу ў снегабарацьбе.

Задача партарганізацыі пуці—па-большэвіцку выканаць рашэнне СНК і ЦК аб пуцёвай гаспадарцы: высокаякасна падрыхтавацца к зіме, мабілізаваць усе сродкі для барацьбы са снежнымі заносамі.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б і асабіста т. Гікало ўдзяляюць вялікую ўвагу рабоце нашага аддзялення. Партыйныя, совецкія, гаспадарчыя арганізацыі Менскага, Барысаўскага, Оршанскага, Лепельскага раёнаў аказалі не малую матар'яльную і культурную дапамогу сваім станцыям. Старшыня Барысаўскага горсовета т. Скакун узнагароджан паліткіраўніцтвам НКПС «Значком ўдарніка сталінскага прызыва».

Але трэба прама сказаць, што дапамога транспарту ўвесь час ішла, галоўным чынам, па лініі матар'яльнай, і ў некаторых таварышоў склалася думка, што толькі ў гэтым і павінна заключацца наша сувязь з горсоветамі і РВК. Такая думка глыбока памылкова. Зараз ва ўсю шырыню трэба паставіць пытанне аб тым, каб побач з матар'яльнаю дапамогай, якая павінна быць яшчэ больш узмоцнена, шэфы дапамагалі транспарту і ў правядзенні масавай, культурнай работы: арганізавалі перадачу багатага вопыту партыйна-масавай работы прадпрыемстваў горада—транспарту, дапамаглі комуністам і беспартыйным актывістам чыгуначнікам падняць свой ідэйна-палітычны ўзровень.

Чыгуначнікі Оршанскага аддзялення змагаюцца за першынства на права рапарта т. Сталіну, VII усесаюзнаму і XI усебеларускаму з'ездам советаў у ажыццяўленне ўказанняў партыі і ўрада.

Пад кіраўніцтвам партыі, нашага любімага і вялікага правадыра тав. Сталіна чыгуначны транспарт павінен стаць і стане ўзорнай галіной соцыялістычнай гаспадаркі.

---

С. Анціпенко

# Усебеларускі з'езд рабселькораў — справа ўсіх партарганізацый

Большэвіцкі друк у руках нашай партыі—**самая вострая, самая моцная зброя.**

„Пры дапамозе друку партыя штодзенна, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове" (Сталін).

Неадʼемным, адзіным цэлым з нашым большэвіцкім друкам зʼяўляецца яго армія рабселькораў—**камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі.**

Партыя наша заўсёды аддавала выключную ўвагу друку і рабселькорам. Яшчэ ў 1923 г. на XII зʼездзе ВКП(б) **тав. Сталін** у сваім заключным слове гаварыў:

„Я хацеў-бы звярнуць асаблівую ўвагу зʼезда на тое, каб друк быў узняты на адпаведную вышыню. Ён ідзе ўперад, ён далёка шагнуў уперад, але не ў такой ступені, як гэта патрэбна. Друк павінен расці не па днях, а па гадзінах, гэта—самая вострая і самая моцная зброя нашай партыі".

З таго часу друк наш многа **вырас**, стаў яшчэ вастрэйшым і мацнейшым. Але задача пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, пастаўленая перад усімі намі XVII зʼездам ВКП(б), патрабуе ад нашага большэвіцкага друку далейшага якаснага росту. Адказная роля ў гэтай справе належыць рабселькорам.

Аб рабселькорах тав. Сталін яшчэ ў 1925 г. на паседжанні оргбюро ЦК ВКП(б) сказаў:

„Я думаю, што мы дашлі да таго перыяда, калі адным з асноўных рычагоў у справе выпраўлення нашай будаўнічай работы ў вёсцы, у справе выяўлення нашых недахопаў, а, стала быць, выпраўлення і палепшання совецкай работы, могуць стаць рабкоры і селькоры. Мы, можа быць, не ўсе гэта разумеем, але для мяне ясна, што з гэтага іменна канца павінна пачацца палепшанне нашай работы. Гэтыя людзі ўразлівыя, яны гараць іскраю праўды, жадаюць аблічаць, перагібаюць часам палку, жадаюць выправіць ва што-б там ні стала нашы недахопы, не баючыся куль—вось гэтыя людзі, па-мойму, павінны саставіць адзін з асноўных рычагоў выяўлення нашых недахопаў у выпраўленні нашай партыйнай і совецкай будаўнічай работы на месцах".

За пройдзены перыяд у корані змянілася ўся наша вялікая савецкая краіна. З аграрнай яна стала індустрыяльнай. З краіны дробных аднаасобных сельскіх гаспадарак наш Совецкі саюз і яго неадлучная частка—Совецкая Беларусь—ператварыліся ў краіну буйнай калектыўнай механізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны цёмнай і няграматнай Совецкі саюз становіцца краінай граматнай і культурнай.

Асабліва вялікія змены ў бок гіганцкага росту адбыліся за гэты перыяд у горадзе і ў вёсцы Совецкай Беларусі, дзякуючы правільнаму ажыццяўленню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Совецкі саюз стаў моцна і канчаткова індустрыяльнай краінай. Калгасы сталі пануючай формай сельскай гаспадаркі, а калгаснік цяпер—цэнтральная фігура на вёсцы. Соцыялістычны грамадска-эканамічны ўклад з'яўляецца зараз непадзельна пануючай і адзінай камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Задачы, пастаўленыя XVII з'ездам ВКП(б), ва многа раз павялічваюць ролю большэвіцкага друку і рабселькораў у нашай барацьбе за пабудору бясkласавага соцыялістычнага грамадства.

Улічваючы вялікую ролю друку і рабселькораў у барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, Цэнтральны Камітэт КП(б)Б яшчэ 20 ліпеня г. г. прыняў пастанову аб скліканні ў канцы 1934 г. III Усебеларускага з'езда рабселькораў і рэдактароў насценгазет прадпрыемстваў, соўгасаў, калгасаў і МТС.

ЦК КП(б)Б у гэтай пастанове падкрэсліў, што **справа падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў, ёсць справа ўсёй КП(б)Б, справа ўсіх партыйных арганізацый БССР.**

Цэнтральны Камітэт у тым-жа рашэнні вызначыў наступныя пытанні павесткі дня з'езда:

1. Вынікі барацьбы за выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

2. Задачы друку ў галіне кіраўніцтва рабселькорамі і рэагаванне на лісты працоўных.

3. Вынікі 1934 сельска-гаспадарчага года і пытанні ўздыму жывёлагадоўлі.

4. Задачы рабселькораў у барацьбе за якасныя і колькасныя паказчыкі ў выкананні промфінплана.

На з'ездзе будуць працаваць секцыі: па лёну і канаплях; па жывёлагадоўлі; па соўгасах; па прамысловасці і па транспарту.

Адзін пералік гэтых пунктаў праграмы работ з'езда рабселькораў, рэдактароў нізавых газет сведчыць аб яго асабліва вялікім палітычным значэнні. З'езд падагуліць агромную работу, праробленую рабселькорамі БССР пад кіраўніцтвам нашай партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Ён мабілізуе армію рабселькораў на далейшае выкананне грандыёзных задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

За апошнія два гады, з часу II Усебеларускага з'езда рабселькораў, шырока вырасла сетка раённых, палітаддзельскіх і фабрычна-заводскіх друкаваных газет. У 1932 годзе ў БССР выходзіла 209 друкаваных газет, а на 1 студзеня 1934 г. — 293. За адзін толькі першы год другой пяцігодкі колькасць друкаваных газет вырасла ў нашай рэспубліцы амаль на 50 процантаў. Ужо гэтыя дзве лічбы

ярка характарызуюць тыя культурныя і гаспадарча-палітычныя працэсы, што адбываюцца ў нашай краіне.

У даваенны перыяд на тэрыторыі сучаснай Беларусі выходзіла ўсяго 12 друкаваных газет. Гэта былі, уласна кажучы, чорнасоценна-манархічныя лісткі і некалькі папоўскіх і губернскіх „ведамасцей". Такім быў друк у дарэвалюцыйнай Беларусі—калоніі царскага самаўладства, краіне ўбогай і жабрацкай, цёмнай і няграматнай, з саматужнай прамысловасцю і адсталай сельскай гаспадаркай.

Окцябрская рэволюцыя ператварыла Беларусь пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, у краіну індустрыі. у краіну соўгасаў і алгасаў, у краіну суцэльнай граматнасці. Замест 12 буржуазна-памешчыцкіх газет—зброі эксплаатацыі і абману працоўных дарэволюцыйнай Беларусі—наша Совецкая Беларусь мае каля 300 друкаваных газет і звыш 12 тысяч насценных газет, якія ў руках нашай партыі з'яўляюцца большэвіцкімі калектыўнымі прапагандыстамі, агітатарамі і арганізатарамі мас на барацьбу за пабудову соцыялістычнага грамадства.

У нас газета—сталы друг на кватэры рабочага і работніцы, на даму ў калгасніка і калгасніцы. У нас рабселькор—гэта той-жа рабочы і калгаснік-ударнік, які не толькі чытае сваю газету, але і піша ў яе, падмацоўваючы сваё вострае пяро прыкладам самаадданай ударнай работы на вытворчасці.

Разам з нашым большэвіцкім друкам расла і армія рабселькораў. Іх зараз звыш 40 тысяч. Гэтыя тысячы людзей трэба вучыць, дапамагаць у іх асабліва важнай рабоце. Тав. Сталін у гутарцы з супрацоўнікам „Рабочего корреспондента" гаварыў:

> „Асноўнае заключаецца ў тым, каб рабочыя і сельскія карэспандэнты навучаліся ў ходзе сваёй работы і выпрацоўвалі ў сябе тое чуццё журналіста-грамадчыка, без якога карэспандэнт не можа выканаць сваю місію".

У выпрацоўцы гэтага чуцця „журналіста-грамадчыка" рабселькору патрэбна дапамога не толькі рэдакцыі газеты, у якую ён піша, але і дапамога сваёй партарганізацыі.

За апошнія чатыры месяцы ў парадку падрыхтоўкі да III Усебеларускага з'езда рабселькораў рад партарганізацый разгарнулі пры газетах работу семінараў, курсаў і школ для актыва рабселькораў і рэдактароў насценгазет. Праўда, гэтыя курсы і семінары носяць яшчэ саматужны характар. Нярэдка напамінаюць сабою проста аднадзенныя, двухдзенныя зборы перад тою ці іншай кампаніяй. Аднак, нельга прыніжаць значэння і гэтай работы. Цяперашняя сетка семінараў і курсаў пры заводскіх, палітаддзельскіх, раённых і некаторых рэспубліканскіх газетах адыгрывае вялікую дадатную ролю ў выпрацоўцы ў рабселькора і рэдактара насценкі навыкаў і чуцця журналіста-грамадчыка. Каштоўнасць нават аднадзенных, або двудзенных семінараў заключаецца і ў тым, што яны фактычна з'яўляюцца першай ступенню для разгортвання больш сталай і фундаментальнай вучобы рабселькораў.

На віцебскай фабрыцы **„Сцяг індустрыялізацыі"** партком разам з рэдкалегіяй шматтыражкі спачатку арганізавалі для рабкораў і рэдактароў цэхавых газет аднадзенныя і двудзенныя семінары, праз якія па чарзе прапускаліся рабкоры і рэдактары насценак групамі па 15—20 чал. А зараз на ўвесь зімні перыяд арганізавана школа, у якой

рабкоры навучаюцца пэўнаму мінімуму тэхнікі журналістыкі. Зараз ставіцца пыт нне аб адчыненні пры гэтай фабрыцы вячэрняга КІЖ'а.

Рэдакц я газеты „Віцебскі пролетарый" арганізавала спецыяльны кабінет друку, у якім рабкор заўсёды можа знайсці не толькі патрэбную л таратуру, журналы, газеты, але і атрымаць кансультацыю, парады як пісаць, прац ваць і т. д.

ЦО ЦК КП(б)Б—газета „Звязда" арганізавала для рабселькораў і работнікаў нізовых газет спачатку месячныя курсы, а зараз тэрмін навучання на гэтых курсах даведзен да 4-х месяцаў і праграма з удзелам КІЖ а пабудавана так, каб даць пэўны мінімум ведаў, неабходных для кваліфікаванага карэспандэнта большэвіцкага друку.

З дапамогай Менгаркома КП(б)Б партарганізацыі буйных заводаў горада Менска таксама ствараюць зараз сталыя семінары па навучанню раб орў неабходнаму мінімуму тэхнікі журналістыкі. Такія семінары ўжо працуюць на заводах **імя Молатава**, на фабрыцы **„Окцябр"** і некаторых іншых прадпрыемствах.

У верасні і кастрычніку газетамі „Звязда" і „Рабочий" а таксама час. „Большэвіцкі друк" праведзен рад семінараў-нарад рабкораў па пэўных галінах прамысловасці: харчовыя прадпрыемствы, швейнікі, металургі і т. д.

Гэта значыць, што рад партарганізацый і рэдакцый па-дзелавому ўзяліся за ажыццяўленне аднаго з важнейшых пунктаў пастановы бюро ЦК КП(б)Б аб Усебеларускім з'ездзе рабселькораў. Цэнтральны Камітэт партыі ў сваёй пастанове аб з'ездзе абавязаў партарганізацыі

> „забяспечыць сістэматычныя заняткі рабселькораў у гуртках і семінарах пры рэдакцыях, на прадпрыемствах, у калгасах і соўгасах з тым, каб рабкоры і селькоры-ўдарнікі былі асноўнай крыніцай фармавання кадраў газетных работнікаў.

Аднак, з гэтых першых атрадных фактаў дзелавога падыходу да работы было-б няправільна рабіць вывад, што вучоба рабселькораў, выхаванне іх стала справаю ўсіх партарганізацый. Гэта далёка не так.

У большасці сельскіх раёнаў вучоба рабселькораў не арганізавана. Няма семінараў і гурткоў і ў такіх буйных раёнах, як Полацкі і Дрысенскі. Тут нават не ведаюць, хто з рабселькораў вучыцца ў партыйных, хто ў комсамольскіх палітшколах.

Праведзеная аддзелам культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б праверка падрыхтаванасці да III Усебеларускага з'езда рабселькораў устанавіла, што пастанова ЦК КП(б)Б па гэтаму пытанню радам райпартарганізацый выконваецца **нездавальняюча**. Такую ацэнку дало бюро ЦК КП(б)Б у пастанове аб падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў па Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкаўскаму раёнам:

> „...Райкомы КП(б)Б і рэдактары газет пералічаных раёнаў недаацанілі палітычнага значэння падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў і не забяспечылі выконвання ўказанняў ЦК КП(б)Б аб тым, што справа падрыхтоўкі да рабселькораўскага з'езда павінна быць справай усёй партарганізацыі".

У Пухавіцкім раёне парашылі правесці без усякай папярэдняй падрыхтоўчай работы нарады рабселькораў па кожнаму сельсовету. Зразумела, што нарады гэтыя сарваліся. У Пухавічах райком КП(б)Б прызначыў на 7 кастрычніка раённы злёт рабселькораў, зноў-такі не падрыхтаваўшыся да яго. Пра семінары, гурткі і курсы рабселькораў у Пухавічах нават і не падумалі. Лёгкадумна і безадказна аднесліся

да падрыхтоўкі з'езда не толькі райком партыі, але і рэдактар раённай газеты Панкратаў.

Аналагічнае становішча маем у Лепелі і Петрыкаве, дзе не зразумелі, што час падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў трэба было скарыстаць для ўзмацнення работы рабселькораў і нізавога друку ў галіне мабілізацыі мас на паспяховае правядзенне ўсяго аб'ёму работ 1934 года. А таму ў гэтых раёнах мелі месца спробы апашлення самой падрыхтоўкі да з'езда, спробы звесці ўсё да дэкларацыйнай пастановы райкома. Такія адносіны да з'езда рабселькораў ЦК кваліфікаваў, як бяздзейнасць, і рэдактару Пухавіцкай райгазеты тав. Панкратаву абвясціў вымову, а сакратарам райкомаў КП(б)Б і рэдактарам лепельскай і петрыкаўскай газет зрабіў указанне.

Рашэнне ЦК КП(б)Б па гэтых трох раёнах патрабуе адначасова і ад іншых райпартарганізацый—узмацніць падрыхтоўку да рабселькораўскага з'езда. Цэнтральны Камітэт партыі прапанаваў:

„усім райкомам КП(б)Б абгаварыць стан падрыхтоўкі да Ўсебеларускага з'езда рабселькораў на райкомах і прыняць меры да актывізацыі работы, мабілізуючы рабселькораў і нізавы друк на барацьбу за лепшае выкананне промфінплана і ўсіх сельскагаспадарчых кампаній“.

Каб актывізаваць работу на месцах, трэба, як гэта прапануе ЦК КП(б)Б Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкаўскаму райкомам, накіраваць у сельсоветы і калгасы ўсіх раёнаў актыў комуністаў для дапамогі ў падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў.

Бюро Віцебскага гаркома партыі ў адказ на пастанову ЦК КП(б)Б аб Усебеларускім з'ездзе рабселькораў высунула такі лозунг:

„Справа падрыхтоўкі да III Усебеларускага і раённага з'езда рабселькораў ёсць справа ўсёй віцебскай партарганізацыі, усёй пролетарскай грамадскасці“.

Віцебскі гарком партыі не абмежаваўся толькі лозунгам, але і прыняў канкрэтныя мерапрыемствы па ператварэнню яго ў жыццё, мабілізаваў усе нізавыя партарганізацыі, арганізаваў конкурс на лепшую насценгазету і лепшую шматтыражку. Зараз праводзіцца спаборніцтва рабселькораў на права ўдзелу ва Ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў. Сакратар гаркома т. **Жураўлёў** сам кіруе камісіяй па падрыхтоўцы да з'езда і па конкурсу на лепшую газету. Камісія перыядычна правярае работу партарганізацый па падрыхтоўцы іх да з'езда. У выніку віцебская партарганізацыя займае адно з першых месц па падрыхтоўцы. На адной толькі фабрыцы „Сцяг індустрыялізацыі“ 97 нізавых рэдкалегій газет і звыш 900 рабкораў прымаюць удзел у спаборніцтве на права быць дэлегатам Усебеларускага з'езда. У падрыхтоўку ўцягнуты ўвесь рабочы калектыў. Фабрыка зараз з месяца ў месяц выконвае свой промфінплан.

Арганізаваўшы і ўзначаліўшы падрыхтоўку нізавога друку і рабселькораў да Ўсебеларускага з'езда, віцебская партарганізацыя ўзмацніла баявую сілу свайго друку, рабкораў і селькораў у барацьбе супроць адставанoccasionally, за паспяховае, высокаякаснае выкананне плана. Тут справу падрыхтоўкі, да з'езда рабселькораў зрабілі справай усёй партарганізацыі, усёй пролетарскай грамадскасці.

Не тое ў Полацку і Дрысе. Полацкі райком КП(б)Б разам з палітаддзеламі МТС вынес яшчэ ў жніўні рэзалюцыю аб падрыхтоўцы да з'езда і супакоіўся. У адным з пунктаў пастановы сказана аб мабі-

лізацыі 10 комуністаў з горпартактыва для дапамогі сельскім партарганізацыям у падрыхтоўцы да з'езда, але ні адзін з „мабілізаваных" нікуды не выязджаў, і ў нізавых партарганізацыях пытанне аб з'ездзе, аб сваёй газеце і сваіх рабселькорах не абгаварвалася. У Дрысе, да прыезду прадстаўніка Культпропа ЦК, гэта пытанне таксама не абгаварвалі. У сельсоветах і калгасах гэтых раёнаў некаторыя парторгі, старшыні калгасаў і рэдактары насценгазет пра пастанову ЦК КП(б)Б аб скліканні з'езда рабселькораў зусім нічога не ведалі. У калгасе „Верны шлях", Дрысенскага раёна, у верасні зусім спыніўся выхад насценгазеты. Частка рабселькораў Дрысенскага раёна не чула аб скліканні рабселькораўскага з'езда. Газеты гэтых раёнаў „Чырвоная Полаччына" і „Звязда на рубяжы" зусім мала пішуць пра з'езды, а калі і пішуць, то адарвана ад усёй сумы гаспадарча-палітычных пытанняў, за вырашэнне якіх змагаюцца раёны пад кіраўніцтвам сваіх партарганізацый.

Рад газет, у тым ліку і цэнтральныя газеты нашай рэспублікі, адводзяць з'езду маленькі куточак, ізаляваны ад такіх пытанняў, як барацьба за лён, арганізацыя хлебазакупак, перавыбары советаў, марксісцка-ленінская вучоба і т. д. Большасць газет не ўвязвае падрыхтоўку да з'езда рабселькораў з барацьбой за чарговыя гаспадарча-палітычныя мерапрыемствы партыі і ўрада, яўна неадаацэньваючы яго мабілізуючую ролю ў паспяховым вырашэнні задач 1934 года.

Падрыхтоўку да з'езда і самы з'езд мы можам і павінны скарыстаць для ўзмацнення работы ўсяго нашага друку і яго арміі рабселькораў.

Рад газет падымаюць многа пытанняў, але не даводзяць справы да канца.

Газета „Рабочий" 5 жніўня выступіла з лістом рабселькораў фабрыкі „Пролетарская перамога" да ўсіх рабселькораў-ударнікаў БССР:

> **„Прапануем абвясціць усебеларускае спаборніцтва рабселькораў па падрыхтоўцы да з'езда".**

Высунуўшы канкрэтны баявы лозунг, „Рабочий" палічыў справу на гэтым скончанай.

Рэдакцыі газет яшчэ не ў поўнай меры ўлічылі важнасць указанняў тав. Л. М. Кагановіча аб ролі друку ў кантрольнай рабоце. Тав. Кагановіч патрабаваў, каб газеты, апіраючыся на цесную сувязь з мільёнамі рабкораў і селькораў, ва многа раз энергічней змагаліся за давядзенне да канца ўзнятых пытанняў. Мала толькі выкінуць лозунг, ці сфармуляваць сваё патрабаванне ў артыкуле. Да іх трэба яшчэ не раз варочацца, арганізаваць і правяраць выкананне. Трэба справу паставіць так, каб даводзіць яе да канца па прыкладу ЦО партыі—газеты „Правда".

> „Гэтаму нам трэба штодзенна вучыцца...—гаварыў т. Кагановіч,—у таго, хто ўмее спалучаць цвёрдыя рашэнні і праверку выканання з глыбокім разуменнем патрэб рабочых і калгаснікаў, з барацьбой супроць усіх агіднасцей і недахватаў, штодзенна вучыцца ў нашага настаўніка—таварыша Сталіна".

Сталінскі стыль работы павінны вывучаць самі газетныя работнікі і дапамагаць у гэтым рабселькорам. Многія рэдакцыі думаюць, што вучоба рабселькора поўнасцю вычэрпваецца на семінарах, курсах, злётах. Памылкова думаць, што выхаванне рабселькораў павінна праходзіць толькі ў школьным парадку. Тав. Сталін у гутарцы з

супрацоўнікам „Рабочего корреспондента“ падкрэсліваў, што рабочыя і сельскія карэспандэнты ў масе сваёй павінны навучацца „ў ходзе сваёй работы“. У гэтай рабоце рабселькоры патрабуюць дапамогі той рэдакцыі, з якою кожны з іх звязан, у якую ён піша. Рэдакцыя, як правіла, павінна сістэматычна абгаварваць са сваімі рабселькорамі план і чарговыя задачы газеты, каб яны былі ў курсе яе работы, у курсе яе практычных пачынанняў і маглі ёй дапамагчы. Чаму не разабраць з рабселькорамі праводзімую газетай кампанію па падрыхтоўцы да Ўсебеларускага з'езда рабселькораў? Чаму не разабраць, як падае газета матар'ялы аб падрыхтоўцы да з'езда, як рабселькоры аб ім пішуць? Чаму не прыцягнуць рабселькораў да складання плана газеты аб удзеле ў перавыбарах советаў, аб масавай рабоце па далейшай калектывізацыі і т. д.? Такая практыка дапаможа сустрэць рабселькораўскі з'езд лепшымі паказчыкамі ва ўсёй рабоце газеты.

Асабліва важнае значэнне для сапраўды большэвіцкай сустрэчы Ўсебеларускага з'езда рабселькораў мае ліст сакратара ЦК КП(б)Б тав. **Валковіча**, апублікаваны ў друку 15 лістапада г. г., на імя сакратароў райкомаў партыі і рэдактароў раённых і палітаддзельскіх газет:

> „Улічваючы, што раённы і нізавы друк і рабселькоры ў радзе раёнаў яшчэ не ў дастатковай меры мабілізаваліся для поўнага завяршэння бягучых гаспадарча-палітычных кампаній (закупкі хлеба, апрацоўка і здача лёну, стварэнне насенных і страхавых фондаў і т. д.) і што ў разгарнуўшайся зараз справаздачна-перавыбарчай кампаніі советаў выключную ролю і актыўнасць павінны праявіць мясцовы друк і рабселькоры,—ЦК КП(б)Б пераносіць скліканне Ўсебеларускага з'езда рабселькораў на 25 снежня г. г.“

У гэтым лісце адзначана, што на месцах падрыхтоўку да рабселькораўскага з'езда яшчэ не ўвязалі з важнейшай кампаніяй перавыбараў советаў. У перавыбарах советаў не забяспечан яшчэ дастаткова актыўны ўдзел насценнага друку і рабселькораў. Вось чаму ЦК КП(б)Б паставіў перад рэдактарамі ўсіх газет і перад усімі партарганізацыямі задачу—рашуча палепшыць удзел друку і рабселькораў у перавыбарах советаў, увязаўшы гэта з барацьбой за промфінплан, за апрацоўку і загатоўку лёну, за закупку хлеба, за засыпку насення, за калектывізацыю, за сістэматычную работу рабселькораў і рэдактароў насценгазет у семінарах, гуртках і т. д.

III Усебеларускі з'езд рабселькораў мае выключна важнае значэнне для далейшага **выхавання рабселькораў і рэдактароў нізавых газет**. Важны момант у гэтым выхаванні—паказ на старонках друку лепшых рабселькораў ўдарнікаў і лепшых рэдактароў насценгазет як па рабоце, так і па падрыхтоўцы да надыходзячага з'езда.

Выхаваўчая работа з рабселькорамі і рэдактарамі насценак ва многа раз павысіць іх актыўнасць, забяспечыць яшчэ большую сілу і аперацыйнасць нашага большэвіцкага друку. Гэтым і павінна быць прасякнута падрыхтоўка да рабселькораўскага з'езда, чаго сям-там яшчэ не разумеюць. Парторг калгаса „Чырвонаполле“, Міхееўскага с.-с., Крычаўскага раёна, тав. **Рубін**, які працуе адначасова загадчыкам міжраённай канторы Сельгасснаба ў Крычаве, ні разу не пацікавіўся калгаснай насценгазетай, ніколі не гаварыў з членамі рэдкалегіі. І вось „рэдактар“ гэтай насценкі тав. **Барасньоў** (рахункавод калгаса)

і адзін з членаў рэдкалегіі—калгаснік Агеенка—прышлі к такім вывадам.

„Насценная газета робіць толькі шкоду ў калгасе. Яна прыносіць сварку сярод калгаснікаў і асабліва сярод жанчын".

Гэты яўна антыпартыйны, антысавецкі вывад аб ролі газет у калгасе ёсць вынік **адсутнасці** партыйнага кіраўніцтва газетай і якой-бы там ні было палітычна-выхаваўчай работы з рэдкалегіяй.

Партор тав. Рубін яшчэ не зразумеў, што газета пры добрай пастаноўцы работы—самая магутная зброя ў руках большэвіка на любым участку соцбудаўніцтва і пры ўсякай абстаноўцы.

Варта прыпомніць чэлюскінскую эпапею. Пасля пагібелі „Чэлюскіна" у Чукоцкім моры, 104 чалавекі высаджваюцца на лёд. Сярод іх некалькі комуністаў. Партарганізацыя чэлюскінцаў вылучае рэдактарам тав. **Баеўскага** і арганізоўвае сваю газету „Не сдадимся", скарыстоўваючы яе як магутнейшую зброю агітатара, прапагандыста і арганізатара ў сваім калектыве на лёдзе.

Газета пад кіраўніцтвам партарганізацыі вербавала рабкораў, дапамагала ім пісаць, заклікала калектыў к стойкасці, падтрымлівала дух бадзёрасці, арганізоўвала чэлюскінцаў на падрыхтоўку да прыёму лётчыкаў і т. д.

У адной з перадавіц газета пісала:

„Мы на лёдзе, але і тут мы грамадзяне вялікага Совецкага саюза, мы і тут высока трымаем сцяг Рэспублікі Советаў. Увесь свет сочыць за намі. Пакажам-жа, як нават у такіх выключных абставінах працуюць совецкія грамадзяне пад кіраўніцтвам свайго ўрада і комуністычнай партыі".

Гэты прыклад з работы партарганізацыі бясстрашных чэлюскінцаў вельмі да-рэчы прыпомніць тым, хто яшчэ не ўяўляе дастаткова ролі нашага большэвіцкага друку, як самай моцнай і самай вострай зброі нашай партыі.

З'езд рабселькораў—камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі—набліжаецца. Задача з'езда—яшчэ вышэй узняць работу большэвіцкага друку БССР, яшчэ лепш арганізаваць рабселькораў на барацьбу за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б. З гэтай задачай пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, на чале з тав. **Гікало,** мы паспяхова справімся, **зрабіўшы падрыхтоўку да Усебеларускага з'езда рабселькораў справай усіх партарганізацый.**

---

А. Валабрынскі

# Мендэлееў і дыялектычны матэрыялізм

VII юбілейнаму мендэлееўскаму з'езду, які нядаўна закончыў сваю работу, удзялялася вялікая ўвага ўсёй совецкай грамадскасцю.

Кім быў Мендэлееў? Сказаць, што Мендэлееў быў буйным вучоным, буйнейшым у свой час хімікам у Расіі і бадай у Еўропе, сказаць так—значыць сказаць яшчэ не ўсё.

Мендэлееў належыць да тых вучоных, якія сваімі адкрыццямі незалежна ад сваіх асабістых жаданняў і сімпатый яшчэ раз пацвердзілі правільнасць дыялектычнага матэрыялізма, дыялектычнага падыходу да пазнання прыроды.

Мендэлееў быў прадстаўніком рускай маладой буржуазіі. Па сваіх палітычных поглядах ён—кроў ад крыві, плоць ад плоці свайго класа. Не гледзячы на гэта, паскольку ён глыбей унікаў у пазнанне прыроды, ён быў вымушан даказаць, наперакор свайму асабістаму жаданню, правату тых палажэнняў, аб якіх гаварылі асновапаложнікі дыялектычнага матэрыялізма.

> «Марксізм,—гаворыць Ленін,—узнік не ў баку ад сталбавой дарогі сусветнай цывілізацыі».

Усе дасягненні навукі былі ўсвоены і крытычна пераапрацаваны геніем Маркса і Энгельса, а пазней—Леніна і Сталіна. Няма ў навуцы, у чалавечым пазнанні такой галіны, якая заставалася-б у баку ад асновапаложнікаў марксізма-ленінізма. Маркс быў найвялікшым філосафам. Маркс стварыў гістарычнае вучэнне аб навуковым комунізме, Маркс быў найвялікшым эканамістам. Але веліч Маркса, Энгельса, Леніна не абмяжоўваецца гэтым. Яны даследвалі і перапрацавалі ўсе каштоўнасці чалавечай навукі. Вядомы работы Энгельса па біялогіі, фізіцы, хіміі, мовазнаўству, спецыяльныя работы Маркса па матэматыцы, і т. д.

Вось чаму ўсякае буйнае адкрыццё ў навуцы служыць у руках асновапаложнікаў марксізма-ленінізма сродкам далейшага развіцця і паглыблення нашага светапогляду. У сваім пісьме к Марксу ад 19 ліпеня 1858 года Энгельс прыводзіць усе буйнейшыя навуковыя адкрыцці свайго часу, якія пацвярджаюць правільнасць вучэння матэрыялістычнай дыялектыкі. Энгельс ўказвае на адкрыццё клеткі ў галіне біялогіі, на закон захавання энергіі Майер-Джоуля ў галіне фізікі. Да падобных найвялікшых адкрыццяў у навуцы належыць і буйнейшае адкрыццё Мендэлеева—яго перыядычны закон у сістэме элементаў.

* *

Дыялектычны матэрыялізм ёсць навука аб агульных законах развіцця прыроды, грамадства і чалавечага мышлення. Дыялектыка з'яўляецца навукай аб развіцці ў найбольш поўным, глыбокім выглядзе.

Але формы руху бываюць розныя. Найбольш простая і раней за ўсіх вывучаная форма руху ёсць механічная яго форма—перамяшчэнне матэрыяльных цел з аднаго месца прасторы ў другое. Фізіка, дакладней механіка, развівалася параўнаўча раней астатніх навук. У XVII веку, калі хімія была яшчэ ў пачатковай стадыі развіцця, а біялогія ледзь-ледзь зарадзілася, механіка ўжо стаяла на значнай вышыні і высунула такую буйнейшую велічыню, як Ньютона. У непасрэднай сувязі з развіццём механікі знаходзіцца развіццё астраноміі і часткова касмагоніі. У XVIII веку з'яўляецца вядомая тэорыя Канта аб паходжанні міроў, якая паводле слоў Энгельса «прабіла першую прабоіну ў метафізіцы».

Больш высокай формай руху ў параўнанні з механічнай з'яўляецца хімічны рух. Тут ужо справа ідзе не аб пераносе, не аб перамяшчэнні цэлых цел, а аб найглыбейшых зменах, што адбываюцца ўнутры гэтага цела, гаворачы ясней,—аб зменах, што адбываюцца ўнутры малекул данага цела.

Яшчэ больш высокімі формамі руху з'яўляецца рух біялагічны, мышленне, як форма руху высокаарганізаванай матэрыі і рух грамадскі.

Гаворачы аб Мендэлееве, галоўная ўвага накіроўваецца ў бок пазнання хімічнага руху. Вось чаму мы зараз больш грунтоўна спынімся на ім.

* * *

Назіранні за хімічнымі зменамі матэрыяльных цел мелі месца ўжо ў даўнейшыя часы. Але адна справа—назіранні, а другая—правільнае разуменне і пазнанне назіраемых фактаў. Ужо алхімікі накаплялі многа фактаў аб хімічных зменах, і не толькі пасіўна назіралі, але і самі выклікалі і стваралі іх.

Як-жа глядзелі яны на прыроду гэтых змен, на прыроду хімічных рэакцый?

Для алхімікаў хімічная рэакцыя азначала знішчэнне адной матэрыі і стварэнне другой. Мысль аб стварэнні аднаго з другога адсутнічала. Словы вялікага грэцкага матэрыяліста Дэмакрыта, што «нічога не паходзіць з нічога», былі пазабыты.

> «У той час,—піша вядомы гісторык хіміі Мейер,—панавала цвёрдае пераконанне, што стварэнне новага хімічнага злучэння азначае знішчэнне першапачатковых цел, яго складаючых, што ў даным выпадку адбываецца **стварэнне новай матэрыі.** Такое пераконанне амаль выключна панавала на працягу ўсяго пазнейшага алхімічнага перыяда» **(Мейер.** «Гісторыя хіміі», стар. 36).

Гэты погляд алхімікаў на прыроду хімічнай рэакцыі знаходзіўся ў самай цеснай сувязі з панаваўшай у той час палоўшчынай, з непадзельнаю ўладай царквы. Паводле бібліі ўвесь свет па божаму вяленню створан быў з нічога. Вучэнне аб акце тварэння з'яўляецца **гваздом рэлігіі, яно і лягло ў аснову поглядаў таточасных алхімікаў.**

Толькі к канцу XVIII века, калі новы клас у асобе буржуазіі рыхтаваўся ўжо да звяржэння феадалізма, пачынаецца крушэнне своеасаблівага адлюстравання папоўскіх поглядаў у хіміі. Французскі хімік Лавуазье і рад іншых вучоных зноў пацвярджаюць палажэнне, што тварэння з нічога быць не можа, што хімічная рэакцыя—гэта не поўнае знікненне адной матэрыі і не поўнае, абсалютнае, з'яўленне новай, а пераход з адной формы ў другую. Матэрыя вечна, але яна пры розных умовах набывае ўсё новыя і новыя формы. Такім чынам Лавуазье высоўвае закон пастаянства матэрыі.

Гэта вучэнне Лавуазье (падрыхтаванае па сутнасці абвергнутым ім вучэннем флагістонікаў) было ў далейшым абгрунтавана англійскім хімікам пачатку XIX века Дальтонам, які ізноў, на новай аснове, стварыў атамістычную тэорыю. Згодна гэтаму погляду, кожнае матэрыяльнае цела складаецца з найдрабнейшых частак, захоўваючых уласцівасці ўсяго цела,—малекул. Гэтыя-ж малекулы, у сваю чаргу, складваюцца з атамаў. Калі данае цела хімічна складанае, то кожная яго малекула складаецца з markрознародных, адметных па сваёй прыродзе, атамаў розных элементаў. Цела, хімічна простае, складаецца з атамаў аднаго і таго самага роду, аднаго і таго самага элемента. Гэтых элементаў у прыродзе абмежаваная колькасць, але розная камбінацыя іх нараджае ўсю багацейшую разнастайнасць, якую мы назіраем у прыродзе.

Ці маюць гэтыя погляды хімікаў Дальтона і Лавуазье буйныя заслугі ў гісторыі хіміі, ці прадстаўляюць яны сабою буйны крок наперад у гісторыі пазнання прыроды чалавека? Безумоўна так. Сучасная хімія пачынае сваё летазлічэнне іменна з гэтага перыяда.

Па-першае, яны разбілі ўшчэнт погляды алхімікаў аб тварэнні матэрыі, чым пацвярджаецца погляд матэрыялізма аб вечнасці матэрыі, аб пярвічнасці матэрыі.

Па-другое, яны хоць і ў прымітыўнай, урэзанай форме, абгрунтавалі палажэнне аб тым, што формы матэрыі мяняюцца.

Па-трэцяе, яны стварылі цвёрдае панятце аб элементах, сакрушаючы гэтым алхімічныя спробы стварыць так званыя благародныя металы з іншых матэрый.

Але як-бы вялікі ні былі заслугі гэтых асновапаложнікаў хіміі XIX века, як-бы ні пацвярджалі правільнасць матэрыялізма, адмаўляючы папоўскія погляды аб тварэнні з нічога,—іх матэрыялізм хварэў арганічным парокам. Гэта быў матэрыялізм метафізічны.

І сапраўды, вучэнне аб тым, што існуюць абсалютна розныя нязменныя віды матэрыі—элементы—прасякнута метафізічным падыходам. Паміж адным элементам і другім, паміж адным відам матэрыі і другім існуе непраходная грань. І хоць цэлы падвергнуты змяненню, хоць малекулы іх расшчапляюцца і зноў утвараюцца,—атам застаецца нерухомым, нязменным, адвеку даным.

Ці магло прыродазнаўства застыгнуць на гэтым поглядзе? Вядома, не. Усё цячэ, усё мяняецца, усё падлягае зменам, усё знаходзіцца ў безупынным патоку развіцця і руху, у тым ліку і атамы. У прыродзе няма непраходных межаў, няма абсалютных перагародак паміж адною формай быцця і другою. Няма абсалютнай перагародкі таксама паміж адным элементам і другім. Яны розныя, уладаюць рознымі ўласцівасцямі, але яны і адзіны. Прыродазнаўства, пакольк яно паглыбляецца ў пазнанні прыроды, пакольк яно крок

за крокам ускрывае акружаючую нас аб'ектыўную рэальнасць, вымушана набліжацца к дыялектычнаму погляду на прыроду.

Этап адрознівання, вывучэння розніцы аднаго элемента ад другога быў пройдзены. На павестку дня ставіцца пытанне аб адзінстве прыроды. Буйны крок наперад у гэтым кірунку—адзінства прыроды ў галіне хіміі—быў зроблен Мендэлеевым. Іменна на долю яго адкрыцця ў хіміі выпаў велізарнейшы гонар падрыхтаваць перамогу дыялектычнага матэрыялізма, сакрушэнне метафізікі ў галіне хіміі.

Ці імкнуўся да гэтага Мендэлееў? Ці ставіў ён перад сабою іменна такую задачу? Не. Больш таго, ён працівіўся такому тлумачэнню свайго адкрыцця, але, як і ўсякае вялікае адкрыццё—незалежна ад волі яго творцы,—адкрыццё Мендэлеева пацвердзіла правільнасць вучэння Маркса—Энгельса.

* * *

Імкненне адшукаць адзінства і агульнасць розных элементаў з'яўляецца ўжо ў пачатку XIX века. К гэтаму часу адносіцца, напрыклад, гіпотэза англійскага хіміка Проута аб тым, што розныя хімічныя элементы сузмерны з вадародам, што атамы розных элементаў складаюцца з найбольш простага атама—атама вадарода. Гэта геніяльная гіпотэза Проута ў новым выглядзе, на больш высокай аснове, па сутнасці сваёй была пацверджана стагоддзем пазней тэорыяй электронаў, і асабліва ў вучэнні аб ізатопах. Але навука таго часу яшчэ не была падрыхтавана да гэтай мыслі, тым больш, што гэта гіпотэза была выказана ў надта абстрактным выглядзе і не была абгрунтавана на багатым фактычным матэрыяле.

Важкім довадам супроць гіпотэзы Проута служыла тая акалічнасць, што атамная вага цэлага раду элементаў выражаецца ў адносінах вадарода не ў цэлых чыслах, а ў дробных, разгадка чаго была дана толькі ў наш час. К таму-ж Проут быў не каставым вучоным, а скромным урачом. Буржуазная навука вучоных бонз не магла дапусціць, каб такая «мізэрная асоба» была дапушчана ў Пантэон навукі. Проут быў аганены і на доўгі час забыты. Яшчэ ў канцы XIX века, напярэдадні адкрыцця радыёактыўнасці і вучэння аб электронах, відны гісторык хіміі пісаў аб Проуце, што ніхто не спрыяў у такой меры кампраметацыі хіміі, як навукі, як ён—Проут.

Але з кожным днём адкрываецца ўсё больш і больш элементаў, аб іх накапляецца ўсё больш даных, і зразумела, што ўзнікае імкненне стварыць нейкую класіфікацыю, нейкую сістэму ў гэтым пытанні. К часу Мендэлеева ўжо было вядома ў наяўнасці прыблізна 60 элементаў. Такія спробы ўнесці нейкую сістэму зроблены былі радам хімікаў, як напрыклад Дзюма і інш. Пры гэтым яны выходзілі з таго, што некаторыя элементы па сваіх уласцівасцях маюць значнае падабенства з іншымі. Напрыклад: ліцій, калій, натрый маюць між сабой такое падабенства, якое ўжо кідаецца ў вочы. Таксама ў адносінах так званай групы галоідаў.

Але ўсе гэтыя спробы некаторай сістэматызацыі хімічных элементаў насілі характар знешні. Справа ішла аб класіфікацыі і толькі аб ёй, пры чым задача зводзілася да канстатацыі фактаў пэўнага падабенства паміж некаторымі элементамі. Перыядычны закон Мендэлеева ў гэтым сэнсе якасна адрозніваецца ад тых недастаткова

даспелых спроб, якія былі зроблены да яго. Перш за ўсё Мендэлееў ставіў перад сабой задачу адшукаць **законамернасць**, якая мае месца ў адносінах розных элементаў. Такім чынам справа ідзе не аб канстатацыі выпадковага знешняга падабенства паміж адным элементам і другім, а аб адкрыцці больш шырокага абагульняючага закона, ускрываючага сапраўдную аб'ектыўную сувязь паміж рознымі элементамі. Прынцыповым момантам у сістэме Мендэлеева з'яўляецца тое, што ў аснову ён кладзе **атамную вагу**. Іменна гэта акалічнасць мела вялікае значэнне для адкрыцця яго закона.

Каб высніць і адшукаць сапраўдную законамернасць, якая абумоўлівае падабенства розных элементаў, Мендэлееў раскладвае ў рад усе элементы па іх атамнай вазе. І тут Мендэлееў выяўляе, што пасля пэўнага ліку элементаў пачынаецца як-бы новы цыкл, новы рад, паўтараючы ўласцівасці папярэдняга. Скажам, ліцій, займаючы трэцяе месца, напамінае па сваіх уласцівасцях натрый, які займае адзінаццатае месца, калій—дзевятнаццатае, і т. д. Такім чынам праз кожныя восем элементаў пачынаецца як-бы паўтарэнне на новай аснове.

Паклаўшы ў аснову атамную вагу, Мендэлееў ідзе не ад падобнага к падобнаму, а ад падобнага к непадобнаму, і толькі такім чынам ён прыходзіць да растлумачэння падобнасці, да пастаўленай мэты. Ён спачатку раскладвае ў рад хімічныя элементы па іх атамнай вазе, адцягваючыся часова ад таго, ці маюць яны паміж сабою нейкую падобнасць, ці не. І толькі пазней ён у гэтым радзе выяўляе перыядычнасць, законамернасць, паўтараемасць уласцівасцей элементаў. Гэтай акалічнасці мы надаем пэўнае значэнне, бо яна ясна паказвае зігзагападобнасць, раздвоенасць пазнання, ускрытую Леніным у яго тэорыі адлюстравання,

А гэта акалічнасць—часова адцягнуцца ад падобнасці, раскладваць у рад **усе** элементы, каб потым выявіць перыядычную законамернасць—адыграла буйную ролю ў адкрыцці Мендэлеева. Вось што ён піша з гэтага повадў:

> «Яна (перыядычная законамернасць.—**А. В.**) мела пад сабой к 60-м гадам падрыхтаваную глебу, і калі выказана з акрэсленасцю толькі к канцу 60-х гадоў, то гэтаму прычыну, на маю думку, трэба шукаць у тым, што **параўнанню падвяргалі толькі элементы падобныя** паміж сабою. Аднак мысль параўнаць **усе** элементы па велічыні іх атамнай вагі... **чужда была** агульнаму ўсведамленню»... (падкрэслена намі.—**А. В.**).

Мендэлееў пацвярджае адзінства колькасці і якасці, узаемасувязь паміж колькасна выражаемай атамнай вагою (месцам, якое займае дадзены элемент у радзе, укладзеным па атамнай вазе) і якаснымі асаблівасцямі дадзенага элемента. Пры чым колькаснае змяненне прыводзіць не проста да павелічэння або памяншэння, а да набыцця новай якасці.

Закон Мендэлеева называецца перыядычным законам. Іменна ў гэтым, у вучэнні аб перыядычнасці, заключаецца яго вялікая каштоўнасць. Гэтым падкрэсліваецца, што раскладзеныя ў рад па іх атамнай вазе элементы ў нейкім пункце, у нейкім месцы выяўляюць перарыў. Такім чынам пацвярджаецца вучэнне дыялектычнага ма-

тэрыялізма аб пераходзе колькасці ў якасць, аб перарыве паступовасці.

> «Мендэлееў,—піша Энгельс,—прымяняючы несвядома гегелеўскі закон аб пераходзе колькасці ў якасць, зрабіў навуковы подвіг, які смела можна паставіць побач з адкрыццём Левер'е, вылічыўшага арбіту яшчэ невядомай планеты».

Момант аб перарыве паступовасці, аб «скачку», які наступае ў гэтым радзе, быў падкрэслен і самім Мендэлеевым.

> «Пераканаўшыся... у тым,—піша Мендэлееў,—што атамная вага элементаў можа служыць апорай іх сістэмы, я спачатку размясціў элементы ў непарыўным парадку па велічыні іх атамнай вагі і адразу заўважыў, што існуюць некаторыя **перарывы** ў радзе, такім чынам пастаўленым».

У другім месцы Мендэлееў заяўляе:

> «Перыяд элементаў носіць, такім чынам, іншы характар, чым прывычныя перыяды, геометрамі так проста выражаемыя. Гэта пункты, лічбы, гэта **скачкі** масы, а не яе непарыўныя эвалюцыі».

Мендэлееў спрабуе нават гэты момант аб скачках пэўным чынам абагуліць:

> «Множственае, індывідуальнае—як мы самі, як простыя целы хіміі, як члены своеасаблівай перыядычнай функцыі элементаў, як дальтонаўскія кратныя суадносіны—характарызуецца іншым спосабам: у ім заўсёды відаць—пры звязваючым агульным—**свае скачкі, разрывы суцэльнасці».** (Падкрэслена ўсюды намі—**А. В.).**

Мы вышэй сказалі, што, раскладваючы элементы ў рад па атамнай вазе, Мендэлееў адкрыў, што праз кожны пэўны лік пачынаецца як-бы паўтарэнне папярэдняга раду. Было-б аднак памылкова меркаваць, што пытанне стаяла так проста і гладка. Справа ў тым, што ў час Мендэлеева былі адкрыты не ўсе элементы, а толькі большасць іх: з 92-х былі тады вядомы каля 60.

Само сабою зразумела, што калі-б Мендэлееў выходзіў **толькі** з колькасці вядомых у той час элементаў, калі-б ён прыняў гэта як апошняе слова навукі, перад адкрыццём перыядычнага закона паўсталі-б надзвычайныя цяжкасці, вярней—яно было-б немагчымым. Калі-б ён узяў вядомую ў яго час колькасць элементаў і падзяліў-бы іх проста на нейкі пэўны лік, то, вядома, нічога талковага не вышла-б, і элементы, якія нічога агульнага паміж сабою не маюць, папалі-б у адну групу, г. зн. сама ідэя перыядычнасці была-б скампраметавана.

Але Мендэлееў не прытрымліваўся абмежавана і слепа пэўнай колькасці элементаў, і там, дзе ён сустракаўся з неперамагальнымі труднасцямі ў гэтым сэнсе, ён смела сцвярджаў, што на даным месцы ёсць прабел, што тут недахоп звяна, што тут павінен стаяць другі элемент, пакуль што нам невядомы. Мендэлееў такім чынам ужо загадзя вылічыў атамную вагу гэтага невядомага элемента і іншыя яго фізічныя і хімічныя ўласцівасці. Для гэтага патрэбна была геніяльная смеласць, і Мендэлееў яе праявіў.

Практыка пазней поўнасцю даказала гэтыя незвычайныя па сваёй смеласці прадказванні Мендэлеева, а прадказаныя ім элементы былі пазней сапраўды адкрыты. Так, напрыклад, Мендэлееў прадказаў на аснове сваёй перыядычнай сістэмы існаванне элемента, названага ім экаалюмініем. І сапраўды, элемент такой уласцівасці і атамнай вагі быў потым адкрыты пад назвай галія. Кожнае адкрыццё новага элемента, пацвярджаўшае прадказанні Мендэлеева, служыла трыумфам яго тэорыі.

Перыядычны закон Мендэлеева—яркі довад закона матэрыялістычнай дыялектыкі: адмаўленне адмаўлення. Сутнасць гэтага закона, як вядома, у тым, што ў працэсе развіцця праз супярэчнасці (адмаўленні), даная з'ява на пэўнай стадыі развіцця праяўляе як-бы паўтарэнне даўно пройдзенага этапа, але на новай аснове. Перыядычны закон тэта даказвае. Перад намі гарызантальны рад у мендэлееўскай сістэме. Элементы, раскладзеныя ў гэтым радзе, праяўляюць тэндэнцыю руху ад метала к металоіду. Метал «адмаўляецца» металоідам. Але пасля завяршэння гэтага раду пачынаецца зноў метал, элемент, паўтараючы як-бы ўласцівасці першага элемента ў папярэднім радзе. Але гэта не ёсць простае паўтарэнне (калій не ёсць натрый, гэта—іншы элемент), а паўтарэнне на новай аснове.

Ітак, перыядычны закон Мендэлеева яшчэ раз пацвердзіў правільнасць наступных палажэнняў дыялектычнага матэрыялізма: пераходу колькасці ў якасць, перарыву паступовасці, закона адмаўлення адмаўлення. Больш поўнае ўяўленне аб яго месцы і значэнні ў развіцці навукі будзем мець, калі прасочым далейшае развіццё фізіка-хімічных навук, і з пункту погляду апошніх дасягненняў, з пункту погляду электроннай тэорыі і вучэння аб радыёактыўнасці, кінем погляд назад к вучэнню Мендэлеева. Бо адкрыццё радыёактыўнасці, электронная тэорыя—вывады чаго, абагуленыя Леніным, дэманстравалі выключную па свайму значэнню перамогу дыялектычнага матэрыялізма—былі ў хімічнай навуцы пэўным чынам падрыхтаваны перыядычным законам Мендэлеева.

* * *

У сваёй кнізе «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» Ленін падводзіць вынікі апошнім дасягненням фізічнай навукі і ўскрывае крызіс, ахапіўшы буржуазную фізіку на глебе загнівання капіталізма. У гэтай кнізе, найвялікшай кнізе з часу смерці Маркса і Энгельса, Ленін паміж іншым характарызуе элемент радый словамі: «рэвалюцыянер радый».

У чым справа?

Упершыню адкрыты ў пачатку XX века Кюры-Складоўскай, элемент радый паказаў вельмі «дзіўныя» уласцівасці і выклікаў цэлы пераварот у навуковых поглядах. Хіміку ўпершыню прыходзілася навочна сутыкацца з тымі вялікімі словамі Энгельса, якія ігнараваліся патэнтаванай буржуазнай навукай:

«У прыродзе ніколі і нідзе не было матэрыі без руху, акурат так сама як нідзе і ніколі не было руху без матэрыі».

Хімік, прашоўшы школу метафізічнага мышлення, прывык мысліць у наступным напрамку: матэрыя—гэта нешта нерухомае застыў-

шае: рух (энергія)—гэта нешта такое, што знешне прысвойваецца матэрыі. Матэрыя мёртва, нерухома, а калі ёй прысвойваецца пэўная сіла звонку, тады яна прыходзіць у рух. Так прывык мысліць фізік і хімік, выхаваны ў духу метафізікі. І вось «дзівоснасць»: радый—«кавалак» нерухомай матэрыі—сам без усякага штуршка звонку праяўляе нейкае ізлучэнне энергіі, сам з'яўляецца носьбітам, крыніцай руху.

Характэрны ў гэтым сэнсе наступныя словы віднага хіміка Соддзі:

> «Радыёактыўныя матэрыі з'яўляюцца невычэрпнаю крыніцай энергіі, якая аддаецца без знешняга пабуджэння і без знікнення. **Дарэмна было-б адмаўляць тое, што гэты факт застаў знянацку фізічную навуку».**

Крыху далей Соддзі прадаўжае:

> «Сваім вывадам, што ў звычайнай, абыдзенай матэрыі захоўваюцца агромныя запасы энергіі... радыёактыўнасць указала шлях, які... складае эпоху».

Другая «дзіўнасць»: фізік і хімік мінулага стагоддзя прывык мысліць, што атам з'яўляецца неразлажымым, што адзін элемент не пераходзіць ні пры якіх акалічнасцях у другі. Кожнага, хто асмеліўся-б намякаць аб пераходзе аднаго элемента ў другі, аб паходжанні аднаго з другога, ён высмеяў-бы самым жорсткім чынам. Верна Маркс і Энгельс вучылі аб тым, што ў прыродзе ўсё знаходзіцца ва ўзаемнай сувязі. Але якая справа буржуазнаму фізіку або хіміку да Маркса і Энгельса?

І вось здараецца нешта «дзікае», «недарэчнае». Хімік аперыруе над салямі радыя, а пазней выяўляе сляды гелія. Што за чартоўшчына, адкуль узяўся гэты гелій? Гелій—гэта-ж элемент, што цвёрда ўстаноўлена, радый—таксама з'яўляецца элементам, і гэта не менш цвёрда ўстаноўлена. І раптам адзін элемент пераходзіць у другі! Далейшыя вопыты паказалі, што гэта зусім не выпадковасць, а законамерная з'ява, што, відаць, прыдзецца ламаць, адракацца ад старых поглядаў і згадзіцца з тым, што адзін элемент пераходзіць у другі. Прынамсі яны былі вымушаны з гэтым пагадзіцца ў адносінах радыёактыўных элементаў.

Больш таго, далейшыя навуковыя доследы даказалі, што гэты пераход з аднаго радыёактыўнага элемента ў другі прадстаўляе сабой строгую законамернасць, што можна загадзя прадбачыць, у які іменна элемент пяройдзе даны радыёактыўны элемент і праз колькі часу. Такім чынам, радыёактыўнасць навяла на мысль аб пераходзе аднаго віду матэрыі, аднаго элемента ў другі.

Чым-жа тлумачацца гэтыя цікавыя ўласцівасці радыёактыўных матэрый, чым тлумачыцца іх ізлучэнне, чаму ў рэзультаце гэтага ізлучэння даны элементператвараецца ў другі? На гэта паследваў адказ: распадам атамаў радыёактыўных матэрый. У працэсе распаду з нетраў атама радыёактыўнага элемента выкідваецца з агромнай хуткасцю паток нейкіх матэрыяльных частак, уладаючых электрычным зарадам. Гэта і дае ў асноўным дзіўны эфект ізлучэння радыёактыўных матэрый. З другога боку, у рэзультаце гэтага распаду атам перастае быць тым, чым ён быў раней. Ён траціць свае некаторыя «складаныя часткі». Мяняецца яго атамная вага. Атам з больш цяжкаю вагой ператвараецца ў атам з больш лёгкаю вагою.

Адкрыццё радыёактыўнасці ставіла такім чынам задачу аб будове атама, настойліва высунула тое палажэнне, што сам атам не з'яўляецца нечым простым, што ён у сваю чаргу ўладае надта складанай будовай. Электронная тэорыя гэта поўнасцю пацвердзіла. Электронная тэорыя паказала, што складаным па сваёй пабудове з'яўляецца не толькі атам радыёактыўных элементаў, але і атам усякага і любога элемента.

Атам любога элемента складаецца з больш дробных матэрыяльных частак, заражаных або дадатнай электрычнасцю (пратоны), або адмоўнай электрычнасцю (электроны). Кожны атам прадстаўляе сабой надзвычай складаную сістэму накшталт сонечнай сістэмы. У цэнтры яго знаходзіцца ядро, заражанае дадатна, а вакол яго з неймавернай хуткасцю (каля 100 тысяч кілометраў у секунду) кружацца электроны. Прычым гэтыя электроны імчацца вакол ядра не хаатычна, а з пэўнай законамернасцю. Чым вышэй атамная вага данага элемента, чым вышэй яго «парадкавы нумар», тым больш электронаў кружацца вакол ядра данага элемента.

Лік электронаў, якія кружацца па арбітах вакол ядра данага элемента, адпавядае яго парадкаваму нумару ,прычым на адной арбіце можа змяшчацца толькі пэўная колькасць электронаў. Калі-ж колькасць электронаў перавышае пэўную мяжу (восем), то тады ўтвараецца новая арбіта. Гэтыя электроны, перавышаючыя восем, кружацца ўжо па новай арбіце. Падобная законамернасць паўтараецца праз кожныя восем (за выключэннем першай арбіты, якая мае не больш 2-х элементаў). Атам, які ўладае па арбітах трыма электронамі (атам ліція), мае ў знешняй арбіце толькі адзін электрон. Але атам, уладаючы адзінаццаццю электронамі (атам натрыя), таксама будзе мець на знешняй арбіце ўсяго толькі адзін электрон $(2+8+1)$. Гэта паўтараецца і ў адносінах атама, уладаючага 19-ю электронамі,—калія $(2+8+8+1)$. Вось чаму ўсе гэтыя элементы знаходзяцца ў адной групе—у першай групе мендэлееўскай сістэмы. Акурат так сама элементы, якія адносяцца да другой групы мендэлееўскай сістэмы, будуць мець на знешняй арбіце два электроны. Элементы-ж, уладаючыя на апошняй, знешняй арбіце, васьмю электронамі, ні ў якія злучэнні з іншымі элементамі не ўступаюць. Яны ўтвараюць так званую «нулявую групу» мендэлееўскай сістэмы.

Такім чынам, электронная тэорыя дала аб'ясненне і тлумачэнне мендэлееўскаму перыядычнаму закону. Перыядычны закон з'яўляецца выражэннем унутранай структуры атама. З другога боку, сама электронная тэорыя была падрыхтавана перыядычным законам Мендэлеева. Значэнне-ж электроннай тэорыі з'яўляецца настолькі вялікім, што ад яе сапраўды пачынаецца новая эпоха ў гісторыі хіміі, і не толькі ў гісторыі хіміі, а ў гісторыі ўсяго прыродазнаўства. Даволі ўказаць, што электронная тэорыя з'яўляецца ў галіне прыродазнаўства адной з найбольш важных прадпасылак далейшага развіцця светапогляду Маркса і Энгельса Леніным—ленінскага этапа ў філасофіі і навуцы.

Электронная тэорыя, адкрыццё радыёактыўнасці з'яўляецца адным з найвялікшых адкрыццяў у прыродазнаўстве за ўвесь перыяд часу са смерці Маркса і Энгельса. Гэта—буйнейшае дасягненне фізіка-хімічных навук. Здавалася-б, што гэтыя адкрыцці павінны былі надаць фізікам і хімікам асобую бадзёрасць, падкрэсліць перад імі сілу чалавечага пазнання, веру ў навуку. Тым часам ніколі і нідзе ў лагеры

буржуазнай навукі не было настолькі глыбокай збянтэжанасці, такога панурага бязвыхаднага суму, такіх скептычных разважанняў аб бескаштоўнасці навукі, аб яе бяссіллі ўнікаць у таямніцы прыроды, як гэта мела і мае месца ў гэтую эпоху. Даволі ўказаць на словы віднейшых буржуазных фізікаў і хімікаў сучаснасці аб тым, што навука збанкроцілася, што перад намі поўны разгром усіх навуковых прынцыпаў, што ад навукі засталіся адны толькі руіны.

Чым гэта тлумачыцца? Гэта тлумачыцца тым, што навука не лунае ў бяскласавай прасторы, а з'яўляецца класавай. Буржуазная навука эпохі імперыялізма, эпохі загніваючага капіталізма своеасабліва гэта загніванне адлюстроўвае. Загніванне капіталізма ў эканоміцы парараджае ў своеасаблівай форме загніванне буржуазнай навукі.

Падобна таму, як капіталістычныя вытворчыя адносіны становяцца аковамі для развіцця прадукцыйных сіл, душаць далейшае развіццё тэхнікі, тармозяць яе, падобна гэтаму (зразумела, што гэта адбываецца вельмі складана і своеасабліва) капіталістычныя адносіны становяцца аковамі для развіцця навуковай мыслі, для пазнання прыроды, цягнуць назад. І чым больш буржуазная навука накапіла фактаў і даных, чым больш аб'ектыўная значымасць гэтых адкрыццяў, тым астрэй выступае канфлікт паміж сапраўдным, ісцінным значэннем гэтых адкрыццяў і бездапаможнасцю буржуазнай навукі гэтыя адкрыцці пераварыць, асэнсіць, тым нагляднай выступае фальсіфікацыя, скажэнне сутнасці гэтых адкрыццяў, тым больш яўнаю становіцца тармозячая роля, скоўваючая роля капіталістычных вытворчых адносін у развіцці навукі.

У вельмі нагляднай форме мы гэта бачым іменна на прыкладзе электроннай тэорыі. Па сваёй сутнасці яна з'яўляецца бліскучым довадам філасофіі дыялектычнага матэрыялізма. У руках загніваючай буржуазіі і яе вучоных прыслужнікаў яна стала сродкам прапаганды містыкі, ідэалізма, лозунга—«матэрыя знікла», крыніцай пропаведзі аб банкроцтве навукі, а стала быць,—назад к богу, к рэлігіі.

Хто-ж даў сапраўднае абагуленне гэтых вялікіх адкрыццяў у навуцы, хто паказаў іх сапраўдны сэнс і ўзняў наша пазнанне прыроды на новую, неймаверна высокую ступень? Гэта было справай Леніна, справай ленінскага этапа ў філасофіі і навуцы.

> «Найбольш яркім выражэннем,—піша т. Сталін,—таго высокага значэння, якое надаваў Ленін тэорыі, трэба было-б лічыць той факт, што ні хто іншы, як Ленін, узяўся за выкананне сур'ёзнейшай задачы **абагулення па матэрыялістычнай філасофіі найбольш важнага з таго, што дана навукай за перыяд ад Энгельса да Леніна,** і ўсебаковай крытыкі антыматэрыялістычных плыней сярод марксістаў. Энгельс гаварыў, што «матэрыялізму прыходзіцца прымаць новы выгляд з кожным новым вялікім адкрыццём». Вядома, што гэтую задачу выканаў для свайго часу ні хто іншы, як Ленін, у сваёй выдатнай кнізе «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» (падкрэслена намі.—**А. В.**).

Ленін ускрыў крызіс буржуазнай навукі, ён ускрыў сувязь паміж пропаведдзю ідэалізма-махізма і крызісам буржуазнай навукі.

> «Сувязь новай фізікі... з махізмам... не падлягае ні малейшаму сумненню. Разбіраць махізм, ігнаруючы гэту сувязь—як

гэта робіць Плеханаў—значыць здзекавацца над духам дыялектычнага матэрыялізма».

Ленін паказаў партыйнасць фізікі, разграміў так званы «фізічны» ідэалізм. Ён ускрыў сапраўдны сэнс, сапраўднае значэнне адкрытых новых заканамернасцей у прыродзе і на падставе новых адкрыццяў развіваў далей філасофію Маркса—Энгельса. Пры гэтым Ленін з геніяльнай празарлівасцю адкрыў і такія бакі ў галіне тэарэтычнай фізікі, якія ў яго час яшчэ не былі адкрыты, а былі зацверджаны пазней.

Наперакор буржуазным фізікам, якія крычалі аб тым, што «матэрыя знікла»—Ленін паказаў адзінства матэрыі і руху, Ленін высунуў сваё вучэнне аб філасофскім і фізічным разуменні матэрыі. На падставе гэтых адкрыццяў Ленін падняў на вышэйшую ступень тэорыю пазнання дыялектычнага матэрыялізма. «Электрон так сама невычэрпны, як і атам, прырода бесканечна, але яна бесканечна існуе». Такі вывад Леніна з новых адкрыццяў у галіне фізікі і хіміі.

* * *

Само вучэнне Мендэлеева, дакладней—лёс гэтага вучэння, умовы яго з'яўлення і далейшага развіцця з'яўляюцца дасканалым пацверджаннем ленінскага вучэння аб зігзагападобным, дыялектычным развіцці навукі. І сапраўды, Мендэлееў вырас на глебе хіміі Дальтона—Лавуазье. Той хіміі, якая сцвярджала не толькі пастаянства матэрыі, але і пастаянства атамаў і элементаў.

На аснове гэтых хімічных поглядаў магла быць прыкована ўвага да вывучэння элементаў, іх уласцівасцей. Толькі на аснове гэтых поглядаў магла, скажам, з'явіцца ў хіміі сільная цяга да стараннага вывучэння атамнай вагі хімічных элементаў, маглі быць адкрыты і вылучаны са складаных саставаў новыя хімічныя элементы.

А без гэтага-ж сама мендэлееўская сістэма была-б немысліма, немагчыма. Вось што піша з гэтага поваду Мендэлееў:

> «Унікаючы ў эпоху 60 гадоў, патрэбна ўказаць на тры рады даных, без якіх нельга было-б з'явіцца перыядычнай законнасці, а ў сувязі з якою яе з'яўленне становіцца зразумелым і натуральным».

Як на найбольш важную акалічнасць, якая падрыхтавала вучэнне аб перыядычнасці, Мендэлееў указвае на тое, што

> тады зрабіліся бясспрэчнымі велічыні атамных ваг, чаго гадоў за 10 перад тым зусім не было».

Абстрактнаму погляду аб тожастве матэрыі, які меў месца ў значнай меры ў эпосе папярэдняй Лавуазье, павінен быў быць проціпастаўлен этап **адрознівання.** Гэта знаходзіцца ў сувязі з указаннем Энгельса аб гістарычнай апраўданасці на пэўным этапе метафізічнага спосаба мышлення, вырывання з прыроды паасобных участкаў, «кусочкаў», вывучэнне іх саміх па сабе. Прыйсці на новай аснове да шырокіх абагульненняў магчыма было пры ўмове стараннага вывучэння **дэталей**—аналіза. Гэтаму зігзагу ў развіцці навуковага пазнання адпавядаюць хімічныя погляды эпохі Дальтона—Лавуазье, але іменна гэта падрыхтоўвае магчымасць для новага абагулення ў асобе вучэння Мендэлеева аб перыядычнай законамернасці.

Такім чынам, з аднаго боку, вучэнне Мендэлеева вырасла з нетраў папярэдніх поглядаў, а, з другога боку, падрыхтоўвае іх «адмаўленне». Так праз адмаўленне (з утрыманнем дадатнага) адбываецца зігзагападобны ход развіцця пазнання.

Але ці дашоў сам Мендэлееў да гэтых вывадаў, ці стварыў ён сапраўды ўсебаковае абагуленне ўсіх даных фізіка-хімічных навук? Не. Мы ўжо неаднакроць падкрэслівалі, што Мендэлееў сам не мог у поўнай меры ўсвядоміць значэння перыядычнага закона, адкрытага ім. Перыядычная законамернасць—гэта бок аб'ектыўнай рэальнасці. Мендэлееў гэты бок аб'ектыўнай рэальнасці пазнаў, пазнаў упершыню—у гэтым яго вялікая заслуга, але пазнаў **абмежавана.** І ў гэтым мы бачым яркі прыклад класавай абмежаванасці буржуазнай навукі.

Партыйнасць буржуазнай навукі выражаецца не толькі ў прамым непасрэдным подкупе вучоных лакеяў буржуазіі, не толькі ў яўнай, усвядомленай, самай грубай, бесцырамоннай фальсіфікацыі навукі. Гэта з асаблівою сілай праяўляецца ў буржуазнай навуцы перыяда яе загнівання. Яркія прыклады гэтага дае фашысцкая, з дазволу кажучы, «навука»—расізм і т. д., якая ставіць перад сабою адну мэту—падвесці «тэарэтычны» базіс пад крывавы тэрор Гітлера. Але не толькі ў гэтым выражаецца партыйнасць буржуазнай навукі. Самыя чэсныя, самыя непадкупныя буржуазныя вучоныя ў такой-жа меры з'яўляюцца класава-абмежаванымі, калі не парвалі з тым класам, з нетраў якога яны вышлі. Іх пазнанню пастаўлена пэўная граніца, яно абмежавана класавымі інтарэсамі пануючых эксплаататарскіх класаў.

Аб'ектыўна адкрыццё Мендэлеева служыла абгрунтаваннем і сцверджаннем адзінства прыроды, адпраўным пунктам для з'яўлення ў далейшым электроннай тэорыі.

Як-жа глядзеў на прыроду гэтага пытання **сам** Мендэлееў?

Ён усяляк супраціўляўся мыслі аб складанасці атамаў і аб магчымасці пераходу аднаго элемента ў другі. Ужо ў 1889 годзе, г. зн. праз 20 год пасля адкрыцця перыядычнага закона, Мендэлееў сцвярджае, што «гэтая мысль (справа ідзе аб адзінстве матэрыі і аб складанасці элементаў) павінна быць аднесена да ліку утапічных». Ён там-жа гэтую мысль называе забабонам. Стала быць, пагляд на атам, як на нешта складанае, невычэрпнае здаецца яму недарэчным. А між тым, іменна якраз ён стварыў важнейшыя прадпасылкі вучэння аб складанасці атамаў, якраз іменна ён перакінуў мост ад хіміі пачатку XIX века к сучасным поглядам... Ці можа быць больш яркі паказ гэтай абмежаванасці, чым тая акалічнасць, што вялікі аўтар вялікай тэорыі сам не ўсвядоміў значэння яе і праціўіўся таму, каб рабіць з яе адпаведныя вывады?

Мендэлееў быў верным сынам свайго класа маладой расійскай буржуазіі, пазнаваў прыроду вачыма свайго класа, і як-бы вялік ён ні быў, ён не мог вырвацца з палону класавай буржуазнай абмежаванасці, паколькі ён наогул заставаўся на платформе палітычных поглядаў буржуазіі.

Мендэлееў—паборнік развіцця прамысловасці ў Расіі. Ён з нястомнай энергіяй, не гледзячы на цэлы рад пастаўленых яму рагатак, змагаецца за практычнае прамысловае прымяненне даных хімічнай навукі. Асабліва гэта адлюстроўваецца ў яго работах аб нафце. Ён з болю канстатуе той факт, што ў Расію штогод увозіцца агромная

колькасць амерыканскай карасіны, а багацейшыя нафтавыя рэсурсы краіны застаюцца нескарыстанымі.

Але ён змагаўся не за развіццё прамысловасці наогул, але **капіталістычнай** прамысловасці. Ён палка і настойліва дабіваўся развіцця прадукцыйных сіл іменна **буржуазнай** Расіі.

Аддаючы належнае велічы Мендэлеева, мы не павінны замазаць і рэакцыйнага боку яго поглядаў, яго светапогляду.

Мы бярэм Мендэлеева, але ў крытычнай перапрацоўцы. Нашы адносіны к Мендэлееву вызначаюцца вучэннем Леніна—Сталіна аб нашых адносінах к буржуазнай культуры. Кожнаму вядома барацьба на два фронты, якую Ленін і Сталін праводзілі па данаму пытанню. супроць багданаўшчыны, паводле якой пролетарская культура з'яўляецца як-бы невядома адкуль, і супроць адкрытага капітулянцтва.

Такою, як вядома, з'яўляецца пазіцыя контррэволюцыйнага трацкізма. Ён адмаўляў магчымасць пролетарскай культуры (як вывад з адмаўлення магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне). Ён прапаведваў, што трэба ўзяць буржуазную культуру такою, як яна ёсць. Гэта выразілася таксама ў яго апалагетыцы Мендэлеева, які выводзіцца там амаль не рэволюцыянерам.

Нам патрэбны нашы Мендэлеевы, **нашы**—совецкія, якія будуць змагацца на падставе ведання справы за пабудову соцыялістычнага грамадства, заператварэнне нашай радзімы ў самую багатую, перадавую ў тэхніка-эканамічных адносінах краіну, нам патрэбны людзі, якія натхняюцца адкрыццямі і развіццём хіміі для ўмацавання магутнасці дыктатуры пролетарыята.

---

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Узорна арганізаваць зімоўку жывёлы

Перамога калгаснага і соўгаснага будаўніцтва пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі забяспечыла працоўным СССР паспяховае вырашэнне зернавой праблемы і разам з тым стварыла ўсе ўмовы для найхутчэйшага развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Разам з арганізацыяй некалькіх тысяч жывёлагадоўчых соўгасаў, у калгасах Саюза створана больш 130 тысяч жывёлагадоўчых таварных ферм, з іх больш 11 тысяч у БССР. На 1 ліпеня г.г. у жывёлагадоўчых калгасных фермах СССР налічвалася каля 6,5 мільёнаў галоў буйнай рагатай жывёлы, да 3-х мільёнаў свінапагалоўя і да 9 мільёнаў авечак. У калгасных жывёлагадоўчых фермах БССР к пачатку кастрычніка г.г. было да 423 тыс. галоў буйнай рагатай жывёлы, больш 200 тыс. свінапагалоўя і да 83 тыс. авечак. Жывёлагадоўчыя соўгасы і калгасныя таварныя фермы сталі, такім чынам, асноўнай базай для максімальнага ўздыму нашай жывёлагадоўлі і палепшання яе якасці.

На XVII з'ездзе ВКП(б) т. Сталін прызваў усю партыю і ўсіх працоўных па-большэвіцку ўзяцца за вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі. На аснове ўказанняў т. Сталіна многія калгасы і соўгасы БССР значна палепшылі справу жывёлагадоўлі. Адыход цялят на фермах зменшыўся з 14,2 проц. на 1/X-33 г. да 13,2 проц. на 1/X-34 г.; адыход парасят з 31,1 проц. на 1/X-33 г. знізіўся да 14,4 проц. на 1/X-34 г. Не гледзячы на гэта, у цэлым стан жывёлагадоўлі, як адзначыў ліпеньскі пленум ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, прадаўжае заставацца нездавальняючым. Аб гэтым сведчаць таксама вынікі перапісу жывёлы на 1/VII-34 г., паводле якога пагалоўе жывёлы ў БССР супроць 1933 г. значна зменшылася.

Выключна важнае значэнне для найбольш паспяховага ўздыму жывёлагадоўлі і ў першую чаргу захавання маладняка мае правільная арганізацыя зімоўкі: цёплыя і светлыя памяшканні, ветэрынарна-зоатэхнічны агляд калгаснай і соўгаснай жывёлы, правільнае кармленне яе, догляд, утрыманне і т. д. Цёплая і сытая зімоўка жывёлы—адна з рашаючых прадпасылак для паспяховага выканання дзяржаўнага плана жывёлагадоўлі.

### Забяспечым жывёлу цёплым і светлым памяшканнем

Захаваць і правільна выгадаваць увесь маладняк, атрымаць з кожнай галавы найбольш прадукцыі на адзінку затрачанага корму можна толькі ў цёплым і светлым памяшканні. Навукай даведзена, што адным толькі ўцяпленнем кароўніка, пры іншых роўных умовах, можна павысіць удой на 6—12 проц. У халодным памяшканні карова траціць за зіму корму (у пераводзе на сена) для саграванне свайго цела на 3,8—7,5 цнт. больш, чым у цёплым памяшканні.

Калгасы і соўгасы павінны былі дакладна ўлічыць свае патрэбы ў памяшканнях для наяўнай жывёлы і прыплоду, ударным парадкам закончыць новае будаўніцтва, а пры недахопе будынкаў прыстасаваць для жывёлы іншыя свабодныя памяшканні.

Раённыя арганізацыі павінны былі своечасова ўзначаліць і аперацыйна кіраваць гэтай важнейшай справай. Аднак, у Прапойскім, Чэрыкаўскім, Шклоўскім, Веткаўскім і інш. раёнах жывёлагадоўчае будаўніцтва пушчана было на самацёк. У многіх калгасах і дагэтуль не створаны спецыяльныя будаўнічыя брыгады, а ў некаторых калгасах яны распушчаны; у рэзультаце—не закончана будаўніцтва да 60.000 скотамесц.

Да зімы засталіся лічаныя дні. Раённыя арганізацыі, палітаддзелы МТС і сельсоветы безадкладна павінны праверыць, як ідзе жывёлагадоўчае будаўніцтва і рамонт у калгасах і соўгасах, дзе трэба—арганізаваць або ўзмацніць спецыяльныя брыгады, закончыць уцяпленне, абсталяванне кармушкамі і неабходным інвентаром новых і старых абор, цялятнікаў, стаень, свінарнікаў.

Абавязак калгасаў і соўгасаў—стварыць сапраўды культурныя ўмовы ўтрымання сваёй жывёлы, асабліва маладняка, дабіцца, каб у радзільным аддзяленні кароўніка, у цялятніку і маточным аддзяленні свінарніка тэмпература была 10—12, а ў астатніх памяшканнях не ніжэй 6 градусаў цяпла.

Будаўнічыя брыгады разам з жывёлагадоўчымі не павінны спусціць з вока ні адной дробязі. На ўсіх жывёлагадоўчых будынках паправіць стрэхі, каб не працякалі, не трапаліся ветрам. Сцены знутры добра законапаціць, ачысціць ад пылу і прадэзінфекцыяваць, а знадворку абкласці саломай, гаплём і т. д. Зрабіць пры дзверах тамбуры, вароты і дзверы ўцяпліць саламянымі матамі. Паправіць пастаянныя столі, а дзе іх няма—накласці з жэрдак і шалёвак часовы насціл і добра ўцяпліць яго. Адрамантаваць печы, ачысціць ад пылу і павуціны і ўцяпліць вентыляцыйныя трубы. Агледзець вокны, зашкліць іх і замазаць шчылінкі. У крайнім выпадку, пры недахопе шкла, толькі невялікая частка акон можа быць забіта шалёўкай.

У свінарніках абавязкова пакласці падлогу і зрабіць каналізацыйную сетку, а дзе яны няспраўны—адрамантаваць.

Прывесці ў парадак кармушкі і прывязі, а дзе іх няма—зрабіць новыя. У станках для падсосных свінаматак пабудаваць уздоўж задняй і бакавых сценак (на адлегласці 20—25 см. ад іх і на такой-жа вышыні ад падлогі) з бруско ў ці тонкіх жэрдак бар'ерчыкі, каб свінні не душылі парасят. Пры свінарніках і цялятніках абсталяваць прасторныя і зацішныя выгульныя дворыкі; каля стаень зрабіць конавязі.

Вопыт паказвае, што праўленні калгасаў і дырэктары соўгасаў часта не звяртаюць увагі на абсталяванне ферм такім інвентаром як даёнкі, вёдры, катлы, бочкі для ўцяплення вады, вагі, ліхтары, шчоткі, мыла, ручнікі і інш. Тым часам гэтая „дробязь“ мае выключна важнае значэнне для правільнай пастаноўкі сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Без катлоў і бочак брыгады не могуць своечасова і ў патрэбнай колькасці падрыхтаваць жывёле корм, падагрэць ваду, каб папярэдзіць захворванне страўніка жывёлы і аборты. Даяркі павінны мыць рукі і падмываць вымя ў кароў, інакш яно трэскаецца і ўдой зніжаецца. Для начнога нагляду за жывёлай, асабліва ў перыяд масавых ацёлаў, апаросаў і т. д., патрэбны ліхтары. Напляваце льскім адносінам да гэтага важнейшага абсталявання ферм і стаень трэба пакласці ра-

шучы канец. Загадчыкі павінны паклапаціцца, каб іх фермы былі абсталяваны ўсім неабходным жывёлагадоўчым інвентаром і ветэрынарнымі аптэчкамі.

Ні ў якім разе нельга забываць і жывёлы неабагуленай. Падрыхтоўваючы памяшканні для калгаснай жывёлы, праўленні калгасаў павінны дапамагчы і калгаснікам забяспечыць іх жывёлу, добрым і цёплым памяшканнем. Упаўнаважаныя дзесяцідворак пад кіраўніцтвам сельсоветаў павінны ў сваю чаргу арганізаваць рамонт і ўцяпленне памяшканняў для жывёлы працоўных аднаасобнікаў.

## Ветэрынарна-зоатэхнічны агляд

Ставячы жывёлу на зімняе стойла, калгасы і соўгасы павінны правесці ветэрынарна-зоатэхнічны агляд усяго пагалоўя, у выпадку патрэбы — зрабіць жывёле прышчэпкі супроць сапу, туберкулёза і іншых заразных хвароб. Пры аглядзе ўстанавіць, якую жывёлу пакінуць для гадоўлі на ферме, якую выбракаваць на мясапастаўкі ў лік плана 1935 года, якую перадаць бескароўным калгаснікам.

Неабходна прыняць меры для пакрыцця непакрытых ці прахаласціўшых кароў і нецелей і забяспечыць правільную падрыхтоўку да злучкі свінаматак.

Лепшых матак, вытворнікаў і маладняк вылучыць у асобую племгрупу, як ядро для палепшання ўсёй жывёлы гаспадаркі. Абагуленае пагалоўе буйнай рагатай жывёлы і свіней пранумараваць. Без нумарацыі жывёлы нельга наладзіць, асабліва на буйных фермах, ні пастаяннага ўліку ўдояў, ні прыросту маладняка і адкормачнікаў, наогул нельга весці на фермах ніякай племяннай работы.

## Кожнаму калгасу і ферме—цвёрды кармавы план

Разам з цёплым і светлым памяшканнем жывёле неабходна і сытае кармленне. У кожным калгасе і соўгасе перш за ўсё трэба стварыць кармавы фонд. Выконваючы рашэнні ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, БССР у гэтым годзе нарыхтавала значна больш багаты кармавы фонд. Так, летась калгаснікі і аднаасобнікі скасілі 1.574.000 *га* лугу, у гэтым годзе—1.700.000 *га*, акрамя таго знялі другі ўкос 244тыс. *га*. Засіласавалі летась 319 тыс. тон, сёлета—617 тыс. тон.

Змагаючыся за сапраўднае палепшанне соцыялістычнай жывёлагадоўлі, партыя і ўрад БССР аслабанілі ў гэтым годзе ад пастаwак дзяржаве 80.000 *га* зернавых і 22.000 *га* бульбы. Зярно і бульба з гэтых плошчаў значна ўзмоцніць і палепшыць кармавы фонд, павысіць матарыяльную зацікаўленасць калгаснікаў у развіцці соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Соўгасы і калгасы БССР павінны скарыстаць гэтыя кармы поўнасцю і з найбольшым эфектам.

Забяспечыўшы выкананне плана пастаўкі дзяржаве зернавых, бульбы, сена і саломы, здачу натураплаты МТС, засыпку насенных і страхавых фондаў, размеркаванне ўраджаю, калгасы павінны вылучыць для жывёлы фонд грубых, сакавітых і канцэнтраваных кармоў з разліку поўнай гадавой патрэбнасці, а па грубых яшчэ і дзесяціпроцантны страхавы запас, максімальна палепшыўшы пры гэтым добрабыт калгаснікаў.

Пярвейшы абавязак калгасаў і соўгасаў—дакладна ўлічыць усе кармы, своечасова падвезці іх к месцу стаянкі жывёлы, замацаваць патрэбную колькасць за кожнай фермай і відам жывёлы, арганізаваць правільнае захаванне і ахову корму. Ні аднаго кілограма страты—

вось задача кожнага калгаса і соўгаса, кожнай жывёлагадоўчай брыгады і фермы.

Улік і передача кармоў праводзіцца камісіяй са старшыні праўлення, брыгадзіра паляводнай брыгады, загадчыка фермы і старшых канюхоў. Кожная пуня і гумно, кожны стог сена і саломы, а таксама кораньплоды і сілос абавязкова аглядаюцца камісіяй і запісваюцца ва ўліковую ведамасць з указаннем месца, дзе знаходзіцца стог, колькасці корму, якасці і ўмоў яго захавання.

Улічыўшы кармы і пагалоўе, якое будзе карміцца ў калгасах і соўгасах з ураджаю гэтага года, устанаўляюць патрэбнасць жывёлы ў корме. Пры гэтым трэба памятаць, што правільнага выкарыстання кармоў можна дабіцца толькі на аснове нормы, калі кожная галава жывёлы будзе карміцца ў адпаведнасці з яе прадукцыйнасцю і жывой вагою. Калгасы і соўгасы яшчэ не ўдзяляюць гэтаму патрэбнай увагі: карову, якая можа даць 10—15 літраў малака, часта кормяць так сама, як і карову, якая больш 5 літраў не дае.

Мы павінны канчаткова знішчыць гэту ўраўнілаўку і безгаспадарнасць і карміць жывёлу па цвёрдаму плану. Кармавы план—лепшы сродак для барацьбы з разбазарваннем і раскрадваннем корму, за максімальнае павышэнне прадукцыйнасці жывёлы.

Каб выясніць патрэбнасць у корме, усё пагалоў'е разбіваецца на кармавыя групы: каровы—паводле ўдою і жывой вагі, адкормачнікі—паводле жывой вагі і тэрмінаў здачы дзяржаве. Пасля гэтага для кожнай групы жывёлы вызначаюцца кармавыя нормы, інакш кажучы: колькі патрэбна корму на адну галаву для падтрымання жыццядзейнасці арганізма і для ўтварэння прадукцыі.

НКЗБ установлены арыентовачныя нормы кармлення жывёлы. Каню, напрыклад, неабходна выдзеліць 25 цнт. сена, 6 цнт. аўса і 6 цнт. подсцілкі. Карове—8,5 цнт. сена, 10,6 цнт. саломы, 21 цнт. сілосу і караньплодаў, 0,5 цнт. канцэнтратаў і 6,8 цнт. подсцілкі. Райза павінны давесці гэтыя нормы да кожнага калгаса.

Зразумела, што гэтымі нормамі ні ў якім разе нельга карыстацца механічна. Кожны калгас, выходзячы са свайго плана развіцця жывёлы, наяўных кармавых рэсурсаў і магчымасцей, прытрымліваючыся арыентовачных норм НКЗБ, устанаўляе свае кармавыя нормы, падлічваючы асобна па кожнаму кварталу і на ўвесь кармавы год агульную патрэбнасць у кармах для коней, кароў, нецелей і іншых вытворчых груп жывёлы.

Калі ў калгасе акажацца недахоп корму для абагуленай і неабагуленай жывёлы, неабходна зараз-жа арганізаваць закупку і абмен кармамі, каб поўнасцю пакрыць гэты недахоп.

Установлены і зацверджаны калгасам, МТС, або райза фонд кармоў і подсцілкі безадкладна размяркоўваецца паміж фермамі і відамі жывёлы і па спецыяльных актах передаецца загадчыкам ферм. У актах абавязкова ўказваецца колькасць і якасць кожнага корму і ўмовы яго захавання. Ні ў якім разе нельга замацоўваць адзін і той самы стог ці пуню за коньмі і каровамі ці за коньмі некалькіх брыгад. Гэта павядзе да безадказнасці ў расходванні кармоў і да разбазарвання іх.

Атрымаўшы кармавы фонд, загадчык фермы і старшы конюх разам з брыгадай складаюць падрабязны кармавы план на кожны месяц для кожнай групы свайго пагалоўя. У плане абавязкова ўказваецца, з якога па які тэрмін, у якім выглядзе і па колькі корму будзе выдавацца на галаву, колькі раз у дзень і ў якія гадзіны будзе карміцца жывёла, дзе і як будуць захоўвацца кармы. У кармавым плане

старшага конюха абавязкова ўказваецца, колькі і якіх кармоў забраніявана для рабочых коней на час вясенне-летніх работ і выканання дзяржаўных заданняў па вывазцы лесу і будматар'ялаў. У кармавым плане фермы ўказваецца, колькі і якіх кармоў забраніявана на час масавых ацёлаў, апаросаў і т. д., а таксама на вясенні пераходны перыяд. Кармавы план кожнай фермы і стайні зацвярджаецца праўленнем і рэўкамісіяй і для кожнай фермы і брыгады становіцца абавязковым для выканання.

Вялікую шкоду нашай жывёлагадоўлі прыносіць беспарадкавае і няроўнамернае кармленне жывёлы, калі спачатку жывёлу кормяць толькі добрым кормам, потым толькі дрэнным, ці калі спачатку жывёле даюць корм без усякай меры, а потым трымаюць на поўгалодным і нават галодным пайку. Адгэтуль—нізкія ўдоі, слабы прырост маладняка і адкормачнікаў, а таксама захворванне страўнікавымі хваробамі і значны падзеж жывёлы. Кожны калгас і соўгас, кожная ферма і брыгада павінны ва што-б там ні стала забяспечыць роўнамернае і дастатковае кармленне пагалоў'я на працягу ўсяго года. Кармавыя дачы для кожнай групы жывёлы павінны састаўляцца з 3—4 відаў корму з дастатковай колькасцю грубых, сакавітых і канцэнтратаў. Лепшыя кармы скармліваць разам з горшымі.

Брыгада таксама павінна звярнуць увагу на рацыянальнае скарыстанне саломы: арганізаваць рэзку і запарванне саломы. Скармліванне сілосу распачаць з восені, праз $1^1/_2$—2 месяцы пасля закладкі. Скармліванне караняплодаў таксама пачынаць з восені, даючы спачатку турнепс, потым моркву, буракі і бручку. Бульбу, як правіла, неабходна скармліваць варанай. Сечку і мякіну запарваць гарачай вадою, караняплоды даваць у рэзаным выглядзе. Мёрзлыя караняплоды і сілос даваць толькі пасля таго, як яны адтаюць. Ад аднаго корму к другому рабіць паступовы пераход на працягу некалькіх дзён, карміць жывёлу ў строга вызначаныя гадзіны.

Жывёле, асабліва матачнаму пагалоўю і маладняку, трэба даваць мінеральную падкормку: звычайнай солі 10—15 грам у суткі каню і 15—20 грам карове. Маладняку, акрамя солі, даваць крэйду і т. п.

Згодна пастанове ЦК КП(б)Б і НКЗБ, калгасы павінны былі даўно закончыць выдзяленне кармавых фондаў і складанне кармавых планаў. Аднак, на 10 лістапада больш 40 раёнаў яшчэ не далі НКЗБ ніякіх звестак аб выдзяленні кармоў для коней і 28 раёнаў для іншага абагуленага пагалоўя. Раённыя арганізацыі, палітаддзелы МТС і сельсоветы павінны дабіцца, каб у бліжэйшыя дні ва ўсіх калгасах былі выдзелены патрэбныя кармавыя фонды, павінны арганізаваць дэталёвую праверку кармавога плана кожнага калгаса і зацвердзіць яго у райза ці МТС.

Цяпер-жа неабходна наладзіць рэгулярную праверку расходвання і ўліку кармоў і кармлення на працягу ўсяго года. Праўленні калгасаў і рэўкамісіі, а ў соўгасах дырэктары не менш аднаго раза ў месяц павінны правяраць фактычнае расходванне кармоў па ўстаноўленых нормах і парадку кармлення жывёлы згодна запісам у кнігах, цесна ўвязаўшы гэтую праверку з месячнымі ўдоямі кожнай каровы, прыростам маладняка і адкормачнікаў.

Адсутнасць уліку і праверкі дае поўны прастор раскрадванню і разбазарванню кармоў, прадукцыі і працадзён.

Яркім гэтаму прыкладам можа служыць калгас „Перамога" Шклоўскага раёна.

Увосень 1933 года праўленне калгаса размеркавала кармавы фонд паміж конегадоўляй і МТФ, прычым для МТФ усе кармы былі выданы з восені. Гэта дало магчымасць загадчыку фермы т. Дуйнову арганізаваць правільнае выкарыстанне іх і пры параўнаўча ўмераным кармленні атрымаць у 1933 годзе 940 літраў малака на фуражную карову. Кармавы-ж фонд для коней не быў размяркован між брыгадамі. Канюхі бралі грубыя кармы, а часткова і канцэнграты не па норме, а па свайму жаданню. Больш таго, паколькі частка коней стаяла ў хлявах калгаснікаў, разам з іх жывёлай, то частка сена, прызначанага для калгасных коней, пападала і жывёле калгаснікаў.

Паводле рахунковых кніг, на 1 мая г. г. калгас меў для коней 270 цнт. уласнага сена, на справе-ж к 1 мая канюхі расходвалі не толькі ўсё выдзеленае з восені сена, але і на 7.500 р. купленага. Прычым, з-за дрэннага планавання конскай цягавай сілы і дрэннага кармлення коней, колгас „Перамога“ адным з апошніх у раёне, і то з дапамогай суседніх калгасаў, закончыў вясеннюю пасеўную.

## Палепшыць арганізацыю працы

Поспех падрыхтоўкі да зімы ў першую чаргу будзе залежаць ад жывёлагадоўчых брыгад. Гэта абавязвае кожны калгас і соўгас стварыць на ферме сапраўды пастаянную жывёлагадоўчую брыгаду і забяспечыць ёй усе неабходныя ўмовы, каб кожны член брыгады мог працаваць на ферме не менш двух год.

На падставе рашэнняў ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, а таксама норм нагрузкі, даных НКЗБ, неабходна, улічваючы канкрэтныя ўмовы кожнай гаспадаркі (колькасць жывёлы, яе размяшчэнне і т. д.), безадкладна выявіць патрэбнасць у рабочай сіле кожнага віду жывёлы і ўкамплектаваць пастаянныя жывёлагадоўчыя брыгады праверанымі калгаснікамі, калгасніцамі, рабочымі соўгасаў, якія любяць жывёлагадоўлю, маюць вопыт і навык у гэтай справе.

Аднachасова трэба праверыць наяўны склад жывёлагадоўчых брыгад і ачысціць іх ад класава-варожых элементаў і гультаёў. У кожнай брыгадзе і вакол яе стварыць актыў з найбольш адданых калгаснай справе, вопытных калгаснікаў і калгасніц і забяспечыць яе партыйна-комсамольскім ядром.

Усю работу абавязкова перавесці на сапраўдную здзельшчыну. Для гэтага неабходна, выходзячы з указанняў ліпеньскага пленума, здзельных расцэнак НКЗБ і ўмоў кожнай гаспадаркі (састаў пагалоўя жывёлы, забяспечанасць яе будынкамі, характар будынкаў і т. д.), устанавіць здзельныя расцэнкі работ па кожнай ферме. Каб канчаткова знішчыць абязлічку, трэба размеркаваць пагалоўе паміж членамі брыгады на ўвесь час абслугоўвання і налічаць працадні ў залежнасці ад вынікаў працы кожнага калгасніка і калгасніцы, ад выканання імі плана абслугоўвання пагалоў'я, вырошчвання маладняка і выхаду прадукцыі. За перавыкананне плана і добрую якасць работы практыкаваць дадатковае налічэнне працадзён да 15 проц. і натуральнае прэміяванне маладняком. За падзеж маладняка, ялавасць матак і дрэнную работу— вылічаць з членаў жывёлагадоўчых брыгад да 15 проц. выпрацаваных імі працадзён. У брыгадах павінны сістэматычна працаваць вытворчыя нарады і гурткі па ауладанню зоатэхнікай. Уся работа брыгад павінна праводзіцца на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва, па зацверджанаму праўленнем унутранаму распарадку догляду і кармлення жывёлы.

Падрыхтоўку да зімоўкі жывёлы неабходна цесна ўвязаць з правядзеннем вынікаў конкурса на лепшы па жывёлагадоўлі сельсовет і ферму. Кожную з адстаючых ферм і брыгад неабходна ўзяць пад асобы нагляд праўлення калгаса, сельсоветаў, раённых арганізацый, палітаддзелаў МТС, памятаючы, што кожная адстаючая ферма і калгас затрымлівае агульны пераможны рух калгаснага будаўніцтва.

Адным з важнейшых пунктаў наказаў пры перавыбарах сельсоветаў павінны быць пытанні аб максімальным пашырэнні і палепшанні жывёлагадоўлі.

Лепшыя калгасы і фермы павінны дапамагчы адстаючым сваім вопытам, арганізуючы пасылку буксірных брыгад, сумесныя нарады па абмену вопытам і т. д.

Вопыт лепшых сельсоветаў, калгасаў, ферм і брыгад павінен шырока асвятляцца ў цэнтральным, раённым, палітаддзельскім і насценным друку.

Шырокай мабілізацыяй калгасных мас, усіх працоўных і ў прыватнасці ленінскага комсамола і спецыялістаў на барацьбу за палепшанне жывёлагадоўлі, канкрэтнай дапамогай кожнай ферме і брыгадзе, асабліва адстаючым, даб'емся хуткага знішчэння недахопаў у рабоце ферм і брыгад і паспяхова выканаем указанні аб жывёлагадоўлі, даныя вялікім правадыром і настаўнікам працоўных— т. Сталіным.

**А. Гарэлікаў**

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

Г. Ф. Ерафееў і Н. М. Сырэц

## Таптанне на месцы

*(Агляд часопіса „Комуністычнае выхаванне"—орган Наркамасветы ЦП саюза працасветы за 1934 г.).*

Совецкая школа „павінна быць не толькі правадніком прынцыпаў комунізма наогул, але і правадніком ідэйнага, арганізацыйнага, выхаваўчага ўплыву пролетарыята на поўпролетарскія слаі працоўных мас у мэтах выхавання пакалення, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм" (з праграмы ВКП(б)).

Ажыццяўляючы праграму ВКП(б) па народнай асвеце, партыя і пролетарская дзяржава дабіліся велізарнейшых поспехаў. Калі ў былой царскай Расіі ў 1914 г. у пачатковай і сярэдняй школе навучалася толькі 7 млн. 800 тыс., то ў СССР у 1933 г. колькасць вучняў пачатковай і сярэдняй школы дасягнула 25 млн. 837 тыс. Карэнным чынам зменен соцыяльны склад вучняў, змест і метады навучання і выхавання дзяцей.

Асабліва паказальны рост школьнай сеці ў БССР. У дарэволюцыйны час больш як $^3/_4$ насельніцтва беларусаў было нягграматным. Зараз у Беларусі ажыццёўлена ў асноўным суцэльная граматнасць працоўных. Совецкая Беларусь, пры дапамозе брацкіх рэспублік, першай у Саюзе советаў, ажыццявіла пастанову ЦК ВКП(б) ад 25-VII 1930 г. аб усеагульным абавязковым навучанні.

Значна палепшылася якасць вучобы. Праведзена агромнейшая работа ў барацьбе з правымі ўстаноўкамі аб звароце да старой схаластычнай школы муштры і зуброжкі, з лявацкімі „тэорыямі". Праведзена значная работа па выкрыццю і ачыстцы школ ад контррэволюцыйных нацдэмаўскіх элементаў.

Прынятыя ў маі месяцы СНК СССР і ЦК ВКП(б) пастановы аб школе ёсць паслядоўны працяг барацьбы партыі за ажыццяўленне праграмы ВКП(б).

Гэтыя пастановы з усёй чоткасцю ўскрываюць недахопы ў рабоце школ, у кіраўніцтве імі Наркамасветы і яго нізавых органаў.

СНК і ЦК з усёй рашучасцю падкрэслілі, што ў радзе школ няма цвёрдага большэвіцкага парадку і дысцыпліны, няма звязнага выкладання грамадзянскай гісторыі,—яно замянялася „абстрактнымі соцыялагічнымі схемамі", у выніку чаго вучні праяўлялі паўнейшае няведанне гістарычных падзей, фактаў, дат і дзеячоў, а без гэтага нельга рыхтаваць „усебакова развітога члена комуністычнага грамадства". Адзначаны таксама сур'ёзнейшыя недахопы ў выкладанні геаграфіі, з-за чаго вучні „выходзяць са школы, не ўладаючы часта геаграфічнымі ведамі".

У святле гэтых задач, дасягненняў і ясных дырэктыў партыі часопіс „Комуністычнае выхаванне" павінен быў весці падрыхтоўчую

работу ца новага навучальнага года: дапамагчы 30-тысячнай арміі настаўніцтва папоўніць свае тэарэтычныя і практычныя веды ў духу вучэння Маркса—Леніна—Сталіна; ускрываць недахопы работы паасобных раёнаў, школ, настаўнікаў, мабілізаваць масы на знішчэнне гэтых недахопаў; умела паказаць нашы дасягненні, работу перадавых школ і настаўнікаў, на вопыце якіх падцягваць адстаючых; выкрываць класавvarожыя элементы і іх „тэорыі“ у пытаннях выхавання новага пакалення. Вось, далёка няпоўная, тэматыка пытанняў, якімі павінен быў займацца часопіс „Комуністычнае выхаванне“.

Бюро ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні ад 16 мая гг. адзначала, што „Пастаноўка работы часопіса „Комуністычнае выхаванне“ не адпавядае ўзросшым палітычным патрабаванням масавай школы“ і прапанавала „Наркамасветы і ЦП саюза рэарганізаваць часопіс, зрабіўшы яго аперацыйным органам, аказваючым практычную дапамогу ў рабоце пачатковай і сярэдняй школы“. Адначасова бюро ЦК абавязала „рэдакцыю часопіса скараціць да мінімума змяшчэнне рознага роду афіцыяльных матар'ялаў, доўгіх метадычных лістоў, дабіваючыся таго, **каб не менш $^2/_3$ матар'ялаў было прысвечана непасрэднай рабоце і перабудове школ, рабоце лепшых настаўнікаў-ударнікаў, падаючы матар'ял у жывой канкрэтнай форме“.**

Пасля рашэння ЦК КП(б)Б аб час. „Ком. вых.“, прайшло ўжо больш 5-ці месяцаў, а практычныя ўказанні рэдакцыяй часопіса не выконваюцца.

Згодна плану, які змешчан у апошнім 3—4 нумары „Комуністычнага выхавання“ за сакавік і красавік, к пачатку 1934—35 навучальнага года павінен быў выйсці 8 нумар. Аднак, план застаўся планам, рэдакцыя-ж спаткала і падрыхтоўку і пачатак навучальнага года **тымжа 3—4 нумарам за сакавік і красавік месяцы.**

Такая, з дазволу кажучы, „аперацыйнасць“ работы сведчыць аб тым, што рэдакцыя па сутнасці топчацца на месцы і рашэнне ЦК да гэтага часу не рэалізавана.

У ліпені бюро ЦК КП(б)Б адзначыла нездавальняючы ход падрыхтоўкі да новага навучальнага года. Рэдакцыя і тут праявіла бяздзейнасць, не арганізавала выпуску часопіса, не мабілізавала масы на рэалізацыю рашэння Бюро ЦК.

Большасць артыкулаў, змешчаных у №№ 1—4 часопіса, далёка не адпавядаюць задачам „Комуністычнага выхавання“. Тут мы бачым разважанні наогул, канстатацыю фактаў, блытаніну, беспрынцыповасць, адарванасць ад непасрэдных задач і практыкі работы школы і настаўніка.

Часопіс выходзіць са спазненнем на 1—2 месяцы, падвойнымі нумарамі, большасць якіх перапоўнена велізарнымі канстатуючымі артыкуламі, метадараспрацоўкамі і артыкуламі-дырэктывамі. Класававарожыя нацдэмаўскія, антысеміцкія і клерыкальныя вылазкі ў школах фіксуюцца са значным спазненнем і без большэвіцкай завостранасці.

Вядома, якое агромнае значэнне для аўладання канкрэтнымі ведамі мае палітычны і культурны рост вучняў, сістэматычнае азнаямленне дзяцей, прыстасоўна да іх узросту і развіцця, з падзеямі, што адбываюцца ў краіне, з тымі задачамі, якія стаяць перад партыяй і працоўнымі масамі горада і вёскі ў справе пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Паглядзім, як гэта пытанне выражае часопіс.

Рэдакцыя ў № 1—2 часопіса змяшчае „грандыёзную“ метадараспрацоўку даклада тав. Сталіна, разлічаную на ўсіх вучняў, **незалежна ад**

узросту, з каментарыямі ад рэдакцыі: **„Свядома і моцна засвоіць** (вучням—*Е.* і *С.*) **даклад т. Сталіна.** У першым і другім класах прапануецца адвесці на распрацоўку і „засваенне“ 3 гадзіны, а ў трэцім і чацвертым—5 гадзін. Адначасова прыпадносіцца план прапрацоўкі з пытаннямі: **„а) характэрныя асаблівасці сучаснага крызіса ў капіталістычных краінах, б) фактычнае становішча прамысловасці ў СССР і капіталістычных краінах, в) фашызм і вайна, як капіталістычныя спосабы развязвання зацяжнага эканамічнага крызіса“** і т. д. і т. п.

Няўжо рэдакцыя не зразумела, што характар метадаў прапрацоўкі даклада т. Сталіна з дзецьмі павінен адпавядаць іх узросту?

Вядома, далей, якое агромнае палітычнае значэнне мае ў нас барацьба з рэшткамі нацдэмаўшчыны ў школах, бо асаблівую стараннасць праявілі нацдэмы якраз на фронце культурнага будаўніцтва. Гэта абавязвае часопіс своечасова і з палітычнай вострасцю выкрываць шкодніцкую, контррэволюцыйную работу беларускіх нацдэмаў, мабілізуючы вакол гэтых важнейшых пытанняў увагу выкладчыкаў і вучняў.

У артыкуле „Школы Бягомельшчыны—на агляд мас“, (час „К. в.“ № 1—2) канстатуецца **„ў Бярэзінскай ШКМ працуе настаўніца Лукашонак—дачка папа. З'яўляючыся загадчыцай школьнай бібліятэкі, яна зусім свядома распаўсюджвае сярод вучняў нацдэмаўскую контррэволюцыйную літаратуру. Загадчык-жа гэтай школы Рыёнак (дарэчы муж Лукашонак), замест барацьбы з распаўсюджваннем шкоднай літаратуры, сам патураў гэтаму, адкрыта выяўляючы сваё спачуванне контррэволюцыянерам—нацдэмам Лёсіку, Ластоўскаму і т. д.“**

Падобных фактаў зафіксавана нямала ў розных артыкулах. Аднак большэвіцкай ацэнкі і моцных вывадаў з іх часопіс не робіць, таксама не сказана ні слова аб парткіраўніцтве школамі Бягомельшчыны. Калі-ж напомніць рэдакцыі, што часопіс вышаў у канцы сакавіка г. г., а гэтыя факты ў школах Бягомельшчыны выкрыты ў 1933 г., і што рэдакцыя ў канцы артыкула зрабіла вывад: „Інструктарам-метадыстам НКА трэба як часцей заглядваць у прамежныя раёны“, то напрашваецца вывад, што аперацыйнасць і большэвіцкая завостранасць зусім слабы ў рэдакцыі „Комуністычнага выхавання“. Пасля ўсяго гэтага не дзіўна, што ў Бягомельшчыне доўгі час кіраваў школамі нацдэм контррэволюцыянер Кіган.

Возьмем 3—4 нумар часопіса.

У вялікім перадавым артыкуле **„За ўдзел школы ў большэвіцкай сяўбе“** (стар. 3—10) даюцца агульныя фармулёўкі аб правядзенні веснавой сяўбы, і амаль ні слова не сказана аб тым, што-ж канкрэтна часопіс патрабуе ад школы, настаўніка і вучня ў час веснавой сяўбы.

Перадавіца адзначае:

„У мінулым годзе былі выпадкі калі ў некаторых раёнах у час пасеўнай кампаніі мясцовыя арганізацыі адрывалі школьнікаў ад вучобы і пасылалі на ўсялякія палявыя работы ў соўгасах, і калгасах... Гэтыя перагібы, наносячы вялікую шкоду ўсенавучу ні ў якім разе не павінны паўтарацца“.

**І тут-жа патрабуе:**

„Уцягваючы вучняў у барацьбу за паспяховае правядзенне сяўбы, неабходна памятаць, што яна супадае з вельмі сур'ёзным і адказным перыядам у школе“.

Незразумела, што маглі рабіць настаўнікі і вучні пасля такіх „выразных“ парад перадавіцы: выйсці на дапамогу, ці змагацца за паспяховае заканчэнне навучальнага года? Патрэбна было ясна і больш канкрэтнаю мовай указаць, як змагацца з леташнімі перагібамі і ў чым павінен выражацца ўдзел школы і вучняў у пасеўнай.

У тым-жа нумары, у артыкуле Іоффе за „**Сапраўднае інтэрнацыянальнае выхаванне піонераў і вучняў**“, даказваецца, што адной з форм інтэрнацыянальнай работы з дзецьмі павінен „з'явіцца інтэрнацыянальны кангрэс. Таму, піша часопіс: „Неабходна, каб кожны піонер-атрад і звенні вывучалі капіталістычныя дзяржавы, іх гаспадарку, палітыку, дзіцячую працу, школу, эканамічнае становішча рабочых, буржуазныя дзіцячыя арганізацыі“ і т. д., пасля чаго раіць адвесці для падрыхтоўкі да „кангрэса“ паўтара месяца, а потым, апрануўшыся ў нацыянальныя вопраткі, пачаць „кангрэс парадам дэлегацыі, якую зал сустракае баявымі лозунгамі на розных мовах“.

Такія-ж метады інтэрнацыянальнага выхавання, па думцы рэдакцыі, можна ўжываць пры скліканні „з'езда народаў СССР“: „Шляхі арганізацыі з'езда народаў СССР тыя-ж, што і кангрэса“.

Наперакор рашэнням ЦК аб забароне перагрузкі піонераў-школьнікаў, рэдакцыя ад гэтай работы бачыць карысць „не толькі выхаваўчую, але і адукацыйную таму, што рэбятам для падрыхтоўкі як „кангрэса“, так і з'езда народаў СССР“ неабходна пакапацца ў бібліятэках, энцыклапедыях, у навукова-папулярных тэхнічных кнігах.

Такое, з дазволу кажучы, „інтэрнацыянальнае выхаванне“ рэкорднымі тэмпамі не толькі не дапаможа вучням вывучыць капіталістычныя краіны, іх эканоміку і палітыку, але пагубна адаб'ецца як на іх маральным, так і фізічным стане, бо замест стабільных падручнікаў ім прыдзецца „пакапацца“ ў бібліятэчных энцыклапедыях і тэхнічных кнігах. Чаму-б рэдакцыі не заняцца папулярызацыяй больш зразумелых для дзяцей метадаў работы па інтэрнацыянальнаму выхаванню, як вечары самадзейнасці, сустрэчы, гульні.

Часопіс „Комуністычнае выхаванне“ пакуль што дрэнна спраўляецца з ускладзенымі на яго задачамі, і топчацца на месцы.

Чым можна вытлумачыць такую пастаноўку работы? У першую чаргу тым, што на старонках часопіса не разгорнута большэвіцкая крытыка і самакрытыка, што артыкулы, якія змяшчаюцца ў часопісе, часцяком палітычна бяззубы, што часопіс праяўляе мала ініцыятывы. Па-другое, тым, што часопіс замкнуўся ў сваёй уласнай скарлупе, адарваўся ад мас настаўніцтва і грамадскасці.

Хто можа паверыць, што з 30 тысяч настаўнікаў школ Беларусі практычны ўдзел у рабоце часопіса прымаюць толькі некалькі чалавек (Масюкевіч, Зенчанка). Або, хто можа паверыць, што пры наяўнасці такой масы настаўнікаў і школ часопіс распаўсюджваецца ў вельмі абмежаванай колькасці экземпляраў.

Рэдакцыя час „Комуністычнае выхаванне“ павінна і можа наладзіць работу, зразумеўшы, што яе задача не толькі ў майстраванні габінетных артыкулаў і методараспрацовак, а ў штодзеннай арганізацыі і ўцягванні ў работу часопіса самых шырокіх мас настаўнікаў-ударнікаў.

Наркамасветы і ЦП саюза працасветы павінны забяспечыць неадкладную перабудову работы рэдакцыі часопіса ў адпаведнасці з рашэннем бюро ЦК КП(б)Б ад 16 мая г. г. і дапамагчы час. „Комуністычнае выхаванне“ стаць практычным аперацыйным баявым арганізатарам работы школ.

---

## Кніжная паліца

**ЛЕНИН, В. И. Избранные произведения в двух томах.** Под общей редакцией **В. В. Адоратского, В. Г. Сорина, А. И. Стецкого,** т. I, Москва, Партиздат. 1934 г. С. 624. Ц. 3 р. 50 к.

Матар'ял абодвух томаў распаложан у храналагічным парадку і ахоплівае ўсе найбольш істотныя і значныя работы Леніна.

Першы том ахапляе перыяд дзейнасці Леніна да лютаўскай рэвалюцыі. Акрамя раду артыкулаў, дакладаў, прамоў, рэзалюцый, афіцыяльных партыйных і савецкіх дакументаў, у I том двухтомніка ўключаны наступныя буйныя працы Леніна: «Задачы рускіх соцыялдэмакратаў», «Што рабіць?», «Дзве тактыкі» і «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма».

«Што рабіць?» (1902 г.) з'яўляецца важнейшай работай Леніна, якая змяшчае арганізацыйныя прынцыпы пабудовы пролетарскай партыі і яе тактычныя задачы і ў той-жа час падвяргае знішчальнай крытыцы эканамізм—апартуністычнае крыло ў рускай соцыял-дэмакратыі, папярэдніка меншавізма.

Брашура «Дзве тактыкі» (1905 г.) ізлагае задачы пролетарыята ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905 года і паказвае глыбокую розніцу паміж большэвізмам, які праводзіў палітыку рэвалюцыйнага пролетарыята, і меншавізмам, які імкнуўся ператварыць рабочы клас у прыхвасня буржуазіі.

«Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма» (1906 г.) характарызуе асаблівасці імперыялізма, як апошняга этапа ў развіцці капіталістычнага грамадства, як пярэдадня соцыялістычнай рэвалюцыі.

У I томе, у якасці ўводзін змешчаны чатыры работы т. Сталіна, якія характарызуюць ролю і значэнне Леніна і ленінізма: «По поводу смерти Ленина», «Ленин, как организатор и вождь РКП(б)», « О Ленине» и «Из беседы с первой американской рабочей делегацией».

**Леніна, Н. І. Дзяржава і рэвалюцыя.** Менск. Партвыдавецтва 1934 г. С. 93. Ц. 3 р. 85 к.

Гэты класічны твор Леніна ўскрывае апартуністычныя скажэнні рэвізіяністамі Каўцкім і К° вучэння Маркса—Энгельса аб дзяржаве. Ён паказвае, што асноўная сутнасць марксізма заключаецца ў вучэнні аб дыктатуры пролетарыята.

Вызначаючы галоўную ідэю рэвалюцыйнага марксізма аб гістарычнай ролі буржуазнай дзяржавы, як прадукта непрымірымасці класавых супярэчнасцей і зброі эксплаатацыі прыгнечаных, Ленін

аднаўляе скажоныя апартуністамі важнейшыя палажэнні Маркса і Энгельса аб неабходнасці і немінучасці знішчэння пролетарыятам буржуазнай дзяржаўнай машыны, намячае і развівае далей вучэнне Маркса аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята.

У канцы Ленін спыняецца на фазах комуністычнага грамадства і прадпасылках адмірання дзяржавы пры поўным комунізме. Дадаткам змешчана лекцыя Леніна ў Свярдлоўскім універсітэце 11 ліпеня 1919 г. «Аб дзяржаве».

**ЛЕНІН, В. І. Пролетарская рэволюцыя і рэнегат Каўцкі.** Менск. Партвыдавецтва, 1934 г. С. 74. Ц. 50 кап.

Напісаная ў кастрычніку—лістападзе 1918 года, гэтая работа Уладзіміра Ільіча ўскрывае здраду Каўцкага марксізму, абарону ім капіталістычнага ладу і лакейства яго перад буржуазіяй.

Ускрываючы скажэнні і апашленні Каўцкім вучэння Маркса аб дзяржаве, пролетарскай рэволюцыі, дыктатуры пролетарыята, Ленін дае чоткае вызначэнне гэтых паняццяў у духу рэволюцыйнага марксізма, развівае і канкрэтызуе гэтыя галоўнейшыя пытанні марксіцка-ленінскай тэорыі адпаведна вопыту пролетарскай рэволюцыі і першага году існавання дыктатуры пролетарыята ў форме совецкай улады ў нашай краіне.

Разам з гэтым Уладзімір Ільіч з вялікай чоткасцю і ўласцівай яму геніяльнай глыбынёю вызначае совецкія формы дыктатуры пролетарыята, як вышэйшую форму дэмакратыі. Ён выкрывае, як пад абаронай «чыстай дэмакратыі» соцыял-дэмакраты з рэнегатам Каўцкім на чале на справе абараняюць буржуазную дыктатуру і імкнуцца даказаць недапушчальнасць гвалтоўнага звяржэння капіталістычнага ладу. Асабліва трэба адзначыць глыбокі аналіз Окцябрскай рэволюцыі, узаемаадносіны пролетарыята і сялянства на розных ступенях развіцця рэволюцыі, а таксама, што Окцябрская рэволюцыя пацвердзіла правільнасць марксіцка-ленінскага вучэння аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў пролетарскую.

**СТАЛІН, І. В. Пытанні ленінізма** Пераклад з 9-га рускага выдання. Менск, Партвыдавецтва. 1934 г. С. 600, Ц. 5 руб.

«Пытанні ленінізма» Сталіна ўнеслі новыя каштоўнасці ў залаты фонд рэволюцыйнай тэорыі марксізма-ленінізма. Тав. Сталін распрацаваў і развіў вучэнне Леніна прыстасоўна да новых этапаў рэволюцыі.

Кніга «Пытанні ленінізма», у якой згуртаваны асноўныя кіруючыя работы тав. Сталіна, напісаныя ім за 1924—1932 гг., яшчэ і яшчэ раз вучыць і напамінае аб ролі тэорыі для рэволюцыйнай пролетарскай партыі.

Змест гэтага выдання наступны: «Аб асновах ленінізма»; «Окцябрская рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў»; «Да нацыянальнага пытання ў Юга-Славіі»; «Да ітогаў работ XIV канферэнцыі РКП(б)»; «Аб палітычных задачах Універсітэта народаў Усходу»; «Яшчэ раз да нацыянальнага пытання»; «Аб задачах комсамола»; «Да пытанняў ленінізма»; «Да пытання аб рабоча-сялянскім урадзе»; «Аб трох асноўных лозунгах партыі па сялянскаму пытанню»; «Аб лозунгу дыктатуры пролетарыята і бяднейшага сялянства ў перыяд падрыхтоўкі Окцябра»; «Гутарка з першай амерыканскай рабочай дэлегацыяй»;

«Гутарка з іншакраіннымі рабочымі дэлегацыямі»; «На хлебным фронце»; «Ленін і пытанне аб саюзе з серадняком»; «Аб ітогах ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б)»; «Аб правай небяспецы ў ВКП(б)»; «Аб індустрыялізацыі краіны і аб правым ухіле ў ВКП(б)»; «Аб правым ухіле ў ВКП(б)»; «Год вялікага пералому»; «Да пытанняў аграрнай палітыкі ў СССР»; «Да пытання аб палітыцы ліквідацыі кулацтва як класа»; «Галавакружэнне ад поспехаў»; «Адказ таварышам калгаснікам»; «Палітычны адчот ЦК XVI з'езду ВКП(б)»; «Аб задачах гаспадарнікаў»; «Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва».

Перакладзеная на ўсе мовы народаў СССР і большасць замежных моў, кніг Сталіна «Пытанні ленінізма» стала адной з асноўнейшых крыніц марксісцка-ленінскага пазнання і рэволюцыйнай вучобы, тэорыі і практыкі социялістычнай рэволюцыі, стала настольнаю кнігай кожнага комуніста, кожнага перадавога рабочага і калгасніка.

**ФРУНЗЕ, М. В. Избранные произведения. Москва. Партиздат.** 1934 г. С. 598, Ц. 6 руб.

Імя М. В. Фрунзе шырока вядома нашай партыі, Чырвонай арміі, рабочым і сялянам нашай краіны. З гэтым імем звязана герайчная работа большэвіцкага падполля, перыяд арганізацыі Чырвонай арміі, рад бліскучых перамог на важнейшых фронтах грамадзянскай вайны.

Бліскучы практык і арганізатар Фрунзе быў адначасова і адным з адукаванейшых паслядоўнікаў вучэння Маркса—Леніна ў пытаннях вайны, умеў узнімаць і вырашаць у ленінскім стылі пытанні велізарнай тэарэтычнай важнасці.

Абшырная літаратурная спадчына М. В. Фрунзе прадстаўляе вялікую тэарэтычную каштоўнасць. Літаратурная спадчына Фрунзе была выдана Дзяржвыдавецтвам у трох томах.

Данае выданне з'яўляецца зборнікам важнейшых прамоў, артыкулаў і дакументаў, раней увашоўшых у 3-х томнае выданне твораў. Акрамя гэтага, у яго ўключаны некаторыя неапублікаваныя да гэтага часу матар'ялы. Большасць работ Фрунзе, што ўвашлі ў гэта выданне, адносяцца к перыяду 1924—1925 гг., гэта значыць—к перыяду важнейшых ваенных рэформ. Творы М. В. Фрунзе, не гледзячы на тое, што яны напісаны 9—10 год назад, узнімаюць і асвятляюць пытанні, цалкам актуальныя і важныя зараз. У справе аўладання маштабам вядзення вайны вывучэнне работ М. В. Фрунзе прынясе агромную карысць.

**Благоева-Стэла. Георгій Дзімітраў.** Менск, ДВБ, 1934 г. С. 107, Ц. 1 р. 35 к.

У форме нарысу ў кнізе даецца багаты і цікавы матар'ял з рэволюцыйнага жыцця і дзейнасці вядомага балгарскага комуніста Георгія Дзімітрава. Кніжка напісана на падставе багацейшых матар'ялаў, успамінаў аўтара і яе асабістых гутарак з тав. Дзімітравым. Кніжка арганічна звязвае ў адно цэлае рэволюцыйнае жыццё і дзейнасць тав. Дзімітрава і паасобныя этапы балгарскага і міжнароднага рэволюцыйнага руху.

У першай частцы яркімі штрыхамі апісваюцца ўмовы, у якіх рос Дзімітраў, яго шлях к большэвізму, яго работа ў час вайны, у падполлі, кіруючая роля і ўдзел у паўстанні 1923 г. у Балгарыі, гады

барацьбы і работы ў эміграцыі. Другая частка прысвечана Лейпцыгскаму працэсу, гераічным паводзінам Дзімітрава на судзе, выкрыццю ім фашысцкай правакацыі. Далей апісваецца заключэнне ў падвалах тайнай берлінскай паліцыі пасля вынясення апраўдальнага прыгавору, нарэшце вызваленне Дзімітрава і яго прыезд у Маскву.

У дадатку змешчан аўтарызаваны тав. Дзімітравым тэкст яго заключнага выступлення на лейпцыгскім судзе.

**Праграма і статут Комуністычнага Інтэрнацыянала.** Пераклад з рускай мовы. Менск, Партвыдавецтва. 1934.—С. 160. Ц. 1 руб.

У першай частцы кнігі змешчана праграма Комуністычнага Інтэрнацыянала, прынятая на VI кангрэсе Комінтэрна.

Праграма Комінтэрна, будучы важнейшым крытычным абагуленнем усяго гістарычнага вопыту міжнароднага рэволюцыйнага руху пролетарыята, з'яўляецца праграмай барацьбы за сусветную дыктатуру пролетарыята, за сусветны комунізм.

Праграма складаецца з уводзін, дзе характарызуецца эпоха імперыялізма і даецца агульнае паняцце аб Комуністычным Інтэрнацыянале, і шасці раздзелаў: 1. Сусветная сістэма капіталізма, яе развіццё і немінучая пагібель; 2. Агульны крызіс капіталізма і першая фаза сусветнай рэволюцыі; 3. Канчатковая мэта Комуністычнага Інтэрнацыянала—сусветны комунізм; 4. Перыяд пераходны ад капіталізма к соцыялізму і дыктатуры пролетарыята; 5. Дыктатура пролетарыята ў СССР і міжнародная соцыялістычная рэволюцыя. 6. Стратэгія і тактыка Комуністычнага Інтэрнацыянала ў барацьбе за дыктатуру пролетарыята.

У другой частцы кнігі змешчан статут Комуністычнага Інтэрнацыянала.

**Брыгада Бібліяграфічнага Інстытута БССР імя ЛЕНІНА.**

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе выбараў у советы

### Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы паведамленне тт. Ляўкова і Кудзелькі аб ходзе перавыбарчай кампаніі советаў, ЦК канстатуе зусім нездавальняючае разгортванне перавыбараў советаў па цэламу раду раёнаў і асабліва дрэннае па **Бялыніцкаму, Магілеўскаму, Уваравіцкаму, Заслаўскаму, Суражскаму, Тэрахаўскаму і Чэрвеньскаму раёнах.**

ЦК адзначае, што першыя даныя аб выбарах гавораць аб радзе фактаў парушэння совецкай дэмакратыі (выбары пры недастатковай яўцы выбаршчыкаў, прапановы галасаваць за спіс у цэлым, прыняццё наказаў пры галасаванні меншасці выбаршчыкаў і т. д.), аб недастаткова сур'ёзным падыходзе раённых і сельскіх арганізацый да падбору кіруючых работнікаў сельсоветаў, аб недастатковай увазе да вылучэння самых лепшых, праверных ударнікаў і ўдарніц.

**Бюро ЦК пастанаўляе:** зацвердзіць унесенае тав. Ляўковым рашэнне цэнтральнай выбарчай камісіі аб роспуску Баркалабаўскай сельскай выбарчай камісіі, **Быхаўскага** раёна, і Прудкоўскай, **Мазырскага** раёна, і аб адмене перавыбараў у Шаршунскім і Слабодскім сельсоветах **Заслаўскага** раёна і Карміла ўскім сельсовеце, **Тэрахаўскага** раёна.

Адзначаючы невыкананне пастановы партыі і ўрада аб вылучэнні ў советы жанчын, а таксама комсамольцаў, ЦК папярэджвае райкомы і райвыканкомы, што ён будзе прыцягваць да самай строгай партыйнай адказнасці кіраўнікоў раёнаў у выпадку, калі імі не будуць выкананы гэтыя важнейшыя ўказанні партыі і ўрада.

У сувязі з наяўнасцю раду сігналаў з боку Камісіі совецкага кантроля аб тым, што ў некаторых раёнах ёсць няўважлівы і недастаткова дакладны разгляд скаргаў, а таксама зацяжка ў разглядзе скаргаў і заяў па пытаннях перавыбарчай кампаніі, ЦК прапануе ўсім старшыням РВК асабіста праверыць ход гэтай работы, а Цэнтральнай выбарчай камісіі заслухаць на сваім паседжанні паведамленні раду раёнаў спецыяльна па гэтых пытаннях.

ЦК лічыць нецярпімым недастатковы ўдзел у перавыбарах раду цэнтральных арганізацый—Белкаапсаюза, Наркамзема, Наркамасветы (удзел школьнікаў, піонераў і т. д.) і прапануе тт. Бенеку, Баскіну і Чарнушэвічу неадкладна прыняць самыя энергічныя меры для выпраўлення на-хаду маючыхся на месцах фактаў недастатковага ўдзелу ў перавыбарчай кампаніі іх нізавых органаў.

Прапанаваць ЦСПСБ 14 лістапада г.г. даць указанні па лініі ўсіх ЦП саюзаў аб рашучым узмацненні работы профарганізацый на прадпрыемствах і ў раёнах у час перавыбарчай кампаніі.

ЦК адзначае слабое афармленне гарадоў, чыгуначных станцый, прадпрыемстваў лозунгамі, плакатамі і інш. у сувязі з правядзеннем перавыбарчай кампаніі. ЦК прапануе ў двухдзённы тэрмін усім райкомам і РВК забяспечыць належнае афармленне лозунгамі, плакатамі і т. д. гарадоў, прадпрыемстваў і чыгуначных станцый.

Даручыць культпропу тав. Коніку неадкладна даць указанні па ўсёй сетцы партасветы аб шырокай прапрацоўцы пытанняў советаў і асноўных фактаў і матар'ялаў аб дасягненнях БССР і СССР за перыяд з X да XI усебеларускага з'езда советаў і з VI да VII усесаюзнага з'езда советаў.

ЦК лічыць, што баявое правядзенне кампаніі па выбарах советаў павінна дастойна завяршыць поспехі БССР па ўсіх іншых палітычна-гаспадарчых кампаніях (хлебазагатоўкі, бульбазагатоўкі, мясазагатоўкі, хлебазакупкі, ільназагатоўкі, выкананне гадавога промфінплана і т. д.). ЦК лічыць справай гонару кожнага комуніста, комсамольца і беспартыйнага актывіста забяспечыць сваёй узорнай работай поўнае выкананне планаў на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва.

# Аб пастаноўцы партыйна-масавай работы ў шклоўскай і пухавіцкай партарганізацыях

**Пастанова бюро ЦК КП(б)Б**

ЦК КП(б)Б устанаўляе, што Шклоўскі і Пухавіцкі райкомы партыі не перабудавалі работу партарганізацыі ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б), што яны (райкомы) не паставілі галоўнай задачай ідэйнае згуртаванне партарганізацый, актывізацыю ўнутрыпартыйнага жыцця і ўзмацненне штодзеннага кіраўніцтва савецкімі, прафсаюзнымі, комсамольскімі і іншымі арганізацыямі, а па сутнасці ў сваёй практычнай рабоце падмянілі гэтыя арганізацыі, перакладаючы гэту работу на партыйны апарат, і, як вынік, гэтыя раёны плятуцца ў хвасце па выкананню ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

а) Сапраўдная большэвіцкая перабудова ў гэтых раёнах была падменена па сутнасці толькі фармальнай перастаноўкай людзей і зменай назваў. За ўвесь час райкомы не праверылі і не заслухалі на сваіх паседжаннях ні адной пярвічнай партарганізацыі, парторга, паасобнага комуніста па пытаннях партыйнай работы.

б) Крайне слабая пастаноўка работы па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў (слабасць марксісцка-ленінскага выхавання, адсутнасць работы з комуністамі ў паасобку, адсутнасць работы са спачуваючымі і т. д.).

в) Партыйныя сходы з-за адсутнасці падрыхтоўкі да іх і праверкі выканання рашэнняў фактычна ператварыліся ў простую гаварыльню, а не з'яўляліся школай выхавання комуністаў. У выніку ў арганізацыі маюць месца элементы бытавога разлажэння, парушэння партыйнай і савецкай дысцыпліны.

г) Замест таго, каб узмацніць партыйна-масавую работу ў арганізацыях, чула і ўважліва адносіцца да запросаў мас, замест большэвіцкай работы з кожным комуністам, дапамогі яму, замест большэвіцкіх метадаў выхавання членаў партыі, кандыдатаў—райкомы сталі на шлях адміністравання і камандавання. У рэзультаце значная частка партарганізацыі была падвергнута партыйным спагнанням.

д) Адсутнасць пастаяннага кіраўніцтва інструктарамі, скарыстанне іх не як большэвіцкіх арганізатараў мас, а ў якасці ўпаўнаважаных па сельсоветах, па кампаніях прывялі да таго, што фактычна інструктары райкомаў выконвалі адміністрацыйныя функцыі.

**Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. За недапушчальныя адносіны да перабудовы партыйнай работы, за падмену масавай работы адміністраваннем аб'явіць сакратару Пухавіцкага райкома партыі т. Скараходу і сакратару Шклоўскага райкома

т. Шпаку—вымову. Папярэдзіць, што, калі яны ў бліжэйшы час не перабудуюць сваю работу, ЦК прыме самыя рашучыя меры.

2. Прапанаваць Пухавіцкаму і Шклоўскаму райкомам перагледзець свае рашэнні, звязаныя з масавым вынясеннем партспагнанняў членам і кандыдатам партыі.

3. Абавязаць райкомы непасрэдна дапамагаць пярвічным партыйным арганізацыям у правядзенні партыйных дзён, падрыхтоўцы дакладчыкаў, праверцы выканання рашэнняў сходаў комуністаў. Дабіцца таго, каб партыйныя сходы сталі школай партыйнага выхавання.

4. Абавязаць тт. Скарахода і Шпака асабіста і штодзенна кіраваць работай інструктароў і аказваць дапамогу ў іх рабоце. Інструктар на справе павінен стаць асноўным звязваючым звяном сакратара райкома партыі з пярвічнай партарганізацыяй і комуністамі-адзіночкамі.

5. Райкомы партыі на сваіх паседжаннях павінны сістэматычна заслухоўваць пытанні ўнутрыпартыйнай работы і партыйнай вучобы, як пярвічных партарганізацый, так і паасобных комуністаў, прычым асаблівую ўвагу трэба звярнуць на работу з комуністамі-адзіночкамі.

6. ЦК зварочвае выключную ўвагу райкомаў на неабходнасць павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню партыйных арганізацый. Марксісцка-ленінскае выхаванне павінна быць пастаўлена ў цэнтр увагі. Райкомы ўсёй сумай сваіх арганізацыйных масава-палітычных мерапрыемстваў павінны дабіцца такога становішча, каб кожны комуніст сапраўды быў важаком мас, з'яўляўся прыкладам у грамадскім жыцці і асабістым жыцці.

---

# Аб мерапрыемствах дапамогі комсамолу ў пастаноўцы марксісцка-ленінскай вучобы сярод комсамольцаў

## Пастанова ЦК КП(б)Б

ЦК КП(б)Б канстатуе, што многія мясцовыя партыйныя арганізацыі не аддаюць яшчэ пытанням пастаноўкі марксісцка-ленінскай вучобы ў комсамоле такой увагі, якой патрабуюць зараз задачы ідэйна-палітычнага выхавання комсамольцаў, маладых рабочых і калгаснікаў. Гэта асабліва ярка ўскрыта на праведзенай нарадзе намеснікаў сакратароў ГК і РК ЛКСМБ па палітвучобе.

Партыйныя арганізацыі вельмі часта недаўлічваюць, што велізарнейшыя задачы марксісцка-ленінскай вучобы ў комсамоле без штодзеннай увагі, пастаяннай дапамогі і кіраўніцтва партыйнай арганізацыі сам комсамол выграшыць не здолее.

Большасць партыйных арганізацый, не аказваючы неабходнай дапамогі комсамолу ў падборы прапагандыстаў, не ўваходзяць у змест комсамольскай палітасветы, своечасова не рэагуюць і не вывучаюць паасобных скажэнняў і памылак у пастаноўцы прапагандысцкай работы ў комсамольскіх арганізацыях.

Рад раённых камітэтаў партыі (Нараўлянскі, Буда-Кашалёўскі, Любаньскі, Оршанскі, Старобінскі) яўна недаацэньваюць работу па выхаванню комсамола, няправільна скарыстоўваюць нам. сакратароў РК ЛКСМБ па марксісцка-ленінскай вучобе, пасылаючы іх упаўнаважанымі на доўгія тэрміны па правядзенню розных кампаній.

У рэзультаце да гэтага часу разгортванне асенне-зімовай комсамольскай палітвучобы ў гарадах і падрыхтоўчая работа да арганізацыі яе на вёсцы ў значнай частцы раёнаў, асабліва Магілеве, Лагойску, Дуброўне, праходзіць нездавальняюча.

**ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Прапанаваць усім гаркомам, райкомам КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў, усім пярвічным партарганізацыям прыняць канкрэтныя меры, забяспечваючыя своечасовае разгортванне марксісцка-ленінскай вучобы ў комсамоле, павышэнне яе ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню. Дапамагчы комсамолу дабіцца арганізацыі сур'ёзнай, паглыбленай палітвучобы ў кожнай пярвічнай комсамольскай арганізацыі горада і вёскі ў надыходзячы асенне-зімовы перыяд.

2. Вылучыць з ліку членаў партыі падрыхтаваных для прапагандысцкай работы 750 таварышоў для работы ў сетцы комсамольскіх палітшкол і гурткоў. Зацвердзіць наступныя заданні па раёнах: Менск—100 чал., Гомельскі, Віцебскі—па 40 чал., Магілеўскі, Барысаў-

скі, Бабруйскі РК—па 25 чал., Оршанскі, Полацкі, Мазырскі, Рэчыцкі РК—па 15 чал., Быхаўскі, Горацкі, Дзяржынскі, Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Лепельскі, Петрыкаўскі, Рагачоўскі, Шклоўскі, Слуцкі РК—па 10 чал.

Усе астатнія раёны—па 8 чал.

Абавязаць ГК і РК партыі ўсіх вылучаемых для прапагандысцкай работы ў комсамоле зацвердзіць на бюро горрайкомпартаў, максімальна разгрузіць іх ад іншых нагрузак з тым, каб стварыць умовы для работы над сабой па падрыхтоўцы да заняткаў.

Усіх вылучаных таварышоў прапусціць праз пяцідзенныя семінары пры ГК і РК КП(б)Б. Замацаваць вылучаных таварышоў для вядзення прапагандысцкай работы ў комсамоле да сканчэння палітнавучальнага года.

3. Зацвердзіць пастанову ЦК ЛКСМБ і палітсектара аб правядзенні месячных курсаў прапагандыстаў для вёскі ў колькасці 2 700 чал. Абавязаць РК партыі аказаць усямерную дапамогу комсамолу ў правядзенні курсаў прапагандыстаў (забяспечанне сродкамі, выкладчыцкім складам, харчаваннем, памяшканнем, падручнікамі).

4. У мэтах арганізацыі сістэматычнага кіраўніцтва комсамольскімі прапагандыстамі і аказання дапамогі ім у павышэнні тэарэтычнага ўзроўню і метадычнай кваліфікацыі—абавязаць ГК і РК КП(б)Б:

а) сістэматычна сачыць за работай прапагандысцкіх семінараў, якія з'яўляюцца асноўнай формай падрыхтоўкі прапагандыстаў да заняткаў;

б) дапамагчы комсамолу забяспечыць ахоп семінарамі ўсіх без выключэння прапагандыстаў, дабіўшыся, каб семінары збіраліся ў вызначаныя, дакладна ўстаноўленыя дні і захоўвалася строгая дысцыпліна ў арганізацыі работы семінараў;

в) умяніць у абавязак райкомпартам і нач. палітаддзелаў зацвярджаць кіраўнікоў семінараў комсамольскіх прапагандыстаў;

г) забяспечыць, каб партгабінеты пры парткамітэтах і палітаддзелах абслугоўвалі патрэбы комсамольскай палітсеткі.

5. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў забяспечыць стварэнне адпаведных умоў для работы комсамольскай палітвучобы (памяшканні, святло, падручнікі, дапаможнікі і інш.).

6. Прапанаваць усім ГК, РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў арганізаваць сістэматычную праверку работы комсамольскай палітсеткі.

Устанавіць перыядычнае абгаварэнне на бюро ГК, РК пытанняў становішча палітвыхаваўчай работы ў комсамоле, перыядычнае заслухоўванне прапагандыстаў, сакратароў ГК, РК ЛКСМБ і іх намеснікаў па гэтых пытаннях.

7. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б забяспечыць комсамольскую палітсетку сродкамі не менш 25 проц. ад агульнага бюджэта па партасвеце.

8. Даручыць культпропу ЦК КП(б)Б вылучыць 10 кваліфікаваных навуковых работнікаў у дапамогу комсамолу для чытання актыву і прапагандыстам лекцый і дакладаў.

Забяспечыць комсамольскую сетку палітвучобы неабходнымі падручнікамі.

9. Прапанаваць ЦК ЛКСМБ узмацніць аперацыйнае кіраўніцтва ў справе пастаноўкі марксісцка-ленінскай вучобы, арганізаваць дасканалы ўлік гэтай работы.

Устанавіць такі парадак, каб усе інструктары ЦК ЛКСМБ, выязджаючы ў раёны, непасрэдна займаліся пытаннямі комсамольскай

палітвучобы, правяралі яе становішча і аказвалі дапамогу ў гэтай рабоце комсамольскім арганізацыям.

10. Даручыць культпропу ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ дакладна праверыць склад нам. сакратароў ГК, РК ЛКСМБ па марксісцка-ленінскай вучобе, умацаваць гэтыя ўчасткі найбольш кваліфікаванымі таварышамі з ліку членаў партыі. Арганізаваць на працягу асенне-зімовага перыяда перападрыхтоўку іх праз кароткатэрміновыя (2—3 месячныя) курсы пры партвучэбным гарадку.

11. Абавязаць увесь партыйны і комсамольскі друк сістэматычна асвятляць становішча палітвучобы ў комсамоле і кіраўніцтва гэтай справай з боку партарганізацыі.

12. Рашэнне апублікаваць у друку.

---

Здана ў друк 22/XI—34 г.
Падпісана да друку 28/XI—34 г.
Зак. № 1323.
Тыраж 4220.
Галоўлітбел № 5165.
352.000 друк. зн. ($6^1/_2$ арк.)

*Рэдкалегія*: Мінкін (адк. рэдактар), Конік, Злоткін

Друкарня імя Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

**ЦАНА 25 кап.**

